




Літаратура і мастацтва

газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

15 САКАВІКА 2002г. № 11/4145 КОШТ 285 РУБ.




### БУДЗЬМА РАЗАМ!

*Шаноўныя чытачы!*

*Напамінаем, падпіска на "ЛіМ" на першае паўгоддзе працягваецца. Яе можна аформіць у любым паштовым аддзяленні. Кошт індывідуальнай падпіскі на адзін месяц — 1100 рублёў, на тры — 3300 рублёў.*

**Індывідуальны індэкс — 63856.**

*Кошт ведамаснай падпіскі на адзін месяц — 2500 рублёў, на тры — 7500 рублёў.*

**Ведамасны індэкс — 63857.**

*Фота Ю. ЗАХАРАВА*

***Першыя кволыя кветкі вясны, —***
***Быццам бы явай зрабіліся сны, —***
***Светла ўзыходзяць і радуюць нас,***
***І асвятляюць самотлівы час...***



**УРАДАВАЯ ТЭЛЕГРАМА**

Дарагія сябры!
Шчыра віншуем вас з 70-годдзем з дня выхаду першага нумара газеты "Літаратура і мастацтва".
Сёння газета "ЛіМ" — адно са старэйшых выданняў краіны. Кожны пісьменнік і дзеяч культуры лічыць за гонар быць надрукаваным на старонках выдання. Штотыднёвік "ЛіМ" сваёй творчай і асветніцкай дзейнасцю заслугоўвае ўшанавання. Галоўнымі рэдактарамі газеты на працягу часу былі вядомыя беларускія пісьменнікі: Ілья Гурскі, Аркадзь Куляшоў, Васіль Вітка, Леанід Прокша і іншыя.
І сёння "ЛіМ" застаецца сапраўднай школай творчага майстэрства. Спадзяёмся, што калектыў стваральнікаў газеты зробіць усё, каб і надалей захаваць лепшыя традыцыі культурнай спадчыны краіны.
Жадаем супрацоўнікам здароўя, бадзёрасці, шчасця, дабрабыту і творчага натхнення.

**Намеснік прэм'ер-міністра Рэспублікі Беларусь**
**У. ДРАЖЫН**



**УРАДАВАЯ ТЭЛЕГРАМА**

Паважаныя сябры!
Ад імя Савета Рэспублікі Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь прыміце сардэчнае віншаванне з юбілеем. За гады свайго існавання ваша газета заняла дастойнае месца ў сузор'і лепшых беларускіх выданняў. Гэта сведчыць аб тым, што таленавіты калектыў рэдакцыі знаходзіцца ў няспынным творчым пошуку, мае пачуццё высокай адказнасці перад чытачамі, што з'яўляецца адной з асноўных крыніц сапраўднага прызнання.
Жадаю вам здароўя, шчасця, плённай творчасці і шчырай прыхільнасці чытачоў.

**З глыбокай павагай старшыня Савета Рэспублікі Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь**
**А. ВАЙТОВІЧ**



**УРАДАВАЯ ТЭЛЕГРАМА**

Паважаныя сябры!
Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь шчыра віншуе калектыў рэдакцыі газеты з 70-годдзем з дня заснавання.
Газета "Літаратура і мастацтва" на працягу сваёй гісторыі з годнасцю асвятляе літаратурнае, культурнае і грамадска-палітычнае жыццё нашай краіны. Менавіта на яе старонках упершыню надрукаваны многія творы Я. Купалы і Я. Коласа, юбілей якіх будзе адзначацца ў бягучым годзе. На традыцыйна высокім узроўні друкуюцца матэрыялы па пытаннях развіцця выяўленчага і тэатральнага мастацтва, музыкі, кіно і самадзейнай творчасці. Газета з'яўляецца неад'емнай часткай культурна-асветніцкага асяродка нацыі і ўносіць значны ўклад у папулярызацыю перадавога вопыту ўстаноў культуры. Яна стала любімай і неабходнай для работнікаў культуры і мастацтва, заўсёды знаходзіцца ў пошуку новых, нетрадыцыйных, сугучных часу падыходаў да журналісцкай справы. Калектыву газеты з поспехам удалося вызначыць сваё месца сярод сродкаў масавай інфармацыі і паспяхова выконваць місію прапагандыста лепшых узораў нацыянальнай культуры і мастацтва.
Жадаю супрацоўнікам газеты здароўя, асабістага дабрабыту і шчасця, вялікіх творчых здзяйсненняў!

**Міністр культуры Рэспублікі Беларусь**
**Л. ГУЛЯКА**

*Паважаныя сябры!*
*Беларускае таварыства дружбы і культурнай сувязі з замежнымі краінамі віншуе вас з 70-годдзем штотыднёвіка "Літаратура і мастацтва". Нельга пераацаніць уклад "ЛіМа" ў справу захавання і развіцця нацыянальнай культуры. Самаахвярная праца і творчае натхненне многіх пакаленняў лімаўцаў дазволілі газеце за гэтыя гады стаць сапраўднай скарбонкай беларускай культурнай спадчыны, творчай лабараторыяй нацыянальнай літаратуры і мастацтва.*
*Ганарымся, што нам пашчасціла плённа супрацоўнічаць з вамі, і шчыра ўдзячны за тое, што на старонках "ЛіМа" знаходзіла сваё адлюстраванне і дзейнасць нашай грамадскай арганізацыі, накіраваная на папулярызацыю беларускай культуры ў замежных краінах.*
*Жадаем вам, шаноўныя сябры, моцнага здароўя, шчасця, новых творчых дасягненняў на карысць Роднай Беларусі.*

**Прэзідыум Беларускага таварыства дружбы**

Шаноўныя лімаўцы!
Беларускія энцыклапедысты віншуюць вас з юбілеем. Поспехаў вам творчых на ніве беларускай культуры.

**Г. ПАШКОЎ**

Дарагія сябры!
Віншуем вас з 70-годдзем выхаду ў свет любімай газеты "Літаратура і мастацтва". Мы паважаем і цэнім вас. Мы захапляемся багаццем вашых душ і высокай духоўнасцю, творчым патэнцыялам і шчырай працай у імя культуры Беларусі, мы ўдзячны вам за стварэнне выдатнай газеты, якая на працягу 70-ці гадоў застаецца лепшай, захоўвае свой непаўторны дух інтэлігентнасці. Жадаем вам новых творчых поспехаў, моцнага здароўя, шчасця і дабрабыту.

**Супрацоўнікі Беларускага дзіцячага фонду**

*Дарагія лімаўцы!*
*Віншуем з юбілеем. Здароўя вам і мужнасці і светлага натхнення на родным шляху адраджэння.*

**Вясёлкаўцы:**
**Ліпскі, Маляўка, Тарасава, Чарняўскі**

70 гадоў "ЛіМу"— гэта адметная падзея ў гісторыі і культуры нашай краіны. Цёпла і сардэчна віншуем супрацоўнікаў і чытачоў газеты з гэтай датай. Здароўя, шчасця, творчага плёну.

**Часопіс "Пралеска"**

Шаноўныя супрацоўнікі газеты "Літаратура і мастацтва". Калектыў Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў горача і сардэчна віншуе вас з нагоды 70-годдзя заснавання вашай выключна непаўторнай газеты. Мы высока цэнім ваш агромністы ўнёсак у грамадскае мастацтва і духоўнае жыццё нашай Бацькаўшчыны. Вы заўсёды былі чуйным індыкатарам сацыякультурных працэсаў, якія прадвызначалі развіццё нашага грамадства ў ХХ стагоддзі, але вы ніколі не ішлі ўслед за гэтымі працэсамі, а наадварот, станоўча ўплывалі на іх.

Шырокая плынь знакамітых супрацоўнікаў і аўтараў аказала вялікі ўплыў на развіццё духоўнай культуры нашага народа, інтэлектуальнае выхаванне некалькіх пакаленняў моладзі і станаўленне ўласнай годнасці і свядомасці.

Прафесарска-выкладчыцкі склад акадэміі, студэнцтва зычыць вам творчага даўгалецця, тонкага адчування часу, годна і надалей займаць пачэснае месца ў сферы духоўнага сталення нашага грамадства.

**Рэктар**
**Р. СМОЛЬСКІ**

# Працаваць для свайго народа

Наш народ любіць юбілеі.
Нават калі настрой несвяточны, і гасцей частаваць асабліва няма чым, і сама круглая дата нагадвае, што маладосць адкацілася яшчэ далей...
Літаратура і мастацтва, як частка народа, безумоўна, не могуць абвяргаць народныя традыцыі.
Якое б надвор'е не было на дварэ і на душы, свята пазбаўляць негуманна.
Тым больш сапраўды паважнага — нашаму штотыднёвіку "стукнула" семдзесят гадоў. Віншаванні пачаліся яшчэ напярэдадні афіцыйна прызначанай даты святкавання. У рэдакцыю "ЛіМа" завіталі прадстаўнікі Беларускага саюза журналістаў на чале са старшынёй Л. Екелем. За плённую працу ў беларускай журналістыцы рэдактару аддзела літаратуры, колішняму галоўнаму рэдактару ЛіМа" Міколу Гілю было прысвоена званне "Заслужаны журналіст". Ганаровымі граматамі Саюза журналістаў былі адзначаны адказны сакратар Алесь Гаўрон і рэдактар аддзела музыкі Святлана Берасцень. Прымала рэдакцыя і віншаванні ад Беларускага фонду культуры. Дырэктар фонду, Уладзімір Гілеп уручыў граматы супрацоўнікам рэдакцыі Наталлі Шаранговіч, Вользе Барабаншчыкавай, Юліі Палачанінай, Максіму Прупасу, Вадзіму Доўнару. Дырэктар прадпрыемства "Беларуская мастацкая кераміка", што ў Радашковічах, Мікалай Кладаў падрыхтаваў нечаканы сюрпрыз — спецыяльна выраблены сувенірныя талеркі з лагатыпам "ЛіМа". Не выключана, з цягам часу яны зробяцца антыкварнымі прадметамі вялікай каштоўнасці, і ў "Літаратуры і мастацтве" даследаванню гэтых сімпатычных талерачак будзе прысвечаны грунтоўны артыкул.
А 1 сакавіка ў Доме літаратара адбылася ўрачыстая імпрэза. Вялі вечарыну старшыня Саюза беларускіх пісьменнікаў, які з'яўляецца заснавальнікам выдання, Вольга Іпатава і галоўны рэдактар "ЛіМа" Алесь Пісьмянкоў. Газету творчай інтэлігенцыі Беларусі павіншаваў тэлеграмай намеснік прэм'ер



міністра Рэспублікі Беларусь Уладзімір Дражын. Загадам Міністра інфармацыі Рэспублікі Беларусь Міхаіла Падгайнага першы намеснік галоўнага рэдактара "ЛіМа" Віктар Шніп быў узнагароджаны нагрудным знакам "Выдатнік друку Беларусі". Ганаровымі граматамі міністэрства былі адзначаны супрацоўнікі рэдакцыі Павел Вераб'ёў, Мікола Гіль, Яўген Рагін, Раіса Гузялевіч, Ала Філіпава. Узнагароды ўручала намеснік міністра інфармацыі Лілія Ананіч. Паводле загада міністра культуры Рэспублікі Беларусь Леаніда Гулякі нагрудны знак "Выдатнік культуры" быў уручаны Святлане Берасцень. Супрацоўнікі рэдакцыі Марыя Гілевіч і Людміла Рублеўская атрымалі Ганаровыя граматы міністэрства, якое прадстаўляў намеснік міністра Уладзімір Гедройц. Саюз мастакоў узнагародзіў граматамі і каштоўнымі падарункамі супрацоўнікаў аддзела мастацтва Наталлю Шаранговіч і Пятра Васілеўскага. Павіншавалі "ЛіМ" з юбілеем Іван Карэнда, памочнік Прэзідэнта краіны, начальнік Галоўнага ідэалагічнага ўпраўлення Адміністрацыі Прэзідэнта РБ, вядомы таксама як паэт і даўні аўтар штотыднёвіка.
Зразумела, віншаваць сваю газету прыйшлі лепшыя прадстаўнікі творчай інтэлігенцыі. Народны паэт Беларусі Ніл Гілевіч, колішні галоўны рэдактар штотыднёвіка паэт Анатоль Вярцінскі, паэты Мікола Мятліцкі, Леанід Дранько-Майсюк сказалі шмат добрага на адрас выдання-юбіляра. Гучалі ўзнёслыя вершы, прысвечаныя "ЛіМу". Павіншавалі газету калегі з іншых беларускіх выданняў, кожны са сваім падарункам, няхай сціплым, але ад душы. На сцэну выходзілі галоўны рэдактар часопіса "Полымя" Сяргей Законнікаў, галоўны рэдактар часопіса "Маладосць" Генрых Далідовіч, які перадаў "ЛіМу" віншаванні ад усяго Дома прэсы, галоўны рэдактар часопіса "Вясёлка" Уладзімір Ліпскі. Ад часопіса "Беларусь" "ЛіМ" віншаваў паэт Янка Сіпакоў. Вечарыну аздобілі песні ў выкананні барда Пятра Русава, вядомага археолага і таксама аўтара "ЛіМа". Завяршылі вечарыну гарэзныя спевы і мелодыі ансамбля "Менскі гармонік".
Музыка была вясёлая, што ж тычыцца агульнага настрою вечарыны, акрамя мажорных нотаў, гучала і шмат мінору. І нават урачыстай медзі — часам выступоўцы збіваліся з жанру дыфірамба на публіцыстыку. Засведчана, аднак, было галоўнае: "ЛіМ" нават у самых неспрыяльных эканамічных абставінах — яркая з'ява нацыянальнай культуры, якая прыцягвае да сябе ўвагу ўсяго грамадства.

**Н. К.**

# У Саюзе беларускіх пісьменнікаў

Адбылося пасяджэнне рады СБП, на якой прысутнічала намеснік міністра інфармацыі РБ Л. Ананіч. Яна дала тлумачэнні па повадзу зліцця рэдакцый выданняў, заснавальнікам якіх з'яўляецца Саюз беларускіх пісьменнікаў. Адбылася дыскусія, у якой прыняў удзел пісьменнік, старшыня камісіі па міжнародных справах і нацыянальнай бяспецы М. Чаргінец.

●

У бібліятэцы Дома літаратара адбылася прэзентацыя кніг амерыканскага паэта Сэма Оклендa "Усмешкі за кубкам гарбаты" і "Паўночнае сонца". Кнігі гэтыя прысвечаныя тэме кахання. Дзве гадзіны перакладчыца Таццяна Шпартава і Сэм Окленд чыталі вершы раскаванай, сучаснай рытмікі, у якіх расказвалася пра вялікае пачуццё паэта да балерыны з былога СССР, пра наш Мінск, пра найтанчэйшыя пералівы чалавечай душы.

На вечарыне выступіла таксама старшыня СБП Вольга Іпатава.

●

У вялікай зале Дома літаратара адбылася вечарына памяці Міхася Ткачова — стваральніка Беларускай гістарычнай энцыклапедыі, гісторыка-вучонага, пісьменніка. Старшыня СБП В. Іпатава, якая разам са старшынёй ТБМ А. Трусавым вяла вечарыну, паведаміла, што М. Ткачоў прайшоў праз прыёмную камісію СБП і мог быць членам творчага саюза.

На вечарыне з успамінам аб М. Ткачове выступілі М. Чарняўскі, С. Панізнік, А. Марачкін, С. Шушкевіч, В. Вячорка і іншыя.

**Н. К.**

АБСЯГІ

*БРЭСТЧЫНА...*

## У гонар Напалеона Орды

Арыгінальная драўляная арка з надпісам "Парк імя Напалеона Орды" ўзведзена да 195-годдзя слыннага земляка ў цэнтры вёскі Гарбаха Іванаўскага раёна, што непадалёк ад суседніх Варацэвічаў, дзе нарадзіўся вядомы графік і кампазітар. Ганаровы заказ мясцовага сельсавета на выраб адмысловай аркі выканаў разьбяр па дрэве Уладзімір Лукашык.

У маладым парку, закладзеным тут чатыры гады таму, пасаджана больш за дзве тысячы дрэўцаў і кустоў, ёсць рукатворны ставок, фантан, алеі з дубкоў, бяроз, ліп... Непадалёк ад аркі, пры ўваходзе ў парк, месціцца вялізны камень-валун, да якога з часам будзе прымацавана мемарыяльная дошка з памятным надпісам.

## У Люсіна, пад Цеseveroў дуб

Тэматычны план падрыхтоўкі да 120-годдзя з дня нараджэння Якуба Коласа распрацаваў Ганцавіцкі райвыканкам. У шырокім коле мерапрыемстваў — конкурсы на лепшае сачыненне школьнікаў па творах народнага песняра, на лепшага чытальніка іх урыўкаў, на лепшы дзіцячы малюнак. Пройдуць літаратурна-музычныя вечарыны "Ад прадзедаў нам засталася спадчына". І, натуральна, — раённае свята кнігі "Песняй вітаю я вас".

А тым часам у Люсіне, дзе ў 1902—1904 гадах настаўнічаў Якуб Колас, у красавіку адзначыць сваё 20-годдзе школьны музей яго імя. На скрыжаванні, дзе стаяла школа, у якой працаваў будучы майстар слова, будзе ўстаноўлены памятны знак з мемарыяльнай дошкай.

## Да 550-годдзя Драгічына

У Брэсцкі краязнаўчы музей, а таксама ў бібліятэкі раёна паступаюць тэматычныя брашуры па краязнаўстве, якія пачала выпускаць цэнтральная раённая бібліятэка. Вось некаторыя з іх — "Эліза Ажэшка і Людвінова", "Вёска Жабер", "Кузьміч Мікалай Пятровіч". Цяпер бібліятэчныя работнікі рыхтуюць даведачны матэрыял да 550-годдзя горада Драгічына, святкаванне юбілею якога адбудзецца сёлета.

## Радавод на сто год

Унікальнае выданне са зваротамі Пінскага райвыканкама "З днём нараджэння, Малыш!" будзе ўручацца неўзабаве татам і мамам разам з пасведчаннем аб нараджэнні дзіцяці ў сельскіх Саветах раёна. Гэта стала магчымым пасля таго, як ААТ "Брэсцкая друкарня" выпусціла ў свет сямейную кнігу-радавод, якая можа запаўняцца з моманту нараджэння і да глыбокай старасці. На апошняй старонцы, пражыўшы век, чалавек можа напісаць сваё духоўнае завяшчанне дзецям, унукам і праўнукам, перадаць ім кнігу як запавет, як сямейную рэліквію. Кніга выдадзена на сучасным паліграфічным узроўні: у два колеры і ў цвёрдай вокладцы.

**Мікола ПАНАСЮК**

## Літаратура маладзее

Той літаратурны падмурак, які заклаў на Берасцейшчыне вядомы пісьменнік Уладзімір Калеснік, умацоўваецца штогод за кошт маладой змены.

Школьнікі, навучэнцы гімназій і ліцэяў, спрабуючы свае здольнасці ў паэзіі і прозе, выдалі нядаўна зборнік "Дэбют". Новую кніжку пад назовам "Свет імгненняў" выдаў і брэсцкі журналіст і літаратар Анатоль Рэзановіч. Добра ўспрымаецца і зборнік вершаў "Твое окно" настаўніцы Алены Дунькові ч, які пабачыў свет у Мінску на пачатку лютага.

**Анатоль ХАРЛАМАЎ**

КАНЦЭРТЫ

# Лючыя перпетуум-мота



"Ні дня без радка", "Не можа не граць" — так звычайна гавораць пра захопленых працай пісьменнікаў, журналістаў, музыкантаў. Гэтыя словы датычаць і альтысткі Лючыі Ластаўкі. Улюбёная ў свой унікальны інструмент, яна грае ўсё жыццё, без гэтага нават не можа жыць. Яе альт як самы лепшы незаменны сябра. А гучыць ён мякка, шчыра, сардэчна, быццам пяшчотны мілагучны чалавечы голас. На сваім юбілейным сольным канцэрце Лючыя літаральна не выпускала з рук свайго пестуна і захоплена грала, грала, грала.

Пачала з сола Капрычыо для альта бельгійскага скрыпача і кампазітара А. В'етана. Потым прагучаў дуэт для двух альтоў. В. Ф. Баха (старэйшага сына Ягана Себасцьяна), у якім з ёй выступіў першы намеснік міністра культуры Уладзімір Рылатка. У дуэце для альта і віяланчэлі Бетховена разам з юбіляркай граў Ілля Жукоўскі. Па ходзе праграмы мяняўся склад інструментаў, саміх музыкантаў. Нязменным быў толькі ўдзел нястомнай Лючыі Ластаўкі. Трыо №1 сі-бемоль мажор Ф. Шуберта для скрыпкі, альта, віяланчэлі змяніў Тэрцэт для дзвюх скрыпак і альта А. Дворжака.

Яркім творам іспанца Х. Турына "Андалузскія сцэны" для альта, струннага квартэта і фартэпіяна закончылася першае аддзяленне, на працягу якога адчуваліся шчырасць, інтэлігентнасць, высокі прафесіяналізм выканаўцаў. Акрамя ўжо названых музыкантаў, сярод іх былі піяністка Настасся Бялан, скрыпач Алег Подаў, альтыст Уладзімір Куніца, віяланчэліст Аляксей Афанасьеў, скрыпачка Таццяна Лявіцкая. У гэты вечар выконваліся творы, ноты якіх Л. Ластаўка прывезла з Бостана некалькі гадоў таму, калі з мужам гасцявала ў сяброў. Гэтыя творы яна і сама грае, і вучням прапануе.

У заключэнне адбылася прэм'ера Канцэрта для альта, струнных і званоў кампазітара Галіны Гарэлавай. Голас альта Лючыі Ластаўкі быў то шчыры, пявучы, то пяшчотны. На думку аўтара музыкі, сольная кадэнцыя ў выкананні юбіляркі прагучала з натхненнем, ярка, выразна. Высокія прафесійныя якасці праявілі і артысты Дзяржаўнага камернага аркестра Беларусі пад кіраўніцтвам яго галоўнага дырыжора Уладзіміра Байдава. Новы твор Г. Гарэлавай адрозніваецца вялікай фантазіяй, глыбокім псіхалагізмам. Публіка, сярод якой было шмат прафесійных музыкантаў, сяброў, блізкіх саліст кі, доўга не адпускала выканаўцу. Лючыю Ластаўку літаральна засыпалі кветкамі.

Усё сваё жыццё Лючыя Леанардаўна канцэртуе ў сімфанічных, камерных аркестрах. Апошняму нядаўна споўнілася 34 гады, з іх 31 яна працавала канцэртмайстрам альтоў. Грала з многімі таленавітымі дырыжорамі. "Лічу, што я шмат чаму навучылася ў яркага блiскучага віяланчэліста, дырыжора Юрыя Цырука, з падачы якога саліравала, развівала альтовае мастацтва", — гаворыць яна. І зараз яе як спрактыкаванага музыканта запрашаюць у гастрольныя паездкі сімфанічныя аркестры опернага тэатра, філармоніі, радыё і тэлебачання.

Студэнтам Л. Ластаўкі ёсць чаму павучыцца ў яе як у канцэртанта. Не кожны педагог у яе ўзросце так актыўна працуе і можа так артыстычна, натхнёна выступаць! За семнаццаць гадоў педагагічнай дзейнасці яна выхавала нямала таленавітых вучняў.

Да юбілею Лючыі Леанардаўны Ластаўкі кампазітар Галіна Гарэлава падаравала ёй сваю п'есу "Лючыя перпетуум-мота", што азначае Лючыя — бесперапынны рух. Менавіта такая яна — нястомная, энергічная, прыгожая, захопленая жыццём жанчына.

**Вера КРОЗ**

*ГРОДЗЕНШЧЫНА...*

## Тры постаці мастака

Імя Рычарда Грушы ў творчых колах Ліды набыло вядомасць нядаўна, пасля леташняй выставы работ мастака ў мясцовым музеі. Адметна, што выступае ён перад землякамі ў трох постацях: як мастак-пейзажыст, разьбяр па дрэве і паэт. Асноўны ж занятак лідчаніна — прадпрымальніцтва. Але і сваім музам творца аддае нямала часу. Аб гэтым сведчыць адкрытая ў Гродне выстава яговых твораў. Неўзабаве яны будуць экспанавацца ў Генеральным консульстве Польшчы ў Гродне.

## Патрыятычны конкурс

У Іўеўскім раёне праходзіць конкурс песні і танца, прысвечаны гэтаму куточку Беларусі. Маладыя людзі ад 14 да 35 гадоў прапануюць на суд гледачоў творы, якія ўслаўляюць мінулае і сучаснае роднага краю, яго традыцыі, знакамітыя мясціны... Творчае спаборніцтва наладжана аддзелам культуры райвыканкама і маладзёжнымі актывістамі.

## Адукацыя мінуўшчыны

Як развівалася на Навагрудчыне адукацыя, пачынаючы з XVII стагоддзя і канчаючы перадваенным часам, расказвае выстава, адкрытая ў мясцовым гісторыка-краязнаўчым музеі. Як вучыліся вучні ў далёкім і не зусім мінулым, як бавілі час, хто ўславіў тутэйшае школьніцтва сваімі іменамі? Аб гэтым красамоўна расказваюць музейныя экспанаты. Асаблівую цікавасць уяўляюць матэрыялы з жыцця Навагрудскай беларускай гімназіі.

**Алесь ЖАЛКОЎСКІ**

# На хвалях Беларускага радыё

## АНОНС ПРАГРАМ ПРА ЛІТАРАТУРУ НА НАСТУПНЫМ ТЫДНІ

"ЛІТАРАТУРНЫ ВЕЧАР" — так называецца цыкл перадач, якія гучаць штодзённа, акрамя выхадных, у 22.10 па беларускім часе на першым канале радыё.

У панядзелак, 18 студзеня, у эфіры "МУЗЕЙНЫЯ ТАЙНЫ". У праграме — цікавы і змястоўны аповед вучонага сакратара Дзяржаўнага літаратурнага музея Янкі Купалы Алены Бурбоўскай пра аўтографы песняра.

"ПАРОДНЕНЫЯ МУЗАЙ" — аўтар і вядучы пісьменнік Уладзімір Дзюба запрашае ў аўтарак на гутарку з празаікам Генрыхам Далідовічам. Прагучаць пераклады на беларускую мову твораў Івана Буніна.

У праграме Святланы Шалімы "БЕЛЫ АРКУШ" у сераду прагучаць творы маладых аўтараў Таццяны Сівец і Дзмітрыя Строцава.

У пятніцу, у праграме "ДА 120-ГОДДЗЯ Я. КУПАЛЫ і Я. КОЛАСА" Васіль Макаравіч раскажа пра перыяд з жыцця песняроў напярэдадні Айчыннай вайны.

Як заўжды, у нядзелю, у 15—30 — у эфіры "ЛІТАРАТУРНЫ ПРАСПЕКТ" раскажа пра апошнія падзеі літаратуры. У дыскусійным клубе пра ролю ўплываў на творчасць пісьменніка будуць гаварыць Алесь Астраўцоў і Андрэй Хадановіч.

На завяршэнне прагучыць літаратурная віктарына.

Сусветнаму дню паэзіі будзе прысвечана перадача "РОДНАСЦЬ", якая прагучыць у чацвер.

Сусветнаму Дню паэзіі на Беларускім радыё прысвячаецца шэраг праграм. У цыклах "Цытата дня", "Праграма "А", "Для тых, хто дома" і г.д. адбудуцца сустрэчы з вядомымі паэтамі, будуць гучаць іх вершы. А завершыцца радыёдзень літаратурна-музычнай кампазіцыяй "Ты — боль, паэзія. Ты — быль", дзе прагучаць творы Я. Купалы, Я. Коласа, У. Караткевіча, М. Стральцова, А. Пысіна, А. Сербантовіча, Я. Янішчыц, Ю. Свіркі, Л. Галубовіча, А. Пісьмянкова і іншых.

**Н. К.**

*ВІЦЕБШЧЫНА...*

## У Глыбокім з'явіўся тэатр

Пасля дзесяцігадовага перапынку ў Глыбокім зноў аб'явіўся тэатр. На гэты раз пад кіраўніцтвам маладога рэжысёра Алены Шынкевіч. У тэатральнай зале імя Ігната Буйніцкага гарадскога цэнтра культуры адбылася прэм'ера па п'есе Ніны Сямёнавай "Печка на коле", якую паставіў новы калектыў.

Глыбокае славілася сваімі тэатральнымі традыцыямі. Менавіта на Глыбоччыне нарадзіўся бацька беларускага тэатра Ігнат Буйніцкі. На ўсю вобласць грымела ў свой час слава пра Зою Арлову (Зарыцкую), якая не толькі стварыла цудоўную тэатральную трупу, але і сама пісала драматычныя творы. Эстафету ад яе пераняў вучань Валерыя Раеўскага — Аляксандр Грыгалец. Па розных прычынах і Арлова, і Грыгалец пакінулі Глыбокае, іх калектывы распаліся, наступіла зацішша ў тэатральным жыцці.

І вось сцэна горада зноў ажыла. З былых артыстаў не было нікога. Ігралі ў асноўным маладыя настаўнікі школ горада Наталля Шарынская, Андрэй Рамашка, Юрый Ламачэнка, Анатоль Шарабайка, педагог Запрудскай школы Барыс Заяц і работнік аддзела культуры Таццяна Малатоўнік. Ігралі ўпэўнена, як прафесіяналы. Гэта дае спадзяванку, што паказаны спектакль у выкананні гэтага калектыву — не апошні.

**У. САУЛІЧ**

## Віншуем першага лаўрэата!

**Летась рэдакцыя часопіса "Вожык" заснавала штогадовую Літаратурную прэмію імя Кандрата Крапівы — класіка беларускай літаратуры, першага галоўнага рэдактара часопіса "Вожык". А ўжо сёння мы можам абвясціць імя першага лаўрэата гэтай прэстыжнай прэміі — Паўла Саковіча, вядомага паэта, гумарыста і сатырыка.**

**Лаўрэат прэміі вызначаецца рэдкалегіяй часопіса "Вожык" па выніках года. Прэмія прысуджаецца за выдатныя сатырычна-гумарыстычныя творы, надрукаваныя на старонках часопіса. Лаўрэат прэміі абвяшчаецца ў дзень нараджэння Кандрата Крапівы, 5 сакавіка. Ён узнагароджваецца спецыяльным дыпломам часопіса "Вожык" і грашовай прэміяй.**

**З нагоды ўручэння прэміі Паўлу Саковічу ў мінскай абласной бібліятэцы імя А. Пушкіна адбылася вечарына. У ёй узялі ўдзел і сказалі шмат цёплых слоў пра першага лаўрэата намеснік міністра культуры В. Гедройц, старшыня Саюза беларускіх пісьменнікаў В. Іпатава, галоўны рэдактар часопіса "Вожык" М. Пазнякоў, паэт П. Місько, паэт і бард Э. Акулін, дырэктар абласной бібліятэкі Н. Чуева. Была арганізавана таксама выстава кніжак Паўла Саковіча. Ну і, канечне, упрыгожыла вечарыну выступленне самога лаўрэата, які прачытаў свае новыя сатырычныя творы.**

**Трэба падзякаваць супрацоўнікам мінскай абласной бібліятэкі імя А. Пушкіна і яе дырэктару за актыўны ўдзел у арганізацыі вечарыны.**

**Уладысь ЦВЯТКОЎ**

## Георгій Марчук у студэнтаў

**У Беларускім універсітэце культуры сталі традыцыйнымі сустрэчы з беларускімі пісьменнікамі. На гэты раз студэнты 3 курса завочнага факультэта горача віталі вядомага пісьменніка Георгія Марчука. які наведаў універсітэт па запрашэнні загадчыка кафедры беларускай мовы і літаратуры Вольгі Гуліцкай.**

**Выкладчыкі і студэнты вялі зацікаўленую гутарку аб драматургічных і празаічных творах Г. Марчука — раманах "Крык на хутары", "Кветкі правінцыі", "Прызнанне ў забойстве"...**

**Горача сустрэты студэнтамі, выступіў і сам Г. Марчук. Ён пазнаёміў удзячных чытачоў з новымі творамі, адказаў на шматлікія пытанні.**

**Прысутныя сардэчна падзякавалі пісьменніку за цікавае выступленне.**

**Анатоль МАСІЯЗ**

## "Беларуская думка", № 2

**Раздзел "Літаратура і жыццё" прадстаўлены вершамі У. Марука і працягам "Ненапісанай аповесці" І. Пташнікава. М. Шэлехаў ("Стагоддзе Савіцкага" разважае пра творчасць аднаго з самых выдатных жывапісцаў сучаснасці, В. Кандраценка рэцэнзуе кнігу Е. Бондаравай "От сердца — к сердцу" пра В. Турава ("Ведаеце, які ён быў?"), а А. Карлюкевіч дзеліцца ўражаннямі ад краязнаўчага нарыса У. Содаля "Карпілаўка", што папоўніў серыю "Ведаць свой край Беларусь", якую выпускае недзяржаўнае выдвецтва "Пейто" ("Літаратурная сядзіба"). "Дзе яны, скарбы роду Радзівілаў?" — над гэтым разважае А. Ненадавец. Нядаўна адзначалася 100-годдзе з дня нараджэння Р. Мурашкі. Пра жыццёвы і творчы шлях выдатнага пісьменніка расказвае А. Марціновіч у артыкуле "Не заўсёды спяваюць салаўі", змешчаным у раздзеле "Асоба". Развагі прафесара кафедры знешняй палітыкі і дыпламатыі Акадэміі кіравання пры Прэзідэнце Рэспублікі Беларусь В. Смірнова "Хто зло, няпраўду сее — той гора пажынае" прапануюцца ў раздзеле "Момант ісціны". А адкрываецца нумар артыкулам аглядальніка "БД" "На новым вітку развіцця".**

# Шаўчэнка на Беларусі

Год 1829. Пятнаццацігадовы прыгонны *"казачок"* Тарас Шаўчэнка з Украіны праз Менск едзе ў Вільню. Яго чакае Вялікі свет: Пецярбург, дзе ён скончыць Акадэмію мастацтваў, будзе выкуплены з прыгону і зробіць свае першыя творчыя крокі. Ён пражыве ўсяго 47 год, але помнікі яму паўстануць у Паўднёвай і Паўночнай Амерыцы, Аўстраліі, Аргенціне, Маскве, Санкт-Пецярбургу, Мінску, Варшаве, Вашынгтоне, Таронта. Не маючы адмысловай літаратурнай адукацыі, ён стане сусветна вядомым паэтам. Яго бессмяротны "Запавіт" будзе перакладзены больш чым на сто моў свету. У тым ліку і на беларускую. *Упершыню гэта зробіць Янка Купала* (1913), і не адзін беларускі паэт пасля паспрабуе паўтарыць гэты "подзвіг". На сённяшні дзень ужо ёсць дзесяць вырыянтаў перакладу.

Год 2002. Ва ўкраінскай амбасадзе ў Мінску пасол Анатоль Дронь распавядае журналістам пра культурнае значэнне кабзара і даводзіць да іх ведама праграму мерапрыемстваў "Года Шаўчэнкі" ў Беларусі. Гэты год стаўся такім па ініцыятыве ўкраінскіх грамадскіх арганізацый. Ініцыятыва была ўхвалена кіраўніцтвам Украіны і падтрыманая ўрадам Беларусі. (У нас, між іншым, пражывае 240 тысяч грамадзянаў РБ украінскага паходжання і створаны Беларускі Савет украінскіх грамадскіх арганізацый.) Каб нагадаць прысутным пра ролю Шаўчэнкі ў нацыянальных культурах Украіны, Расіі, Беларусі, прысутным дэманструюць першую серыю тэлефільма "Мій Шаўчэнка", знятага студыяй "1+1". Мажліва, што цалкам гэты фільм беларусы неўзабаве пабачаць па БТ, але пакуль пра жыццё кабзара даводзіць пасол Дронь. "Асноўны накірунак творчасці Шаўчэнкі – абуджэнне нацыянальнага духу. Ён перакладаў "Слова пра паход Ігаравы", Біблію, выдатна ведаў творчасць Шэкспіра, захапляўся рускай, нямецкай, польскай, чэшскай, французскай літаратурамі. Захапіўшыся ў свой час славянафільскім рухам, модным на той час, Тарас Георгіевіч паступова прыйшоў да *разумення сацыяльных падстаў для нацыянальнага абуджэння тагачасных частак* Расіі. Землякоў ён будзіў сваёй лірай. Аднак водгук знайшоў і за межамі Бацькаўшчыны". І гэта праўда, бо і нашыя Янка Купала, Якуб Колас, Максім Багдановіч лічылі Шаўчэнку сваім "духоўным бацькам".

Аб духоўнай сувязі паміж нашымі народамі ішла гаворка на творчых вечарынах у музеі Багдановіча, у Доме Дружбы, не пакінуць яе без увагі на запланаваных сустрэчах у музеях згаданых ужо Купалы і Коласа.

Праграма "Года Шаўчэнкі" змястоўная па тэматыцы, і ацаніць яе змогуць не толькі жыхары нашай сталіцы, але і цікаўныя з Брэста і Гомеля. У Беларускай акадэміі спорту ўжо прайшла віктарына "Ці ведаеш ты Украіну ?", удзельнікі якой былі ўзнагароджаны паездкай у суседнюю краіну. Кнігі нашых суседзяў былі шырока прадстаўлены на Беларускай кніжнай выставе. Бліжэйшым часам можа быць адкрытае аддзяленне ўкраінскай кнігі ў краме "Акадэмкніга". Тое ж плануецца ў Брэсце і ў Гомелі. Што ж датычыць сталіцы, то тут праз некаторы час паўстане асобны магазін украінскай кнігі. Актыўна вядзецца падрыхтоўка да дзён украінскага кіно ў Беларусі, якія пройдуць ужо ў траўні. Для прагляду прапанавана дванаццаць фільмаў у асноўным Адэскай кінастудыі і кінастудыі імя Даўжэнкі. Гэта "Чорная рада" аб падзеях пасля смерці Багдана Хмяльніцкага, "Другасныя людзі" пра жыццё сучаснае, "Кацярына Балакур" пра геніяльную мастачку-самавучку. Знайшла сваё ўвасабленне ў нацыянальным кінематографе і творчасць Лесі Украінкі — "Поле крыві". Праблемы падзення маралі ў сучасным грамадстве абмяркоўваюцца ў фільме "Ліст у Амерыку". Роўна як і стужка пра жыццё і творчасць Шаўчэнкі, гэтыя творы будуць прапанаваны кіраўніцтву БТ, і спадзяемся, апошняе не застанецца абыякавым да навінак суседзяў. Тым больш, што да гэтага іх абавязвае адпаведнае міждзяржаўнае пагадненне аб абмене інфармацыяй, датаванае 1998 годам.

У красавіку пройдуць дні эканомікі і культуры Кіева. У межах іх правядзення плануецца афіцыйнае адкрыццё помніка Шаўчэнку. Ён усталяваны ў рэканструяваным скверы побач з амбасадай. Гэты падарунак зрабіла нашай сталіцы сталіца Украіны. Там жа ўзведзена і "Шаўчэнкава крыніца" з артэзіянскай вадой. Дзякуючы Чаркаскай вобласці, бюст паэта да верасня паставяць у Брэсце. Не выключана, што адкрыццё помніка пройдзе ў прысутнасці прэзідэнта Украіны Леаніда Кучмы і прадстаўнікоў творчых калектываў той жа Чаркаскай вобласці (радзімы Шаўчэнкі). Музей "Бацькіўшына Тараса Шаўчэнкі" прапануе беларусам уласную экспазіцыю. Будуць з гэтай нагоды пасаджаны прывезеныя з радзімы кабзара дрэвы.

Трэба чакаць, што пра "Год Шаўчэнкі" даведаюцца і гледачы "Славянскага базара ў Віцебску". Ва ўсялякім выпадку аб гэтым украінская амбасада збіраецца хадайнічаць перад нашым Міністэрствам культуры. Пагадзіцеся, што такое насычэнне традыцыйных "базараў" выглядала б адпаведным той шырыні святкаванняў, якое зараз назіраецца на Украіне. Тым больш, што, па словах спадара Дроня, суседзі не пакідаюць без увагі нашых юбіляраў (Купалу і Коласа). Канферэнцыі, творчыя вечарыны, прысвечаныя вялікім беларусам — своеасаблівая даніна памяці суседзяў. Праўда, помнікаў ім не ўсталююць, але выключна з прычыны неініцыятыўнасці ў гэтым рэчышчы беларускіх уладаў. Як запэўніў пасол, калі ўрад РБ прыкладзе для гэтага пэўныя намаганні, помнікі нашым класікам паўстануць у найпрыгажэйшых месцах Украіны. Як паўстане ў гэтым годзе ў Ялце помнік Максіму Багдановічу. Між іншым згаданыя класікі нашай літаратуры з гэтага года ўключаны ў праграмы сярэдніх школ і ВНУ Украіны.

Варта дадаць, што ў дадзеным артыкуле пералічаны толькі асноўныя мерапрыемствы "Года Шаўчэнкі". У межах газетнага матэрыялу ўсё не пералічыш, але мы будзем іх адследжваць і своечасова паведамляць пра іх чытачам.

**Вадзім ДОЎНАР**

ТРЫ ГРОШЫ

# Свая алімпіяда



Ну вось і скончылася алімпіяда ў Солт-Лэйк-Сіці. Здаецца, толькі два тыдні таму кіпелі жарсці. Косткі спартоўцаў, трэнераў і суддзяў абмывалі шараговыя балельшчыкі, дэпутаты Дзярждумы РФ, прэзідэнт Расіі. Ладзіліся дыскусіі ў друку і на тэлевізіі. Прайшло некалькі дзён і... Пра спаборніцтвы ніхто не згадвае. Апроч, *магчыма, сатырыка Задорнава,* які ў студыі "Зеркало" закрэсліў у пашпарце сваю амерыканскую візу (танны, варта сказаць, дэмарш). Можа, зараз і шкадуе...

Паказальна, што расейскі кліч "Наших бьют!" не знайшоў аніякага водгуку ў нашай краіне. Ці то таму, што паспелі ўжо парадавацца перамозе айчынных хакеістаў над шведамі, ці то таму, што паразы беларусаў былі бясспрэчныя і абвінавачваць суддзяў было б проста недарэчна. Парламент суседзяў заклікаў нас да салідарнасці з людзьмі, якія не прайшлі допінг-кантроль, мы ж чакалі *завяршэння алімпіяды, бо перасталі ўжо* спадзявацца на нашых алімпійцаў. Мажліва, і таму, што гэтыя "нашыя"— збольшага выхадцы з расійскіх спартовых клубаў. Як не раз бывала ў нашай гісторыі, людзі, не вытрымаўшы канкурэнцыі на сваёй зямлі, шукалі шчасця і чыноў на нашай. Каб атрымаць грамадзянства РБ, расіянам, у адрозненне ад іншых, не трэба чакаць сямігадовы (як па закону) асіміляцыйны перыяд. Спадзяёмся, што "ніякі" выступ гэтых "нашых-нянашых" будзе ўлічаны падчас наступнага прыёму ў грамадзянства. Пакуль жа, як сведчаць падпісаныя днямі дакументы, тых, каго "запрашаюць у беларусы", больш за тых, каму ў гэтым адмаўляюць (255 і 24 адпаведна).

З радыкальнай прапановай пасля *завяршэння алімпіяды выступіў трохразовы* алімпійскі чэмпіён, дэпутат ППНС, дырэктар алімпійскага фонду Уладзімір Парфяновіч. Выратаванне ён бачыць не ў асігнаванні бесперспектыўных нацыянальных зборных ("Я б увогуле спыніў фінансаванне... Хай шукаюць спонсараў, выплываюць як хочуць"), а ў тым, каб не шкадаваць грошы на дзяцей. "Пачынаць трэба з дзіцячага, юнацкага і студэнцкага спорту. Гэта сістэма ў нас разбурана, яе практычна няма. Вось скарацілі бюджэтнае фінансаванне фізічнай культуры і спорту ў два разы. Гэта ў першую чаргу ўдарыла па дзіцячаюнацкіх *спартшколах*".

Ды што там спартовыя! Згодна з паведамленнямі прэсы і звесткамі з вучэбных устаноў, Савет Міністраў збіраецца скараціць колькасць звычайных агульнаадукацыйных школ. Тым жа, што застануцца, прапанавана... зарабляць грошы самім. "Як ?" — запытаецеся вы. Прапануецца здаваць у арэнду памяшканні, напрыклад, тыя ж спартовыя залы ці басейны. Для спецыялістаў тут, мяркуем, не трэба нават ніякіх каментараў. Адзначым, што наўрад ці сярод вучняў гэтых школ знойдзецца шмат жадаючых займацца спортам за грошы.

Самае цікавае, што банальнае сцвярджэнне пра адсутнасць у дзяржавы грошай — гэта альбо недасведчанасць, альбо скваласць. Не там шукаеце. На працягу апошніх некалькіх тыдняў разгараўся скандал пад назвай "Гандаль зброяй". Быццам бы Беларусь у абыход кіраўніцтва ААН прадае зброю краінам-"ізгоям". Высокапастаўлены чыноўнік Дзярждэпу ЗША нават прыгразіў увядзеннем жорсткіх санкцый. Як і варта было чакаць, нікога гэта заява не напалохала. І нічога новага амерыканцы ўжо, здаецца, не прыдумаюць. Невядома, ці прадаюць беларусы зброю Іраку і К°, але ж іншым зброя прадаецца (гэтага ніхто не хавае), і справа гэта грашовая. Народ, праўда, дакладна не ведае, якія гэта грошы, але ж можна сцвярджаць: іх хопіць і на нацыянальныя зборныя і на спартовыя, і на агульнаадукацыйныя школы. Дык укладайце ў будучыню! А Радзіма вас не забудзе. Калі ж некаму падаецца, што для развіцця нацыянальнага спорту дастаткова пабудаваць некалькі лёдавых палацаў, а настаўнік — *волат па прызначэнні* (няўжо забыліся прэзідэнцкія словы, што калі згубім настаўніка, будзем хадзіць п'яныя і дурныя?), можам падказаць яшчэ некалькі месцаў для выгаднага ўкладання грошай. Музей ВАВ, Нацыянальны музей гісторыі і культуры, якія знаходзяцца ў аварыйным стане, старэйшыя літаратурныя газеты і часопісы, што зараз апынуліся на мяжы закрыцця. Ды ці мала куды яшчэ можна ўкласці ! Было б жаданне. А медалі на грудзі будуць.

**Вадзім ДОЎНАР**

# Тое-сёе пра "братоў нашых малодшых"

*Уладзімір ГЛУШАКОЎ*

КОЛЬКІ разоў даводзілася назіраць, як "браты нашы малодшыя" — звычайныя хатнія каты, падпарадкоўваючыся вясновым інстынктам, імкнуць на вуліцу, знаходзяць часовы прытулак на аўтастаянках, звычайна дваровых, ладкуючыся, як ні дзіўна, пад легкавікамі.

Горш, канешне, калі такі прытулак "браткі" нашы вымушаны шукаць па прыхамаці чэрствых душой гаспадароў...

Я б здзіўляўся і спачуваў бяздомнаму кацінаму племені яшчэ доўга, калі б суседвадзіцель, мой равеснік, прастадушна і весела не растлумачыў мне:

— Звычайна пад машынай зацішна і цёпла ў любое надвор'е, асабліва калі ад працы рухавіка жалеза не паспела астыць. Вось яны, небаракі, і лезуць да цёплай бляхі.

— Так лёгка і пад колы трапіць, калі машына нечакана кранецца з месца... — выказаў я здагадку.

— Нешта не прыгадаю выпадку, — пацiснуў плячамі сусед. — Кошкі адмысловым слыхам засцерагаюцца ў жыцці... Карацей, тэхніку бяспекі захоўваюць строга і няўхільна. Інакш загінуць.

Гэтак і нам, людзям, не лішне павучыцца таму-сяму ў "братоў нашых малодшых".

## Пачуць і сказаць... вачамі

Выпадкова звярнуў увагу, як размаўляюць глуханямыя. Неяк дзіўна было аддаваць ім, абяздоленым ад нараджэння людзям, перавагу ў параўнанні з намі, пазбаўленымі фізічных анамалій, ужо за тое, што пры размове яны ўвесь час глядзяць адзін аднаму ў вочы. Ні на імгненне не адводзячы позірку.

У нас, "нармальных", і вочы бегаюць, і пазіраем мы паўзверх галавы субяседніка ці ў зямлю, глядзім скрозь яго...

І вось яны — глуханямыя. Куды дзяецца прыніжаючыя чалавека жаласлівасць і лёгкая адчужанасць, калі ўбачыш раптам уважлівыя, засяроджаныя, знешне нібыта застылыя і ў той жа час багатыя на адценні, позіркі суразмоўцаў, позіркі, якія напаўняюць рухі рук тым жывым, выразным зместам, калі за немудрагелістымі скокамі пальцаў можна ўжо і не сачыць ці лавіць іх бакавым зрокам...

Менавіта гэтая акалічнасць заўважанага імпануе настолькі, што не ўзнікае нават думкі вылучаць тую паказную непрыязнасць, нейкую, здавалася, самаўпэўненасць і грубаватасць гэтых людзей, якая, на маю думку, з'яўляецца нічым іншым, як своеасаблівым выклікам здаровым людзям.

Не болей таго.

## Шапка ці... "шляпа"?

Відаць, гэта нармальна, калі з узростам, асэнсоўваючы ўласнае мінулае, спрабуючы падсумаваць нават нейкія вынікі пражытага і зробленага, міжволі ўзнікае жаданне нешта перагледзець, пераацаніць, правесці своеасаблівую рэвізію асобных з'яў і падзей, якія тычыліся менавіта цябе, тваіх уласных учынкаў...

У гэтай сувязі ўзгадаўся амаль паўзабыты выпадак, які лепш было б і не ўспамінаць, паколькі на душы ад яго застаўся нейкі горкі асадак.

Здарэнне асела ў нетрах тых самых застойных 70—80-х, калі ў страшэнным дэфіцыце былі зімовыя футравыя шапкі, што паслужыла падставай для сапраўднага крымінальнага палявання на іх. Гарадскія кварталы, падваротні, транспартныя прыпынкі ператварыліся ў даволі небяспечныя месцы, асабліва ўвечары, калі на "паляванне" выходзіла шматлікая, знешне нічым не адметная армія "шапачнікаў". Памятаецца, у міліцэйскіх пратаколах і зводках гэты "промысел" фігураваў часцей, чым нават кватэрныя крадзяжы, і быў прыроўнены да разбойнага нападу. Займаліся ім у асноўным хлопцы з так званых "неблагополучных" сем'яў "непрэстыжных" раёнаў сталіцы — Заводскага, Серабранкі, Сцяпянкі, Сляпянкі, Сельгаспасёлка...

А адбылося вось што. Напярэдадні Новага года разам з супрацоўнікам заводскай шматтыражкі Алесем Бахусам стаялі на аўтобусным прыпынку на плошчы Незалежнасці (тагачаснай Леніна) і, забыўшы пра транспарт і пра ўсё на свеце (звычайная сітуацыя пасля чарговай урачыстасці ў Доме журналіста, падмацаваная неафіцыйна-фуршэтнай часткай), гаманілі, як бывае ў такіх выпадках, адразу пра ўсё.

Было каля дзесяці гадзін вечара, і на прыпынку, акрамя нас, не засталося нікога. Неўпрыкмет побач з намі узнік хударлявы хлопец, які даволі дзіўнавата паводзіў сябе, быў напружаным і наўмысна пазіраў некуды міма нас (іншым разам гэтая акалічнасць абавязкова кінулася б у вочы). Але мы не звярталі на яго ўвагі і працягвалі размову.

Схамянуліся толькі тады, калі побач пачулася чыёсьці шалёнае дыханне і адзін з нас, дакладна Алесь Бахус, умомант апынуўся без шапкі. Інстынктыўна ўскінуў рукі да галавы, ён вохнуў і нават злёгку прысеў, акругляючы ашклянелыя вочы ад такой дзікунскай выхадкі незнаёмца.

Я таксама быў агаломшаны. Не згаворваючыся, кінуліся ўслед за крыўдзіцелем.

Уцякач трымаў дыстанцыю з намі, пакуль шпарыў з "канфіскаванай" шапкай пад пахай па газонах — ажно ашмёткі прамерзлай зямлі ляцелі ў бакі, як з-пад капытоў у каня. Аднак варта яму было выскачыць на прыцярушаную снежнымі крупамі абледзянелую асфальтавую дарожку, як нага здрадліва слізганула і "прамыславік" з усяго разгону бразнуўся вобзем. Шапка паляцела ўбок, а ён сам, ужо па інерцыі, імкліва, як пушчаны з катапульты, сунуўся бездапаможным целам па замаскіраваным снежаньскай беллю асфальце, пакідаючы за сабой цёмную паліраваную сцежку.

Недарэчным рабаўніком аказаўся даўгалыгі, вузкатвары, прышчаваты хлапчына. Натапыраны, як рачны пячкур, выкінуты на пясок, ён спуджана і затраўлена зіркаў знізу на нас і не спяшаўся падымацца з прамерзлага асфальту. Рыжая шапка з лісы, заношаная, працёртая да скуры ў некалькіх месцах, валялася непадалёку.

Падабраўшы яе, Бахус доўга абмацваў і разглядваў, нібыта не сваю... Скрушна ўздыхнуўшы, змахнуў рукой наліплы сняжок і насунуў на азяблую галаву.

На паніклага, з прыкметамі ўнаследаванай з дзяцінства яўнай дыстрафіі рабаўніка, які раз-пораз пацёпваўся ўсім сваім лядашчым целам і тоненька, як пакрыўджаны шчанюк, скуголіў, не ўзнялася рука... Нават у пакрыўджанага Бахуса.

Тым не менш, лічачы сябе законапаслухмянымі грамадзянамі, мы палічылі сваім абавязкам адвесці надзіва рахманага рабаўніка ў бліжэйшы міліцэйскі пункт аховы грамадзянскага парадку.

Цёмнатвары, з пракуранымі жоўтымі пальцамі дзяжурны старшына цярпліва выслухаў нас, пачаў няспешна пісаць пратакол, перапытваючы і ўдакладняючы нашы паказанні.

Праз гадзіну нас, пацярпелых, адпусцілі.

Парушальнік застаўся за вокнамі, увабранымі ў жалезныя краты.

Як склаўся далей лёс даставаленага намі ў апорны пункт "прамыславіка" — невядома...

Тады і пазней мы былі ўпэўнены, што зрабілі ўсё правільна. Сумленне нас не даймала, а час, як вядома, мае цудоўную ўласцівасць: гаіць не толькі раны, але і загладжваць, прытупляць вастрыню любога здарэння, якое потым наогул сціраецца ў памяці...

Чаму ж скразнякі часу дагэтуль не выветрылі з закуткаў памяці тое даўняе здарэнне? Чаму яно аказалася непадуладным часу?

Чаму дагэтуль шчыміць душа?

Чаму не на месцы сумленне?..

## "Выброшенные деньги"

Ля камерцыйных шапікаў, нашпігаваных усялякай пярэстай непатрэбшчынай, маюць звычку снуйдацца дзеці. Назіраючы не раз, як упэўнена яны пачуваюць сябе паблізу "камкоў", з якім веданнем справы абмяркоўваюць разнастайны асартымент вітрынаў, я з лёгкім сумам і расчараваннем адчуваў, што чужы ля гэтых бліскучых, зіхаткіх, нібы ёлачная цацка, шапікаў, што выпадкова трапіў не на сваю тэрыторыю.

Ну вось як сёння... Да шапіка падышлі дзяўчынка гадкоў сямі і пяцігадовы хлопчык. У руцэ ў дзяўчынкі — газетны кулёк з семкамі, хлопчык, у велікаватай спартыўнай шапачцы, якая напаўзае яму ледзь не на вочы, з асалодай, не зважаючы на халодны лістападаўскі надвячорак, на бурбалкі, якія выдзімаюцца пры дыханні пад носам, з асалодай жуе нейкую, мабыць, "хуба-бубу"... Дзелавіта калупае пальцам адной рукі ў носе, а другой паказвае на шкло вітрыны, за якім выкладзены ў радок каляровыя пакуначкі, якія раней можна было набыць у аптэцы і якія сёння рэкламуюць на тэлебачанні як "предмет первой необходимости".

Яўна капіруючы кагосьці з дарослых, хлопчык пераканаўча гаворыць:

— Это не стоит брать! Выброшенные деньги.

Дзяўчынка бестурботна смяецца, згодна ківае русявай галоўкай і праз імгненне ўжо засяроджвае ўвагу хлопчыка на нейкай вітрыннай драбязе, якая, з пункту яе гледжання, уяўляе каштоўнасць, словам, азначае не "выброшенные деньги".

Я ўсміхнуўся і задумаўся, з цікаўнасцю назіраючы за гэтымі "новымі" маленькімі беларусамі, жыхарамі XXI стагоддзя, захапляючыся іх дзіцячай непасрэднасцю, чысцінёй, здольнасцю штохвілінна адкрываць для сябе навакольны свет.

А ў думках пажадаў, каб душы гэтых маленькіх "ценителей прекрасного" як мага надалей не засмечвалі "выброшенные деньги"...

## "Новыя"... старыя цыганы

У ваколіцах слыннага Гарадка Давыдава, што амаль тысячагоддзе стаіць на зеленагрудых стромах імклівай Гарыні, здаўна жылі цыганы.

З'явіліся і "новыя"... Пра падзеі і катаклізмы, якія скаланаюць свет апошнія два дзесяцігоддзі, "новы" цыган Мішайка выказаўся коратка, але пераканаўча: "Коб Горбачоў шчэ пару годоў порулїў, то я б свойму коню золотые зубы ўставіў бу". Мелася на ўвазе падзабытая падзея — сумна вядомы ўказ тагачаснага генсека Гарбачова пра барацьбу з п'янствам і алкагалізмам. Добра ведаем, чаго каштавала тады адно толькі вар'яцкае, бязглуздае вынішчэнне вінаграднікаў па поўдні краіны...

Манаполію на продаж моцных напояў (ці не асноўны сродак папаўнення дзяржаўнага бюджэту ва ўсе часы!) дзяржава добраахвотна аддала ў рукі ўласніку. Цыганскі напаўкрымінальны свет, які першы ўнюхаў спажыву, сапраўды азалаціўся. У спойванні тутэйшага народа цыганы, без перабольшвання, пераўзышлі нават даўнейшых жыдоўшынкароў.

Тэхналогія "выпраўлення сітуацыі", распрацаваная "баронамі", была простая, як цыганская пуга, і разлічана, як заўсёды, на ёлупняў і дурняў. Адразу з завода ці з базы, абмінаючы крамы, спіртное трапляла ў цыганскія рукі за хабар.

Такім чынам, па чыноўніцкім разуменні, забіваліся адразу два зайцы: захоўвалася бачнасць праводзімай уладамі палітыкі абмежавання продажу спіртнога ў дзяржгандлі — з аднаго боку, а з другога — народ співаўся, лічы, "нелегальным шляхам", а гэта ўжо, маўляў, не наша справа, няхай праваахоўныя органы "бдят"...

Міжволі ўзгадваецца ў гэтай сувязі прымаўка: "Каму — вайна, а каму — маці родная", якая менавіта сёння, калі ўзгадаць другую "пухліну" — тую ж Чачню, набыла асаблівую надзённасць.

## Самаўпэўнены Драня

Выбраліся аднойчы гарадчукі ў нагарынскае ўрочышча Лукі на паляванне. Ды ўначы заблукалі ў густым прыбярэжным вербалозе. Чуюць, што недзе паблізу качкі свой гармідар ладзяць: булькочуць, крыламі лапочуць, нібы тыя верталётныя прапелеры...

Цемрадзь навокал — віднецць і не пачынала...

Мікола Драня ды й кажа:

— Зараз во ўзбяруся на дуба — агледжуся: дзе мы і што мы...

Сярод пакручастага галля — ля самай гузаватай стваліны — ён угледзеў дзве ці тры "калоды"... Дзікія пчолы. З імі, ведаў я ад свайго дзеда-пчаляра, жарты кепскія. Але на маю перасцярогу Драня адрэагаваў даволі своеасабліва — коратка і самазадаволена, як той сыты гаспадарскі гусак, гагатнуў. Пасля чаго, перакінуўшы цераз галаву рэмень свайго пяцізараднага карабіна (унізе пакінуць ці даверыць на кагосьці не хапіла духу!), пачаў спрытна караскацца па шурпатай стваліне ўгору.

Хутка знік у густым, ахутаным цемрай галлі, трапяткой знічкай успыхнула ўверсе запалка, а яшчэ праз нейкую хвіліну адтуль, зверху, пачуўся задаволены Дране́ў голас:

— Ну шчо я казаў? Мо ў поўсотні метроў от міня такі-і, скажу вам, ба-а-зар!.. Вода ходуном ходзіць от качок! Гэх, зараз пальну! Не, лепш я спярша вам одну "колоду" скіну... Частуйцеся медом!..

А далей адбылося тое, што павінна было адбыцца. Драня раптам завераашчаў, як рэзаны парсюк. Потым нейкая д'ябальская сіла скаланула магутны дуб: трушчачы галлё і лісце, з немым крыкам абрынуўся ўніз дзевяціпудовы мацаккаўбаснік Драня... Пасля таго, натуральна, як яго бязлітасна атакавалі патрывожаныя дзікія пчолы.

Называецца, нас пачаставаў лесавым мёдам і заадно сам пачаставаўся... Ратавалі самаўпэўненага Драню талакою. Добра, хоць падказаў, што вада побач... Давалаклі. Ледзьве адбіліся ад раз'юшанага пчалінага воінства.

## Дзяўчынка за таніраваным шклом

У поле зроку яна трапіла нечакана: пасярод праспекта, ля святлафора, дзе прытарможвалі машыны, акурат на шырокай белай лампасіне раздзяляльнай паласы стаяла васьмігадовае дзяўчо з кавалкам прымацаванага да тоненькай празрыстай шыйкі кардону. Назіраю яе не першы раз. І заўжды, калі трапляецца на вочы яе худзенькая постаць пасярод загазаванага, грымотнага, небяспечнага праспекта, сэрца міжволі сціскаецца.

...Вось, выбраўшы момант, дзяўчо лёгкім ценем набліжаецца да кабіны "іншамаркі", худым, паўсагнутым пальчыкам асцярожна стукае ў цёмнае таніраванае шкло... Машына кранаецца на "зялёнае", і дзіця, борздзенька ступіўшы ўбок, цярпліва чакае, пакуль да святлафора наблізіцца чарговая чародка імклівых аўто. Сярод іх мая службовая "Волга". Старая, латаная-пералатаная, асабліва пад сподам, затое — таксама з таніраваным шклом.

Дзяўчынцы няма куды спяшацца, у адрозненне ад імклівых "вольваў" і "аўдзі"... Яна набліжаецца да маёй "тачкі", нягучна стукае па шкле пальчыкам, і мяне ўражвае тое, што позірк яе блакітных вачанят схаваны некуды ў сябе, яна не бачыць ці не хоча бачыць мяне, я ніяк не магу сустрэцца з яе позіркам... Потым раптам здагадваюся, што прычына — у таніраваным шкле...

Запальваецца "зялёнае", і вадзіцель кранае машыну.

Дзяўчынка, як маленькі робат, з абыякавым выглядам адступае на тратуар, каб дачакацца новай "порцыі" бяздушнага халоднага жалеза.

Хто яна? Дзіця з "неблагополучной семьи", выпхнутае на халодную, жорсткую вуліцу? Маленькі жывы робат у чыіхсьці руках?..

Не ведаю...

На душы змрочна. Як за таніраваным шклом...

## “Водгулле”

**Уладзімір Мархель вядомы не толькі як даследчык беларуска-польскага літаратурнага сумежжа, аб чым, у прыватнасці, засведчылі яго кнігі “Лірнік вясковы”, “Крыніцы памяці”, “Прадвесце”, “Прысутнасць былога”, “Ты як здароўе...” і іншыя, а і як адзін з**




**лепшых перакладчыкаў з польскай мовы. Пацвярджэнне таму і зборнік “Водгулле”, што пабачыў свет у выдавецтве “Тэхналогія”. Ва ўступе “Ад перакладчыка” У. Мархель дзеліцца думкамі адносна як самой паэзіі, так і перакладу, заўважаючы: “Паэзія — гэта і стан душы, пераліты ў слова, і зафіксаваны момант азарэння, і прарочае асэнсаванне будучыні, і пашырэнне псіхамагчымасцяў светаўспрымання, і неўсвядомленае адкрыццё нязведанага... Яна багацце духу, выказанае, але недавыяўленае, бо яе паступальны рух скіраваны ў бязмежжа варыяцый самапазнання, у паўнату чалавечых стасункаў” і нарэшце пераўвасаблення: “Перакладчык прыстасоўваецца да арыгіналу, або пераўвасабляецца ў аўтара — інтэрпрэтатар прыстасоўвае арыгінал да сябе, або пераўвасабляе аўтара. Адзін, прытрымліваючыся этыкі паважлівага стаўлення да аўтара, імкнецца быць яго суразмоўнікам, дасягаць яго эквілінеарнасці ва ўзнаўленні іншамоўнага тэксту і сэнсава-мастацкай адпаведнасці перакладу арыгіналу. Другі больш услухоўваецца ў асацыяцыі на яго тэму. Аднак на якія б вяршыні мастацтва яны ні сягалі ў асваенні змястоўнасці (тут і далей выдзелена У. Мархелем. — А. Г.),** ***змяшч*****альнасці вобразаў, іх пераклад ці перастварэнне — твор другасны”. Адштурхоўваючыся ад гэтага, У. Мархель і даў назву кнізе “Водгулле”: “Яна ўсяго водгалас, рэха пачутых перакладчыкам разнастайных польскамоўных галасоў у часе літаратуразнаўчай працы. Два раздзелы кнігі нібы сімвалізуюць колішнія Карону і Літву, два крылы, адно з якіх, ліцвінскае, узнесла беларускамоўнае адраджэнне беларускай літаратуры”. У першым раздзеле прадстаўлены Ян Каханоўскі, Францішак Карпіньскі, Корнель Уейскі, Юліян Тувім, Тадэвуш Ружэвіч, Станіслаў Рышард Дабравольскі, Мацей Юзаф Канановіч, Богдан Драздоўскі. Кожны з уласным творчым почыркам, светаўспрыманнем. Дзякуючы У. Мархелю гэтая адметнасць захавана. Чытаючы пераклады, паэтаў не зблытаеш між сабой. Прынамсі, хораша гучыць у перакладзе гэты верш К. Уейскага:**

*Як да цябе мне звяртацца?*
*Ці ж стане маўчанне мовай?*
*Зорак якіх мне пытацца,*
*Табе шукаючы слова?..*

*Я па-за словы імкнуся,*
*Пазбыцца той цяжкай мукі —*
*Хіба мо ператваруся*
*У любныя тоны, гукі!*

*Я ўсёй істотай шчаслівы*
*У промнях, гуках дзівосных.*
*Хай, быццам арфа, чуллівы*
*У абдымках буду мілосных!*

*Вусны не будуць пустыя,*
*Хоць слоў сваіх не пачую.*
*Бо пацалункі такія,*
*Што вусны ў попел сцалую!*

**Другі раздзел — гэта творы Яна Аношкі, Яна Баршчэўскага, Ігната Легатовіча, Адама Міцкевіча, Гіпаліта Клімашэўскага, Антона Эдварда Адынца, Юліяна Корсака, Тадэвуша Лады-Заблоцкага, Гераніма Марцінкевіча, Эдварда Жалігоўскага, Уладзіслава Сыракомлі, Адама Плуга, Юліяна Ляскоўскага, Вінцэся Каратынскага, Яна Неслухоўскага, а таксама Янкі Купалы, які, як вядома, пісаў і па-польску. Перакладчыку таксама давялося нялёгка, каб кожнага з аўтараў перакласці, захаваўшы адметнасць арыгінала. Але з гэтай задачай У. Мархель паспяхова справіўся. Для прыкладу, так гучыць верш “Люблю цябе, зямля” Купалы:**

*Люблю я цябе, зямля маіх продкаў,*
*Хоць слава твая ў прыцьменні дачасным,*
*Хоць сціхлі вулканы ў тваім асяродку,*
*Ды моц твая ўстане зарывам ясным.*

*Люблю цябе, хаця вораг брыдотны,*
*Што ты ўжо памерла,*
*зпярэчыць плюгава,*
*Жывеш ты, як вечнасць,*
*твой лёс несмяротны,*
*Народ не забыўся тваёй былой славы.*

**Несумненна, “Водгулле” знойдзе належны водгалас у душах чытачоў, улюбёных у паэзію.**

**Алег ГУЛІЦКІ**

***Жыву апошнім часам у ліхаманкавым (хоць і не помслівым!) чаканні светлага дня, калі бяспраўныя (дагэтуль) крытыкі ў калектыўным парыве выйдуць на сцішана-стомныя вулкі нашай літаратурнай прасторы, пратэстуючы супраць таго, што іх н я м а. Мяркую, што дэманстрацыя цэхавай магутнасці ўсё-ткі не выльецца ў шпурлянне тамагаўкаў... Хаця гэта магло б стаць важкім доказам на карысць не толькі “жывасці”, але і жвавасці айчыннай літаратурнай крытыкі, чыя нібыта-смерць спачування ў творцаў не выклікала і была засведчана ледзьве не дасягненнем “некрафілічнай” эпохі Пост.***

***У гэтай сітуацыі ці не кожны крытык, выгнаны з раю фундаментальнай тэорыі на выбітыя-спляжаныя палеткі практычнага літаратуразнаўства, мусіць вызначыцца: альбо змірыцца з доляю жабы-песімісткі, якая, трапіўшы ў збан з малаком, вырашыла без марнай мітусні адысці ў нірвану; альбо адчайна змагацца з наканаванасцю, дрыгацца-вылузвацца, як жаба-аптымістка, каб раптоўна адчуць пад сабою новы “грунт”. Tertium non datur (трэцяга не дадзена).***

***Асабіста мяне больш вабіць шлях нематываванага (на першы погляд) аптымізму, бо веру, што ў глыбокім nihil выспявае глыбокая глыбіня. На сваім тамагаўку, з якім пайду дыскутаваць наконт лёсу сучаснай беларускай крытыкі, выгравірую словы Юрася Барысевіча з “Кароткай гісторыі “Бум-Бам-Літа” (звярайце па № 10 за 2001 год “Крыніцы”): “...крытык сёння мае права быць не інтэрпрэтатарам і экспертам існуючых практык пісьма, а стваральнікам ці натхняльнікам перспектыўных практык, якія могуць рэалізавацца ў нейкіх больш спрыяльных умовах”. Высо-о-ка ўзніму сваю зброю – хай бачаць, за што змагаюся!***

***Не замахваючыся на ролю стваральніка, папрашуся ў натхняльнікі. Дарэчы, абедзве разнавіднасці рупліўцаў завочна атрымалі бласлаўленне Валянціна Акудовіча: ён сцвярджае, што сёння варта абмяркоўваць не столькі тое, чым сталася беларуская літаратура без масавага чытача, колькі тое, што сталася з чытачом, які страціў цікавасць да нацыянальнага прыгожага пісьменства. Спадар Акудовіч, пэўна, жыве ў філасофскім чаканні “геніяльнага крытыка” – гэткага універсальнага сувязнога, мастацкага “суперагента” з бездакорным густам і талентам белетрыста-папулярызатара.***

# Рэцэпт натхнення для беларускага дэтэктыўшчыка

Адным са стратэгічна важных накірункаў дзейнасці па “вяртанні” айчыннага чытача ва ўлонне роднай літаратуры магло б стаць шчыраванне на дэтэктыўнай ніве.

Спачатку Уладзімір Караткевіч заклікаў калег пісаць дэтэктывы, каб пераадолець страту цікавасці да беларускай літаратуры. Пасля Ігар Запрудскі заклікаў “прыслухацца да класіка” — пісаць дэтэктывы і тым самым рабіць “неацэнную паслугу беларушчыне”(“ЛіМ”, 13 сакавіка 1998 г.). Праз нейкі час Алесь Пашкевіч, не зважаючы, што “многія з пісьменнікаў... і дагэтуль з пэўнай грэблівасцю ставяцца да дэтэктыўнага жанру, лічачы яго і другасным, і менш мастацкім” (“ЛіМ”, 12 лістапада 1999 г.), выступіў у абарону беларускага дэтэктыва, рашуча апелюючы да вопыту “туманнага Альбіёну“.

І. Запрудскі не без іроніі заўважыў, што “беларускія пісьменнікі займаліся скрытым сабатажам — не хацелі выкарыстоўваць дэтэктыўны жанр у “выхаваўчых мэтах”, не імкнуліся садзейнічаць “росту грамадзянскай пільнасці” і г.д.”. З майго боку гнюсна было б падазраваць айчынных літаратараў у абыякавасці да лёсу адарванага ад Літаратуры Чытача ці, крый Божа, у непатрыятычнасці. Будзем лічыць, што шматлікія аўтары беларускіх дэтэктыўных бестселераў знаходзяцца ў *канцэптуальным* пошуку: зручны момант нагадаць пра выгоды жанру.

### Трошкі гісторыі...

Узнікненне дэтэктыва (дакладней, пачатак афармлення яго як жанравай структуры з адметнай логікай пабудовы і развіцця) звязваюць звычайна з імем Эдгара Алана По (1809—1849), у прыватнасці, з яго навелістычнай трылогіяй, куды ўвайшлі “Забойства на вуліцы Морг” (1841), “Тайна Мары Ражэ” (1842-1843) і “Скрадзенае пісьмо” (1844). Менавіта тут упершыню аб’ядноўваюцца рысы, якія дагэтуль у мастацкім творы сустракаліся паасобку: таямнічае злачынства становіцца *тэмаю*, разгадка тайны — *сюжэтам*, захапляльнасць росшуку — *пафасам* аповеду; абвостраная назіральнасць і вынаходніцкая логіка — абавязковымі ўласцівасцямі героя і да т.п.

Адасобленыя элементы кандэнсуюцца і ўтвараюць ядро новага жанру, які ад самага пачатку спалучае ў сабе “касмапалітызм” (бо крадуць і забіваюць не ў “адной, асобна ўзятай краіне”) і пэўную “нацыяналістычнасць”, г. зн. чуйнасць, адкрытасць мастацкай сістэмы да “нацыянальнага каларыту”. Надзвычай паказальная ў гэтым сэнсе творчасць японскага пісьменніка Тара Хіраі (1894-1965), які абраў сабе літаратурны псеўданім Эдагава Рампо. Першае ж яго апавяданне “Медная манета”, апублікаванае ў 1923 годзе, засведчыла ўзнікненне нацыянальнага японскага дэтэктыва. Наколькі можна меркаваць па перакладных “Пачварах ў змроку”, “Гульнях пярэваратняў”, “Д’яблу”, “Попеле” і іншых творах, гісторыі Эдагавы Рампо падобныя да іерогліфаў — яны могуць мець некалькі самастойных сэнсаў-разгадак, аднолькава сапраўдных; а могуць разгортвацца ўглыб, выбудоўваючы іерархію таямніцаў. З другога боку, японскі пісьменнік відавочна знаходзіўся пад уплывам “лагічных апавяданняў” (tales of ratiocination) Эдгара По, дзе пошукі ісціны набываюць форму захапляльнай гульні розуму і найперш у гэтым сэнсе прыносяць эстэтычную асалоду.

Persona grata дэтэктыўнага жанру — сышчык-аматар, дэтэктыў-паліцэйскі, камісар, оперупаўнаважаны, спецыяльны агент і да т.п., —дзіўным чынам спалучае універсалізм персанажу-“матрыцы” і прыцягальныя рысы таго ці іншага нацыянальнага характару: Эркюль Пуаро і Шэрлак Холмс — абодва “літаратурныя англічане”, аднак герой Агаты Крысці не адбыўся б без свайго “французскага густу” і бельгійскага паходжання, як быў бы немагчымы герой Артура Конан Дойла без аўры “стопрацэнтнага джэнтльменства”.

Дзесьці ў канцы 70-х — пачатку 80-х гадоў XX стагоддзя ў перакладзе на рускую мову былі выдадзены дэтэктыўныя аповесці Андрэя Гуляшкі пад агульнай назвай “Прыгоды Авакума Захава”. “Праглынуўшы” кнігу ў пятнаццацігадовым узросце, я доўга і шчыра была перакананая, што знешнасць амаль Апалона плюс бездакорны густ у дачыненні да вопраткі, непамысная эрудзіраванасць плюс любоў да хуткай язды на матацыкле, рыбалкі і брунетак з кідкай знешнасцю, — словам, археолаг і маёр балгарскай контрразведкі таварыш Захаў ёсць эталон сапраўднага мужчыны, магчымы толькі ў Балгарыі, тады міфічнай для мяне.

Нядаўна перачытвала раманы Фрыдрыха Дзюрэнмата і мусіла прызнацца сама сабе: калі сярод маіх знаёмых за ўсё жыццё не будзе ніводнага швейцарца (падстаў для аптымізму не маю), калі не давядзецца ў Швейцарыі пабываць (маю ўсе падставы для песімізму), то ўсе тамтэйшыя жыхары для мяне будуць няўлоўна падобныя да камісара Берлаха, немітуслівага філосафа з Бёрна, які служыў у паліцыі і лічыў свой горад уласнаю “залатою магілаю”.

Беларуская інтэлігенцыя ахвотна і разумна (прэч іронію!) разважае пра менталітэт нацыі, адметнасці беларускага нацыянальнага характару... Шкада толькі, што канкрэтны — “шараговы” — прадстаўнік нацыі, не абазнаны ў тонкасцях псіхалогіі і тэрміналагічных нюансах, ніяк, дзівак, не прасякнецца гонарам з прычыны сваёй беларускасці. Магчыма, калі б абстрактныя “ментальныя структуры” часцей увасабляліся ў айчынных (родных, пазнавальных) мегрэ, марпл ці хоць бы аніскіных, публіка хутчэй паверыла б у рэальныя, а не “фальклорныя” кемлівасць, дасціпнасць, трываласць “беларускага тыпу”.

### ...крыху тэорыі...

Дык чаму менавіта дэтэктыў здаецца жанрам несумненна паспяховым ці, прынамсі, асуджаным на попыт? Бертольд Брэхт, напрыклад, звязваў папулярнасць дэтэктыўнай літаратуры з інтэлектуальным задавальненнем, якое чытач атрымлівае, пранікаючы ў прычыны чалавечых учынкаў; заснавальнік “эпічнага тэатра” патрабаваў ад паўнавартаснага дэтэктыўнага рамана быць адметным зрэзам рэальнага жыцця.

З другога боку, “інтэлектуальны экстаз”, якім так вабіць дэтэктыў, трымаецца каранямі ў даволі своеасаблівай празе справядлівасці, гэткім “спецыяльным гуманізме”, які не адмаўляецца атрымлівасць асалоду ад... смерці: “Агата Крысці, дарэчы, найвялікшы чараўнік усіх часоў і народаў, бо здолела ператварыць забойства ў забаву, прычым не адно забойства, а дзесяткі забойстваў, сотні забойстваў, канвеер забойстваў. Асвенцім забыты, але з крэматорыя раманаў Агаты вечна ўзыходзіць да неба дым, і толькі надзвычай наіўны чалавек мог бы сцвярджаць, што дым гэты — трагедыя” (М. Кундэра. “Бессмяротнасць”).

Зрэшты, уласна забойства/смерць не з’яўляецца *абавязковым* (непазбежным) атрыбутам твораў гэтага жанру. Паводле “Кароткай літаратурнай энцыклапедыі” (М., 1964, т. 2), дэтэктыўная літаратура (англ. detective — сышчык, ад detect — адкрываць, выяўляць; лац. detectio — раскрыццё) прысвечаная “раскрыццю заблытанай тайны, звычайна звязанай са злачынствам”. Дзеля справядлівасці варта прызнаць, што ў класічным дэтэктыўным рамане сюжэт (які разгортваецца ў пошуках адказу на пытанні хто, якім чынам і навошта здзейсніў злачынства) угрунтаваны найчасцей у факце забойства. Аднак ні ў майстроў дэтэктыву XIX стагоддзя (Э. Габорыа, У. Колінз, А.К. Грын), ні ў іх пераемнікаў у XX стагоддзі (Ф.У. Крофтс, Г. Леру, Ж. Сіменон, Н. Марш і інш.) гвалт над чалавекам, увогуле над жыццём не ёсць мэта, стрыжань твора. Нават калі цэнтральным персанажам становіўся спрытны махляр, які перамагаў паліцыю (галерэю “абаяльных злачынцаў” адкрыў персанаж французскага пісьменніка П.А.Пансон дзю Тэрайля Ракамболь, да якога далучыліся “злодзей-джэнтльмен” Арсен Люпэн, створаны М. Леблонам, Сайман Тэмплер — “Святы” — Л. Чартэрыса і г.д.), ён павінен быў выклікаць сімпатыю чытача не таму, што лоўка сцінае цесаком галовы — і не стамляецца, а таму, што па-свойму змагаецца з сацыяльнай несправядлівасцю — меншае зло заклікана перамагчы большае зло.

У першай палове XX стагоддзя разгарнулася спаборніцтва паміж дэтэктывам “навуковым” (дзе злачынства раскрываецца шляхам даследавання матэрыяльных доказаў) і “інтуітыўным” (заснаваным на здагадцы і пранікненні ў псіхіку злачынцы). Так, Эдагава Рампо на працягу ўсяго жыцця, на шкадуючы сіл, даказваў перавагу “інтуітыўнага” тыпу над “навуковым”. У другой палове XX стагоддзя на арэну выйшаў так званы “чорны раман” — і тонкая атмасфера здаровага спартыўнага спаборніцтва была груба парушаная. “Пазітыўны дослед”, “спасціжэнне прычыннасці”, “індуктыўны метад” (і метад “дэдуктыўны”) — усё гэта сталася непатрэбным у справе апісання працэсу шаткавання не толькі людзей, але й усяго, што бегае, поўзае, лётае і нават скача. Гвалт у самых пачварных праявах быў ператвораны ў рухавік сюжэта, стаў альфаю і амегаю дзеяння. Аднак публіка прывыкла да крывавых рэк з магілкамі на ўзбярэжжах — і пачала траціць цікавасць да “чарнухі”: чытача папросту перакармілі жудасцю.

І тут высветлілася, што сама рэчаіснасць — найдасканалейшы дэтэктыў, які не мае патрэбы ў аўтары. Дастаткова скласці ў папку паказанні сведкаў, фотаздымкі адбіткаў пальцаў, заключэнні экспертаў-крыміналістаў і медыкаў, далучыць рэчыўныя доказы, знойдзеныя на месцы злачынства (недакуркі, ніткі, валаскі і да т.п.), — і чытач атрымае ідэальны “раман”, будзе інтэлектуальна задаволены па поўнай праграме, бо ад яго патрабуецца без дапамогі апавядальніка вывучыць матэрыялы і самому выкрыць забойцу. Меркавалася, што для нязвыклых да гэткай напругі аматараў дэтэктыва можна прыкладаць канверт з адгадкаю. Па ўсім, падобная “ідэальная мадэль” рэальнага трыумфу не дачакалася. Бо чалавек па натуры гультай.

З'явіліся і альтэрнатыўныя спосабы рэанімацыі жанру. Дасціпным шаржам на "чорны раман" былі ўспрынятыя "іранічныя дэтэктывы" Іааны Хмялеўскай. Ф. Дзюрэнмат абраў іншы шлях: ён імкнуўся растварыць стрыжань дэтэктыўнай інтрыгі ("злачынства-пакаранне") у агульнафіласофскай праблематыцы, узняць яе да ўзроўню філасофскага асэнсавання жыцця і смерці. На думку некаторых літаратуразнаўцаў, гэтым пісьменнік не толькі ўзбагаціў магчымасці дэтэктыва, але і ў пэўным сэнсе вычарпаў іх (нават быццам бы абвясціў пра смерць самога жанру).

Аднак назіранні за сучаснай літаратурнай практыкай пераконваюць, бадай, у адваротным: дэтэктыў як "зрэз рэальнасці" не толькі жыве, але і квітнее, нагадваючы пра сябе ў самых разнастайных формах. Так, традыцыя "рамана-рэбуса", закладзеная ў творах А. Крысці, аказалася запатрабаванаю ў інтэлектуальна-гульнёвай паэтыцы постмадэрнізму, даволі саркастычна настроенага да любых "папяровых дэтэктываў"; адно з найбольш яскравых сведчанняў на карысць гэтага — "Імя ружы" Умберта Эка, жанравы сімбіёз гістарычнай, філасофска-псіхалагічнай і дэтэктыўнай прозы. Форма дэтэктыва імітавалася ў фантастычным рамане Станіслава Лема "Насмарк". Ды што шукаць сякеру пад лаўкаю: "Чорны замак Альшанскі" Уладзіміра Караткевіча пабудаваны як дэтэктыў, прычым гэты раман, строга кажучы, у большай ступені адпавядае канонам жанру, чым "Дзікае паляванне караля Стаха", якое лічыцца "класічным беларускім дэтэктывам і найперш нашым бестселерам" (І. Запрудскі). У дачыненні да "Дзікага палявання" (здаецца, яго з цікавасцю чытаюць і тыя, хто не ведае, што такое "бестселер", і той, для каго "масавасць" і "мастацкасць" рэчы несумяшчальныя) варта гаварыць хутчэй пра *элементы дэтэктыўнай інтрыгі*, закліканыя абвастрыць сітуацыю сутыкнення міфа (падання) з рэчаіснасцю. Наўрад ці хто-небудзь будзе настойваць на тым, што гэты твор — класічны "гатычны раман", хаця атрыбутаў "готыкі" тут не меней, чым дэтэктыўных адзнак...

Словам, жанр дэтэктыва ўтрымлівае здольнасці і да рэгенерацыі, самааднаўлення, і да мімікрыі (прыстасоўвацца да канкрэтнага літаратурна-гістарычнага кантэксту), і ўжо што гаварыць пра рэпрадуктыўнасць (гэтак плодзіцца і множыцца)!.. Для палявання на "масавага чытача" — сапраўды універсальная "зброя".

Праблемы пачынаюцца тады, калі метафізічная "аўдыторыя" матэрыялізуецца ў роднага чытача, якога трэба зласіць у цянёты *беларускага* дэтэктыва. Канцэпцыя *"нацыяналізацыі"* жанру, здаецца, ляжыць на паверхні: хранатоп твора павінен вырастаць з рэалій беларускага быцця (ці, прынамсі, мець да яго дачыненне); цэнтральныя персанажы павінны мець выразныя прыкметы нацыянальнага характару; мова твора павінна быць жывой беларускай. Адно шкада: у дадзеным выпадку слушнасць тэарэтычных разлікаў не гарантуе паспяховасці практыкі.

Па-першае, у сацыякультурнай свядомасці масаў панаццы *"Беларусь"* і *"беларускасць"* сёння не толькі не атаясамліваюцца, але і не сумяшчаюцца, бо дзякуючы асветніцкай дзейнасці афіцыёзных СМІ *"беларускасць"* ужо стэрэатыпна асацыіруецца з агрэсіўнасцю, разбуральнасцю, утрымлівае няясную пагрозу. Таму сюжэты "фармальна-беларускіх" дэтэктываў разгортваюцца ў межах геаграфічнай РБ, а не Беларусі як нацыянальна-этнічнай прасторы, бо іх пішуць літаратары-рамеснікі: яны зарабляюць грошы, гэтага не саромеюцца і збольшага на мастацкасць не прэтэндуюць.

Па-другое, складнікі "нацыянальнага характару" сёння трацяць сваю канстантнасць, становяцца надзвычай крохкімі: Яўген Рагін згаданую метамарфозу пазначыў як працэсператварэння "нас" з "аўтараў нацыянальных анекдотаў" у "герояў здзеклівых паказак" ("ЛіМ", 25 студзеня 2002 г.).

Па-трэцяе, праспрабуй пераканай "сярэднестатыстычнага" чытача, што *жывая* беларуская літаратурная мова прынцыпова адрозніваецца і ад засохлай мовы СМІ, і ад "трасянкі" — сродку зносінаў у чэргах, грамадскім транспарце і апараце дзяржаўнага кіравання.

У выніку беларускі дэтэктыў мусіць пераадольваць канфлікт паміж уласнаю патрэбнасцю і незапатрабаванасцю. І кожны патэнцыяльны аўтар дэтэктыва ў гэтым сэнсе — "піянер", першапраходзец, першаствоарльнік, які будуе без якога-колвечы плана, па інтуіцыі.

## ...і драбок практыкі...

Бадай, самым паслядоўным "інтуітывістам" падобнага кшталту з'яўляецца сёння Віктар Праўдзін. Натуральна, не ён адзін на Беларусі піша дэтэктывы. Паводле "Тэорыі літаратуры ў тэрмінах" (Мн., 2001) Вячаслава Рагойшы, "у беларускім прыгожым пісьменстве дэтэктыўная літаратура вялікага пашырэння не набыла. Паэтыка дэтэктыўнай літаратуры... паўплывала на асобныя творы ("42 дакументы" М. Зарэцкага, "Сэрца на далоні" І. Шамякіна, "Падзенне Хвядоса Струка" П. Кавалёва). <...> Да дэтэктыўнай літаратуры звяртаюцца Г. Марчук ("Крык на хутары", "Прызнанне ў забойстве"), М. Шайбак ("Забойства на калядны"), М. Клімковіч ("Сцэнарый смерці") і некаторыя іншыя пісьменнікі". Да ліку апошніх, пэўна, належаць Мікалай Чаргінец (згадайма аповесць "Фінал Краба", раманы "За секунду да выстралу", "Іпоты вар'яцтва") і Сяргей Трахімёнак (чыя кніга "Другі ўзровень" (Мн., 2001) атрымала назву, аднайменную дэтэктыўнай аповесці, што ўвайшла ў яе склад): амаль усе творы гэтых літаратараў знаходзяцца ў полі прыцягнення дэтэктыву, нават калі "чысціня жанру" не дэкларуецца ў падзагалоўку. У адрозненне ад іх Віктар Праўдзін упарта піша *па-беларуску* дэтэктывы, угрунтаваныя ў *падкрэслена беларускай, наўмысна беларускай* рэчаіснасці.

Прынцыповасць пазіцыі была акрэсленая ўжо ў калектыўным зборніку "Пад знакам Стральца" (1992), дзе былі надрукаваныя апавяданні "Бычок на вяселлі" і "Чыстыя рукі", і ў кнізе "Візіцёр з поўначы", выдадзенай у "Бібліятэцы часопіса "Маладосць" у тым жа годзе. А зборнік пад назвай "Боль (Споведзь міліцыянера)", які выйшаў у серыі "Першая кніга празаіка" выдавецтва "Мастацкая літаратура" (1996), толькі засведчыў цвёрдасць намераў аўтара далучыць *праваахоўныя органы* да *беларушчыны* ці хаця б зменшыць адлегласць паміж гэтымі, здавалася б, несупалучальнымі панаццямі. Зрэшты, Віктар Праўдзін мог і не ставіць перад сабою гэткае утапічнае мэты — не буду настойваць, нібыта мне адкрыліся матывы аўтарскай "волі да творчасці". Аднак варта звярнуць увагу на шэраг момантаў, якія ў сукупнасці ўказваюць на тое, што празаік мае ў дачыненні да дэтэктыва як жанру мастацкай літаратуры *пэўныя* стратэгічныя намеры.

1. Паказальным уяўляецца ўжо невялікае апавяданне "Боль (Споведзь міліцыянера)", якое і дало назву першаму празаічнаму зборніку. Эмацыйную танальнасць гэтага твора вызначае не ўласна спаведальнасць, а, хутчэй, скандэнсаванасць пачуцця, што спалучае псіхалагічную адкрытасць, нават агаленасць "я-героя" са стрыманасцю яе вонкавага выражэння. "Біяграфія" згаданага персанажа — зусім не чарада падзей і ўчынкаў, яна ўтрымліваецца ў гісторыі болю, спароджанага канфліктам сацыяльнага (службовага) абавязку і маральнаю сутнасцю "звычайнага" чалавека:

"Бачыў сябе зноў у зоне... Снілася, што нёс каравул і галоўная задача — не прапусціць людзей у іх родную вёску, якая шэрымі дахамі паўставала за невялічкім пагоркам. Людзі спачатку дабром прасілі, потым пагражалі, затым плакалі ля шлагбаўма, але я цвёрда стаяў на сваім — за дрот ніводнага чалавека, — гэткі загад. Сярод людзей бачыў і маці. <...> Бачыў, як некалькі старэнькіх бабуль, дапамагаючы адна адной, па чарзе падымалі калючы дрот, прапаўзалі ў зону. Я ведаю, што бабулькі не марадзёры, не рабаўнікі — яны хочуць памерці на зямлі сваіх продкаў".

Нягледзячы на тое, што ў апавяданні не акрэсленыя ні геаграфія, ні прычыны ўтварэння "зоны", гэты вобраз аказваецца і празрыстым, і надзіва змястоўным сімвалам фізічнай і метафізічнай небяспекі, незнішчальнай крыніцаю болю, які ўжо становіцца амаль неабходным, бо ён знітаваны з тваёй зямлёю — пакутліва-нясцерпнаю прагаю б ы ц ь наталяешся ад яе, збалелай.

"Боль", насуперак падзагалоўку, наўрад ці можна аднесці да "міліцэйскай прозы". Аднак калі вярнуцца да гэтага апавядання ад больш позніх дэтэктыўных аповесцяў і раманаў, то рэтраспектыва высвечвае важкасць "Болю" для творчасці В. Праўдзіна: безыменны "я-герой" становіцца своеасаблівым "пратавобразам" многіх яго персанажаў, чые характары фарміруюцца ў сутыкненні разнастайных імператываў. З гэтага ж твора, на мой погляд, бярэ пачатак відавочная, хоць і не дэкларуемая ўкаранёнасць падзей і персанажаў В. Праўдзіна ў беларускай рэчаіснасці, якая балансуе паміж трагедыяй і камедыяй.

2. У 1997 годзе аповесць "Эксгумацыя" была выдадзеная асобнай кніжкаю, яе вокладку ўпрыгожваў лагатып мяркуемай серыі "Сучасны беларускі дэтэктыў", якая, відаць, так і не атрымала чаканага працягу. Але гэтая аповесць засведчыла вольнае пачуванне празаіка ў дэтэктыўнай жанравай прасторы: "Эксгумацыя" — прыстойна зроблены дэтэктыў, — пераконвае Запрудскі. — У ім ёсць усё, што трэба па канонах жанру. Злачынцы і сышчыкі, таямніца і разгадка, інтрыга і нечаканая развязка... і, што асабліва важна, беларускі каларыт". Ужо прозвішчы персанажаў — *Смаляк, Кучкун, Шашок, Альховік* і інш. — дэманстратыўна каларытныя, што захоўваецца і ў раманным "пантэоне": капітан *Бусел*, ягоны сябра-антаганіст кілер *Філін* ("Вяртанне з апраметнай"(1999), лейтэнант *Хмара*, маёр *Барана* ("Танцавальны марафон"(2001).

Нягледзячы на тое, што дэтэктыў дапускае шмат умоўнасцяў, падзеі ў ім канструююцца і кампануюцца больш ці менш штучна, але ён вымагае дакладнасці так званых *малых рэалій*. "Суддзя і яго кат" Ф. Дзюрэнмата быў успрыняты як "вельмі швейцарскі раман, і па агульнай танальнасці, па моўнай афарбоўцы (насычанасць бёрнскімі дыялектызмамі), і па дасканаласці аднаўлення мясцовасці Лігерц на беразе Бальскага возера, дзе ў той час жыў Дзюрэнмат" (В. Сядзельнік). У гэтым сэнсе "Эксгумацыя" і асабліва раманы В. Праўдзіна — дакладна беларускія. Паводле аповесці можна здымаць кінастужку без затрат на дэкарацыі (у калідорах-кабінетах любой пракуратуры) і высілкаў на арганізацыю натурных здымак (аўтар падрабязна апісвае, што адбываецца, напрыклад, на мінскай вуліцы Талбухіна і куды дзеянне пераносіцца пасля). Тое ж самае з раманамі — "госць сталіцы" можа скарыстаць "Танцавальны марафон" у якасці даведніка: як дабрацца ва Уручча ці ў Малінаўку; як захоўваць цярплівасць у чаканні транспарту, калі па праспекце Францыска Скарыны рухаецца ўрадавы картэж; дзе адпачыць тым, каму за трыццаць (кіруйце ў парк Чэлюскінцаў!); аматарам рыбалкі ў гарадскіх умовах варта наведаць парк Горкага, дзе можна да ўсяго і качак пакарміць... Выгоды і інтэр'ер правінцыйнай беларускай гасцініцы скрупулёзна апісаныя ў фінальнай частцы "Вяртання з апраметнай".

Словам, у згаданых дэтэктывах жыхар Беларусі будзе пачувацца бы ў сябе дома. Іншая справа, ці не апрыкралі каму родныя сцены...

3. У творах В. Праўдзіна фарміруецца адмысловая сістэма вобразаў-персанажаў, якая, на мой погляд, дае магчымасць скласці даволі рэальнае ўяўленне пра тую міліцыю, якая нібыта наша і нас нібыта беражэ. Паводле скупых звестак, змешчаных на вокладцы зборніка "Боль", аўтар "у 1981 годзе скончыў Мінскую вышэйшую школу міліцыі; доўгі час працаваў у праваахоўных органах". Гэта азначае, што беларуская міліцыя сама ўзгадавала... барані Бог, не "магільшчыка" (у сэнсе — палымяна-з'едлівага выкрывальніка), і не летапісца (у сэнсе — салодкагалосага песняра), а, хутчэй, таленавітага партрэтыста, здольнага аддзяліць зерне ад мякіны і з дасціпам згаданы акт пракаменціраваць.

Апавядаючы ў 1982 годзе тады яшчэ савецкаму масаваму чытачу пра польскі дэтэктыў, Віктар Хораў звярнуў увагу на тое, што "ў большасці польскіх "міліцэйскіх раманаў"... дзейнічаюць звычайна трое прадстаўнікоў міліцыі: сівы палкоўнік — увасабленне жыццёвай мудрасці і прафесійнага вопыту <...>, спрытны маёр і менш спрытны капітан ці паручнік; дапаўняе іх добрасумленны служака-сяржант, якому не хапае адукацыі і ведання ўсіх дэталяў следства". Мяркую, што В. Праўдзін свядома не канструюе суадносіны сваіх герояў у адпаведнасці са схемаю накшталт гэтай. Аднак паколькі "міліцэйская проза" — усёткі "зрэз" канкрэтнай рэчаіснасці, то размеркаванне роляў у раманах беларускага празаіка аказваецца тыпалагічна падобным.

У аповесці "Візіцёр з поўначы" (1991) аўтар ускладае цяжар разблытвання злачынстваў на плечы лейтэнанта Жураўлевіча — "неафіта" крымінальнага вышуку — і капітана Ільіна; на кароткі час узнікаюць і маёры — Кравец (свой, мінскі) і Еўдакімаў (з Мурманска). З усіх мне найбольш цікавым падаўся Міхась Ільін: "...аддаў крымінальнаму вышуку дванаццаць гадоў. Начальству не дагаджаў, гаварыў праўду-матку, а гэтага было нават занадта, каб на кар'еры паставіць крыж. Акрамя таго... быў як прафесіянал на галаву вышэйшы за сваіх начальнікаў. <...> ён ведаў гэта і не хаваў перад начальствам".

Інспектар крымінальнага вышуку капітан міліцыі Андрэй Бусел ("Вяртанне з апраметнай") — персанаж у мастацкіх адносінах больш сталы, больш аб'ёмны, бо празаік ад самага пачатку адмаўляецца ад дыдактызму сітуацыі, калі адзін чалавек мае выключнае права караць (нічога асабістага!), а другі на гэта права ўпарта нарываецца. Адзін са злодзеяў, якія павінны забіць капітана, — ягоны аднапалчанін, колісь Васіль Мароз, цяпер — прафесійны кілер Філін, абавязаны Андрэю жыццём. (Нельга ўтрымацца, каб не звярнуць увагу на сімвалізм працістаяння *Бусла — Філіну*: літаратурная "персаніфікацыя" верагодных птушак-татэмаў — дзённай і начной, увасаблення святла і цемры, жыццядайнасці і драпежнасці... Трэба ўмець убачыць і ў дэтэктыве не так сабе чытво, а культурны феномен!) Дамінантныя рысы характару капітан Бусел "наследуе" ад капітана Ільіна; гэтаксама лейтэнант Крывіцкі ўяўляецца "працягам" Жураўлевіча. У "Вяртанні..." на авансцэну выходзіць маёр Астроўскі — легенда рэспубліканскага крымінальнага вышуку, праніклівы сышчык, нязручны для начальства, строгі, але справядлівы ў адносінах з падначаленымі. Рэнаме сапраўднага міліцыянера падтрымлівае вобраз палкоўніка Качана (твар у зморшчынах, пасма сівых валасоў непаслухмяна спадае на высокі лоб, у маладых вачах няма і ценю хітрасці ці ўгодлівасці). "Рыцараў без страху і дакору" ўраўнаважваюць падпалкоўнік Макрыцкі (твар нагадвае дыню, вочы халодныя і калючыя, лісліва з начальствам, напышлівы з падначаленымі), генерал Патапенка (аматар пагрэць косці ў лазні, выпіць каньячку падчас нарады і парайсці на разумных падначаленых) і інш.

У "Танцавальным марафоне" доля пачаткоўца выпадае Ігнату Хмары (лейтэнанту), які трапляе ў групу да падпалкоўніка Мікуліча (сышчык-легенда, не любіць міліцэйскіх генералаў, якія прыйшлі з войска і прынеслі з сабою страсць да муштры); тут жа — таленавіты аператыўнік, сышчык-"ганчак" капітан Лукін, чыя ўяўная абыякавасць і нехлямяжы выгляд аніяк не спрыяюць кар'ернаму росту. Мнагалюдны і лагер міліцыянераў-антыподаў — участковы-суцянёр маёр Барана, бязвольны падпалкоўнік Белы, кар'ерыст маёр Кудзін.

Падобны парад-агляд заўсёды ўтрымлівае пагрозу схематызацыі, спрашчэння, утрыравання, гратэскавасці — усё ў выніку скажае ўяўленне пра твор, асабліва калі вы яго не чыталі. Я мелася прадэманстраваць найперш логіку аўтарскай "сістэматызацыі" персанажаў, вяртанне ў розных сюжэтных калізіях (асабістых, грамадска-палітычных) да тыпалагічна блізкіх характараў — нібыта дзеля выпрабавання іх "звычайнасці", разбурэння іх "звыкласці", быццам дзеля таго, каб даць шанц чытачу ацаніць уласную трываласць.

Звяртаю ўвагу на тое, што тут акрэслены, прычым пункцірна, толькі адзін "фланг" вялікага "войска" герояў В. Праўдзіна. Не менш цікаваю магла б стаць размова пра "адмоўных" персанажаў, амаль заўсёды неадназначных ва ўспрыманні, часта — пакутліва-супярэчлівых. Асобна варта было б пагаварыць пра спецыфіку сюжэтабудавання ў згаданых раманах, дзе паралельна разгортваецца некалькі ліній, адначасова самастойных (так, аповед пра сям'ю графаў Аляксандравых можа існаваць аўтаномна, па-за раманнаю прасторай "Танцавальнага марафона") — і ўзаемна неабходных у святле тэксту як мастацкага цэлага. У гэтым сэнсе В. Праўдзін належыць хутчэй да пісьменнікаў-"сюжэтнікаў", чым да пісьменнікаў-"стылістаў", для якіх былі слова і ёсць самадастатковы сюжэт творчасці. Спалучэнне двух азначаных майстэрстваў лёгка дэклараваць і цяжка ажыццявіць. Зрэшты, супрацьпастаўленне "сюжэтнікаў" і "стылістаў" у кантэксце нашай размовы пагражае ператварыцца ў процістаянне "востраканечнікаў" з "тупаканечнікамі" (для герояў Дж. Свіфта пытанне "з якога канца трэба разбіваць яйка?" было не проста прынцыповым, а нават антагалічным). Аднак у дэтэктыве менавіта сюжэтная інтрыга з'яўляецца стрыжнем аповеду; В. Праўдзін гэта разумее (ці адчувае), у выніку захоўваецца status quo: прагне які-небудзь гіпатэтычны чытач беларускага дэтэктыва — ён яго атрымлівае.

Дык вось: калі пэўную колькасць гісторыі дэтэктыва перамяшаць з невялікай доляю тэорыі жанру, дадаць пералічаныя намі інгрэдыенты (прапорцыі і выбар залежаць ад густу кухара), а пасля змясціць у добра ўгрэтую печ практыкі, — нешта ж павінна атрымацца, прынамсі, наш родны "літспажывец" галодным не застанецца. Дарэчы, можна надаць страве экзатычную форму. Паводле памянёнай "Тэорыі літаратуры ў тэрмінах" Вячаслава Рагойшы, дэтэктыўная літаратура — "*эпічныя* і *драматычныя* (вылучана мною. — ***І.Ш.***) творы, у якіх раскрываецца загадка, звязаная са злачынствам". Пэўна, тэхналогія *вершаванага* дэтэктыва яшчэ не адпрацаваная. Скрозь церні — да зорак!

***Прыватная інфармацыя*** *для тых, хто смуткуе з прычыны таго, што беларуская літаратурная крытыка ўжо не акрыяе пасля "комы": запрашаю наведаць аддзел крытыкі і літаратуразнаўства часопіса "Нёман" (Мінск, пр. Фр. Скарыны, 39, пакой № 6) — пастараюся пераканаць у заўчаснасці жалобы.*

**Ірына ШАЎЛЯКОВА**

## "Маўчана"

Уладзімір Цішуроў зарэкамендаваў сябе цікавым і ўдумлівым празаікам са сваімі персанажамі, адметнымі тым, што многія такіх людзей успрымаюць звычайнымі дзівакамі, не заўсёды жадаючы разабрацца, што ў чалавека на душы, чым ён жыве ў сапраўднасці. Гэтым жа разам У. Цішуроў прыйшоў на сустрэчу з чытачом у якасці паэта: у "Беларускім




кнігазборы" выйшаў зборнік яго вершаў "Маўчана". Сам аўтар так вытлумачвае свой зварот да паэзіі: "Я хачу, каб з вершаваў міласці хоць адна душа ўваскрэсілася". Сказана, як відаць, крыху загучна, тым няменш, чытаючы "Маўчану", нельга не заўважыць, што шмат у якіх вершах У. Цішурова ёсць тое, што дазваляе ўпэўніцца ў здатнасці аўтара па-свойму падаваць прамоўленае іншымі. Гэта тычыцца і вобліку самага дарагога чалавека. У цыкле "Маці" лірычны герой, застаўшыся сам-насам з незваротнай стратай, шмат што пераасэнсоўвае, шукаючы ў гэтым і маральнае заспакаенне, і тую раўнавагу, якой не заўсёды стае ў паўсядзённасці, але разам з тым большае і трывог, ад якіх нікуды не падзецца, бо яны таксама частка жыцця:

*А цяпер мяне будзіць ранак.*
*А калісьці будзіла мама...*
*Дзе ні стану, куды ні пайду я,*
*не пачую голас матулі.*
*Не надзелены помстаю, звадамі,*
*без матулі ў журбе я падаю.*
*Падаю, як былінка на ветры,*
*і ў падзенні хапаю паветра.*
*О, каб вушы мае пачулі*
*хаця слова адно матулі.*
*Мне не ўлежна і мне не ўежна —*
*ад паводзін сваіх залежу.*
*І цяпер мяне будзіць ранак,*
*а калісьці будзіла мама...*

Роздум, трывога — як бы пастаянны спадарожнік лірычнага героя У. Цішурова. Гэта адчувальна і ў вершах, у якіх гучыць тэма кахання — шмат у чым цяжкага, бо не спраўджанага, а ў нечым і балючага, таму няма ўзаемнасці, а гэта прыводзіць да адзіноты. І не толькі душэўнай:

*Ці пабудую дом?*
*Ці выгадую дзіця?..*
*Куды ты вядзеш мяне,*
*сцежка жыцця?*
*Куды й навошта*
*еду парожні?..*
*Куды не зайду асцярожна —*
*навокал чужыя пожні.*
*Журбы я астрожнік...*
*Праз пожні чужыя, употай,*
*пакіну след лёгкіх ботаў —*
*да цябе, ты мая любота!*

Верш да верша і нарадзіўся цыкл "Маўчана":

*Маўчана мая*
*не страчана.*
*Каханне маё*
*мо рас-тра-ча-на?*
*Хто вырашыў*
*адназначна,*
*што я для журбы*
*прызначаны?*
*Навошта мне лёс*
*неазначаны —*
*хачу быць*
*перайначаны!*

І як бы працяг гэтай гаворкі ў вершы "Маналог халасцяка". У чымсьці жартаўлівым, а ў нечым — жыццёва-сур'ёзным: "Непрыкаяны сучок — // мужычок-халасцячок! // Куды час імчыцца?.. // Мне з кім жаніцца?!." У кнізе "Маўчана" часам пытанняў больш, чым адказаў. Але ж у паэзіі яны і не заўсёды павінны быць. Задача яе іншая: падштурхоўваць, абуджаць думку, а апошняе ў творах У. Цішурова якраз і ёсць.

Алег ГУЛІЦКІ

ПАЭЗІЯ

Сяргей ГРАХОЎСКІ



# Перад апошняй дарогай

СУМНЫЯ ВЕРШЫ

●

*Вось і мая канчаецца дарога:*
*Не хочацца ні есці і ні піць.*
*Чуваць, што нехта*
*ля майго парога,*
*Сваёй чаргі чакаючы, стаіць.*
*Увойдзе непрыкметна*
*і без стуку,*
*Прашэпча ледзьве чутнае: "Пара".*
*Пазбавіць ад пакутаў і ад мукі,*
*Ад заржавелага пяра.*
*Няхай яно дастанецца другому,*
*З навекі зачараваным радком,*
*Да шчырых сэрцаў*
*пракладзе дарогу,*
*А я замоўкну назаўжды крадком.*

●

*Я ўспамінаю кожнае імя,*
*Аблічча, галасы, паходку,*
*І горна часам, што ім я*
*Пакінуў шлях такі кароткі,*
*Што самых юных пераждыў,*
*Што нехта і мяне чакае.*
*Надыдзе дзень, што на крыжы*
*Ніхто маё імя не адшукае.*

●

*Апошні ліст асінавы дрыжыць,*
*Счарнела пераблытанае вецце...*
*Даўно пара, а хочацца пажыць*
*І ўбачыць свет на белым свеце...*

●

*Але ўсяму ёсць межы і пара,*
*Я кожны дзень*
*за Беларусь малюся.*
*Датлее хутка і мая зара,*
*Але навек не згасне ў Беларусі.*
*Душа трапеча і дрыжыць,*
*Каб год ці два яшчэ пражыць.*

Павел МІСЬКО



# Арабескі

●

*Разгулялася,*
*бы ў хмелю, завіруха,*
*Палыхае белым вэлюмам з-за вуха!*
*Сцежкі і дарожкі замятае,*
*Цвеліць-маніцца і кудламі махае...*
*Замілуецца Мароз і крэкне-топне,*
*Лёд на рэчцы суха,*
*з трэскам лопне.*
*Коціцца ўсцяж лёду*
*пошчак-лёскат.*
*Гэта завірусе як прыемны лоскіт:*
*Вые-свішча, круціцца, рагоча,*
*Дзеда цвеліць дзеўка-пятароча:*
*"Зачем вы, дедушки,*
*красивых любите?*
*Не настоящая у них любовь!"*
*Сілу і дзянькі дарэмна губіце,*
*Пройдзе год — і стрэнемся*
*мы зноў!"*
*Так бы забаўлялася бясконца,*
*Ды праз хмары выглядала сонца,*
*Ясніўся прадвесня новы дзень...*
*"Уцякай, стары! Вясна ідзе!*
*За сабой ваду вядзе-е-е!"*

●

*Пад касу травіца просіцца,*
*Краскі мне паклоны б'юць...*
*Толькі сёння мне не косіцца,*
*Думкі ўсякія гнятуць.*

*Ну нашто касьба мне гэтая?*
*Ні каровы, ні казы.*
*Песні пчолак недапетыя,*
*Я ж кашу па тры разы*
*За сезон.*
*Сусед — па пяць.*
*Эх, травіца ты, травіца!*
*Як жа мне не памыліцца,*
*Галаву сабе не сцяць?*
*Пашкадуеш, не пакосіш —*
*Луг дзічэе ўвачавід...*
*І пагоды ў неба просіш —*
*Хоць маленечкі ліміт.*
*Пакаленні траў і кветак*
*Пад касой, як пад мятлой...*
*Так раблю я з лета ў лета*
*Не ў ладах з самім сабой.*

●

*У нас было, не за паўсвету,*
*А, можа, трошкі і далей...*
*Гарачае стаяла лета,*
*Замоўк надоўга салавей.*
*А то ж, бывала, толькі золак,*
*Як ён, умыўшыся расой,*
*Прапаласкаўшы ёю горла,*
*Усім даказваў талент свой.*
*Як ён спяваў! Як заліваўся!*
*Каб салаўіху звесяліць,*
*То срэбнай трэллю рассыпаўся,*
*То залатую кратаў ніць.*
*А ўбачыць, што каровін статак*
*Цераз рачулку ўброд брыдзе,*
*Пужліва цёхкаў на астатак,*
*Як дзядзька пугай па вадзе.*
*Дык вось... Спякота,*
*летні поўдзень.*
*Даўно замоўк птушыны грай...*
*І раптам новае ў прыродзе:*
*«Пялёх! Пялёх!» — аж цераз край.*
*Заліўся спевам шчодра так!*
*І дзе? У садзе, ля шпакоўні!*
*І хто? Звычайны наскі шпак!*
*А з салаўём амаль пароўні...*
*Каханне новае завёў,*
*(Загінула яго шпачыха),*
*І ён забыў пра гора-ліха,*
*Сям'ю стаў будаваць наноў...*
*Такі закон дала прырода,*
*Яе загадам не пярэч*
*І сам сябе не абязвеч,*
*Спявай ў любую пору года.*

●

*Не спяшаюцца ластаўкі ў вырай,*
*Хочуць тут як найболей пражыць.*
*Да змяркання старанна і шчыра*
*Не спыняюць «прыроду лячыць».*
*Праўды як абсядуць пад вечар*
*(Трэба ўрэшце крыху адпачыць!),*
*То чакечуць, чакечуць, чакечуць,*
*Як на сходзе якім ці на веча, —*
*Ёсць касаткам пра што гаварыць!*
*«Як там будзе*
*ў заморскай краіне?»*
*«Тут радзіма, а там — «у гасцях».*
*«Мама, край свой часова*
*мы кінем?»*
*«Даляцець бы... Далёкі*
*ў нас шлях...»*
*І сядзяць, і прыкідваюць сілы,*
*Як прыціхне гамонка, тады*
*Чуюць гуд у прытомленых крылах.*
*А мо гэта гудуць правады?*

Аксана СПРЫНЧАН



# Восем вершаў ад А., або Голас астраў

●

*Восень варожыць*
*на сініх астрах,*
*перабірае,*
*не абрывае пялёсткі:*
*кахае — не кахае,*
*кахае — не кахае...*
*Заблытваецца*
*і зноўку пачынае.*
*А пасля*
*са стомленай пяшчотаю*
*кажа:*
*"У сініх астрах*
*хаваецца ваша каханне".*

●

*Я з'ехала на вёску ад цябе.*
*Але і тут квітнеюць нашы астры.*
*Днём — пад акном,*
*а ноччу, з Божай ласкі,*
*нас асвячаюць Вечнасці святлом.*
*І разумею:*
*ў гэтым наша шчасце —*
*не мець расстання там,*
*дзе голас астраў*
*злучае ўвесь Сусвет*
*пяшчотай нашых слоў.*

●

*"Гэта не лёс, гэта не лёс" —*
*упарта сабе кажу.*
*А праз упартасць маю прарастае*
*лён яснавокі, з якога*
*лінію лёсу праду...*
*Прайду.*

●

*Вышыла*
*на палатне льняным*
*сінія астры.*
*А ў сне*
*нехта пытаўся:*
*"Дзе ты бачыла*
*такія вялікія васількі?"*

●

*У восеньскіх лужынах*
*паміж жоўтымі лістамі*
*сінія астры неба.*
*Наступаю на кветкі,*
*ідучы да цябе.*

●

*Жыццё гуляе*
*ў краіны і гарады.*

*Цяпер ты ў краіне А.,*
*а я — у горадзе Л.*
*У марах гучыць — АЛё,*
*жыццё ж забірае дзве кропкі,*
*чаканне яшчэ дадае.*
*І падае ў неба — АЛе...*

●

*Ваза зляцела са стала,*
*нібы няўзнак нагадала*
*сёння ты нарадзіўся.*
*Астры сінімі птушкамі*
*паляцелі цябе віншаваць.*

●

*Набуду чатыры сінія астры,*
*пастаўлю іх у чатыры вазы*
*на чатыры куты стала,*
*і пахаваю ўсё,*
*што было напісана на ім*
*табе*
*пад надпісам*
*"ВЕРШЫ АД А.".*

## Сто першы канцэрт

З 19.00 да 20.45, без антракту, у Палацы культуры вытворчага аб'яднання "Беларуськалій" правёў свой чарговы сольны канцэрт папулярны артыст Аляксандр Саладуха. За ўсе 15 гадоў самаадданай працы на эстрадзе Саша Саладуха заўсёды чаканы ў нашым горадзе. Тут ён пачынаў з групай "Карусель", ладзіў свае першыя выступленні. І вось пасля доўгіх расійскіх гастроляў прадзюсерскі цэнтр кампазітара Аляксандра Марозава з абноўленай праграмай "Каліна, каліна..." і група "Карусель-2" прадставілі ў родным горадзе знакавы 101 (сто першы!) канцэрт Аляксандра Саладухі.

**Сяргей ЯКІМОВІЧ,**
настаўнік

## "Роднае слова", № 2

Галоўны рэдактар "РС" М. Шавыркін выступае з развагамі "Фізічная культура і беларуская мова, нацыянальнае мастацтва", што прапануюцца ў раздзеле "Школа і нацыянальнае адраджэнне", якім адкрываецца нумар. Пра творчасць У. Паўлава разважае А. Пісьмянкоў ("Аржаная праўда Уладзіміра Паўлава"). Гістарычныя апавяданні В. Іпатавай у полі зроку І. Дамарад ("Прататып і вымысел"). Публікуюцца артыкулы Т. Хоміч "Вобраз вайны і яго суадносіны з канцэптам "смерць" у творчасці Аляксея Пысіна", С. Гараніна "Літаратурны працэс на мяжы эпох: ад ранняга да позняга Сярэднявечча", Г. Тычкі "Драматычная паэма Янкі Купалы "Сон на кургане" і яе повязі з рэгіянальнай польскамоўнай літаратурнай традыцыяй", Я. Несцяровіча "Беларусь у паэме Адама Міцкевіча "Пан Тадэвуш", М. Цікоцкага "Аб важных кірунках развіцця сучаснай стылістыкі" ("РС" віншуе аўтара з 80-годдзем), М. Прыгодзіча "Фёдар Шымкевіч", П. Сцяцко "Злучнікавыя словы, паўназначныя часціны мовы". Сцэнар гістарычнай вечарыны "Мы ўзыйшлі не з насення, што ветрам занесена..." падрыхтавала Л. Бойка, Я. Купала і Я. Колас у творчасці М. Савіцкага — тэма артыкула А. Шапашнікавай "Сейбіты". А. Марціновіч гаворыць слова пра "ЛіМ" ("У імя беларускасці"). Вобраз зорак у духоўнай культуры славян — на гэтым засяроджвае ўвагу М. Леўкавец ("Свечак многа гарыць, а ніводнай не патушыць"). "Літаратурны ветразь" прапануе вершы Л. Сом. У рубрыцы "І песню родную люблю я..." — песні А. Чыркуна. С. Мінскевіч знаёміць з перастварэннямі верша А. Міцкевіча "Да прыяцеляў маскалёў", а Г. Юрчанка ("Барысёнак, Барысёначак, Барысёнчыха...") — мсціслаўскім іменасловам. Змешчаны рэцэнзіі А. Карлюкевіча "Спавядальнае слова" Дзмітрыя Бугаёва" (пра новую кнігу даследчыка) і "На небасхіле нацыянальнай гісторыі" (пра зборнік гістарычных нарысаў і эсэ А. Марціновіча "Элегіі забытых дарог"). У сувязі з 90-годдзем з дня нараджэння вядомага крытыка і літаратуразнаўцы Н. Перкіна друкуюцца нататкі М. Тычыны "Навум Перкін" і М. Кенькі "Вучоны і настаўнік".

## "Мастацтва", № 2

Л. Грамыка ў артыкуле "Сезон фестываляў" робіць агляд важнейшых тэатральных мерапрыемстваў апошняга часу. На фестываль "Белая Вежа-2001" запрашае Т. Арлова ("Змена маштабу і чаканняў"). Уражаннямі ад XVII з'езда Беларускага саюза мастакоў дзеліцца В. Трыгубовіч ("Новая варта ля старога падмурка"). З іншых матэрыялаў у нумары прапануюцца: артыкулы Г. Нячай "Слухаючы голас нябёсаў...", А. Бурак і К. Крывашэйцавай "Асацыяцыя сучаснай музыкі прэзентуе...", Н. Фральцовай "Развітанне з пазітывізмам", Н. Кароткінай "Дваістым дыханнем ты дыхаеш, Эрот", Ю. Барысевіча і А. Сідаровіч "Метафарычны аўтапартрэт", І. Скварцовай "Гродзенскія кунтушовыя паясы". Пра гісторыю з'яўлення "беларускай марсельезы" "Ад веку мы спалі..." расказвае А. Гесь ("Ці знаем, што трэба рабіць?"). Тут жа прапануюцца тэкст і ноты гэтай песні, надрукаваны ў сакавіку 1920 года ў часопісе "На чужыне", што выходзіў у Рызе. Ёсць "Дыскаграфія", "Хроніка мастацкага жыцця", "Старонкі календара: сакавік 2002".

БАЛЕТ

# Мадэрн з адзнакай дабрыні

***XIII і XIV Міжнародныя фестывалі сучаснай харэаграфіі, якія адбыліся ў Віцебску запар у 2000 і 2001 гадах, сталіся адначасова аглядам яе стану ў Беларусі і на значнай частцы "танцуючай" постсавецкай тэрыторыі. Гэта былі і святочныя сустрэчы сяброў: артыстаў адно з адным і з віцяблянамі, якія за паўтара дзесятка фестывальных гадоў зрабіліся заўзятымі "мадэрністамі" ад харэаграфіі.***

Пад нешчаслівай лічбай "13" праходзіў, як засведчылі яго вынікі, досыць шчаслівы нацыянальны конкурс, дзе атрымалі магчымасць прадэманстраваць свае доўгачаканыя поспехі беларускія харэографы. Пачаўшы развівацца крыху пазней за расіян і з вялікім адставаннем ад Захаду, беларусы прайшлі ўсе належныя выпрабаванні часу: вучнёўства, перайманьніцтва, сляпое паляванне на моду. Цяпер усё больш выразна выяўляецца іх уласнае аблічча, сваё творчае крэда.

XIII і XIV фестывалі паказалі, што, пры ўсім непадабенстве мыслення і мастацкіх індывідуальнасцяў, беларускіх харэографаў яднае імкненне захаваць і выказаць у танцы свой менталітэт, сінтэзаваць тое новае. што прынёс мадэрн-танец, з тым, чаго дасягнула харэаграфія да яго. Яднаюць арыенціры: вобразнасць, асэнсаванасць, прага гармоніі. Усе яны прымаюць мадэрн, постмадэрн і постпостмадэрн да таго часу, пакуль гэта не даходзіць да крайнасцяў, не разбурае свядомасць, не адмаўляе чалавечых каштоўнасцяў. Пастаноўкі, паказаныя беларусамі, выглядалі на фестывалі, мабыць, крыху традыцыйнымі. (Хаця, хто скажа, **што** для мадэрн-харэаграфіі з'яўляецца сёння звычайным? Можа, самым традыцыйным будзе якраз адмаўленне традыцый?) Але затое творы беларусаў былі **светлыя**, гуманістычныя, адзначаныя дабрынёй.

Даглядалі чароўныя кветкі і махалі крыльцамі-рукамі персанажы пастановак І. Асламавай з Гомеля. Пра загадкі ўсяляких перакрыжаванняў па гэты і па той бакі жыцця задумвалася віцьблянка А. Махава. "Квітнеючым маем" назваў адну са сваіх работ гродзенец А. Цебанькоў, які атрымаў на XIII фестывалі прыз "За творчы рост". Таемныя і паэтычныя русальныя абрады натхнілі кіраўніка фальклор-тэатра Белтэлерадыё, кампазітара Л. Сімаковіч. Сінтэз фальклорных матываў з лексікай мадэрн стаўся асновай і пастановак С. Гуткоўскай, балетмайстра танцавальнага ансамбля Беларускага універсітэта культуры. За адну з іх — "Вяселле: эскіз да абраду" — аўтар атрымала трэцюю прэмію на Нацыянальным конкурсе XIII фестывалю. Аптымістычнасцю вызначалася светаадчуванне лідэра гродзенскага калектыву "Тад" Д. Куракулава, які нездарма заняў на Нацыянальным конкурсе другое месца. Яго "Істота" на музыку і ў суправаджэнні выдатнага гітарыста У. Захарава сталася маленькім адкрыццём фестывалю. Дзве фігуры, што зліліся ў адну пры дапамозе эластычнай тканіны, уражвалі багаццем пластычных знаходак, мяккім гумарам. Двухаблічнае стварэнне не пераўтваралася ў Д. Куракулава ў жахлівую пачвару, аказалася пяшчотным і гарэзлівым.

Першае ж месца на конкурсе па праве занялі тады работы Р. Паклітару. Харэографу прыродай дадзены талент пластычна-вострага бачання нібыта побытавых сітуацый, якія набываюць у яго творах абагульненасць, робіцца тым, што мы называем тыповым выпадкам. Напрыклад, у мініяцюры "Свет не заканчваецца за парогам тваіго дома" муж і жонка прадстаўляюць нібыта два розныя выток: ён, паводле выразу Л. Гумілёва, — пасіянарый, які імкнецца спазнаць новае, убачыць вялікі свет, што пачынаецца за парогам, яна ж хоча абмежаваць жыццё колам сям'і, баіцца выйсці за межы дома. У выніку муж пакідае жонку, і весткі з далёкага свету, быццам апалая лістота, марна кружаць вакол яе...

Артысты Ю. Дзятко і К. Кузняцоў, якія атрымалі на Нацыянальным конкурсе прэмію "За выканаўчае майстэрства", у гасцявых, вячэрніх фестывальных праграмах станцавалі яшчэ два нумары Р. Паклітару. Пазалетась гэта быў вельмі смешны мадэрновы парафраз Адажыо з "Лебядзінага возера", дзе Адэтай раптам паўстала сучасная "бізнес-лэдзі" ў акулярах і вузкіх штоніках, а роля Лебедзя і бацькі-адзіночкі дасталася мужчыну. Пасля перамогі ў Віцебску на XIII фестывалі харэограф завяваў першую прэмію ў Маскве на Міжнародным конкурсе 2001 г. і атрымаў запрашэнне ўзначаліць балетную трупу Кішынёўскага тэатра оперы і балета. Але не забыўся на фестываль, што выпеставаў яго, і даслаў дасціпную пародыю на класічны балет "Прывід ружы".

Тое, што мініяцюры Р. Паклітару былі высока ацэнены і мелі вялікі поспех у гледачоў, відавочна, сталася пэўнай "інфармацыяй да роздуму" для многіх беларускіх харэографаў, якія яшчэ выбіралі свой шлях. На аблічча і стыль айчыннага танцавальнага мадэрна, як і ўсяго віцебскага фестывалю, бясспрэчна, паўплывала таксама тое, што нязменным старшынёй яго журы з'яўляецца Валянцін Елізар'еў (дарэчы, настаўнік Р. Паклітару) — прыхільнік асэнсаванай, вобразнай харэаграфіі.

Будзем спадзявацца, што нацыянальныя конкурсы, перыядычнае правядзенне якіх мудра задумана "натхняльнікам і арганізатарам" усіх віцебскіх харэаграфічных святаў Марынай Раманоўскай, яе камандай і генеральнымі спонсарамі — прадпрыемствам "Белвест" і фірмай "Шварцкопф ды Хенкель" (яны сталіся не толькі фінансістамі, але тым самым і саўтарамі фестываляў), — дадуць беларускім удзельнікам яшчэ адзін шанц давесці фарміраванне "не агульнага выразу" уласнага твару, па-мастацку пераканаўча выявіць свой "пластычны менталітэт".



Пакуль жа, г.зн. на апошнім, XIV фестывалі "сціплая абаяльнасць" беларускіх танцораў апынулася ў цэню: ніводны з канкурсантаў не выйшаў у фінал. Але гэта і не здзіўляе — іх адсунулі фундаментальныя і яркія пастаноўкі, прывезеныя вядомымі калектывамі з блізкага і далёкага замежжа.

Сумесную работу з галандскім харэографам Полам Нортанам паказаў камерны балет "Масква". Спектакль "Узлом", назву якога, магчыма, вызначыла музыка, што "ўзломвае" слых, складалі энергічныя валявыя рухі, кінетычны напор якіх цудоўна перадавалі выдатна навучаныя артысты, а таксама "вастраслоўная" харэаграфічная варыяцыя саліста, дзе ён, нібы хамелеон, пры дапамозе палачкі пераўтвараўся ў дырыжора, сляпога, шпагапаглынальніка, паліцэйскага-рэгуліроўшчыка, эстраднага спевака, наркамана, гордага членаносьбіта і какетлівую дзяўчыну, якая падкручвае свае вейкі. Гэты нумар нямала садзейнічаў таму, што "Узлом" атрымаў спецыяльны прыз за акцёрскае майстэрства.

Жыццё чалавека ў эпоху катастроф адлюстравала літоўская "Аўра". На фоне тэлевізуальнага Сусвету, што выбухнуў нашэсцем камет, у перманентнай сутарзе жылі людзі, найвынаходлівая лексіка якіх







зусім апраўдвала назву пастаноўкі: "Extremum mobile" і права на адну з чатырох раўназначных прэмій фестывалю.

Да слова, багацце розных кіна- і тэлеэкранаў на сцэне адлюстравала не толькі тэхнічную аснашчанасць калектываў, якая ўзрасла, але і прыход новай моды. Сучасная харэаграфія ўжо неаднойчы пераживала павальнае захапленне пэўнымі прыёмамі, што хутка робяцца штампамі. Некалькі гадоў таму на мадэрн-сцэну наляцеў цунамі з крэслаў, цяпер у джэнтльменскі набор паважлівых да сябе калектываў увайшлі т. зв. сродкі масавай інфармацыі. Досыць цікава гуляў з уласным ценем, дакладней, са сваім візуальным двайніком, герой нумара з Аўстрыі, што прынесла госцю Фестывалю адну з прэмій.

На працягу доўгіх 30-ці хвілін пры дапамозе кінаэкрана высвятлялі адносіны самі з сабой, адзін з адным, з пляскам і марскімі хвалямі, выразна рухаючыся пры гэтым, Рэне Нымік і Цйна Олеск з Эстоніі (яшчэ адна прэмія Фестывалю).

Больш сціпла, усяго толькі трыма палосамі люстраной фольгі, экіпіраваўся харэограф з Польшчы Хана Стржэмецка. Не вельмі патрэбныя для дзеяння, яны ўсё ж не перашкодзілі харэаграфіі гэтага нумара быць адзначанай спецыяльным прызам.

Пры дапамозе экрана ўздзейнічала на эмоцыі большасці прысутных у зале Вольга Пона з Чэлябінска. Адданая сваёй рускай тэме, яна стварыла складаную сувязь калінікалі ашаламляльных асацыяцый і неградказальнага злучэння сцэн, у якіх беспрасветная айчынная журба суседнічала з агрэсіўнасцю ўсходніх адзінаборстваў. Жанчыны тут з крыкам падалі з рук мужчын, заплаканая вяскоўая старая глядзела з экрана на авангардную моладзь, што тусавалася на сцэне, а нябачны прынтэр друкаваў на кінастужцы "нешляхетныя" частушкі. Урэшце, вычварны кантрапункт лубка, мадэрна і сапраўднага жыцця сплаўляўся ў адно. Артысты быццам здымалі з сябе маскі акцёрства, рабіліся самімі сабой і станавіліся ў адзін шэраг з адлюстраванымі на стужцы рэальнымі жыхарамі краіны. І калі раптоўна перад гледачамі ўзнікаў шэраг рэальных твараў, у душы прачыналіся раптам, здавалася б, даўно забытыя пачуцці, на вочы немаведама адкуль выпаўзала вільгаць... І ты разумееў, як умела быў выбудаваны шчымлівы вобраз Расіі, як дакладна трапляла ў цэль назва пастаноўкі: "W W W лица. ru".

Як заўсёды, на вышыні апынуліся харэографы з Кітая. Танцоўшчык Чанг Чжы Джанг у двух сваіх мініяцюрах "Сон на беразе" і "Дабрадзейны" здолеў расказаць пра жыццё Чалавека ў такой шырокай і адначасова тонкай гаме пачуццяў, што заслужана атрымаў Гран-пры фестывалю.

Але сапраўдным узрушэннем сталіся ўсё ж спектаклі, паказаныя ў гасцявой праграме XIV фестывалю. І гэта не быў канцэрт трупы "Dancing people company" з ЗША, пры ўсёй павазе да гэтага прафесійнага калектыву. Узрушэннем сталіся творы Яўгена Панфілава і, перш за ўсё, яго знакамітая, увянчаная "Залатой маскай" пастаноўка "Бабы. 1945". Створаны для "Балета тоўстых" і прысвечаны перамозе ў Вялікай Айчыннай вайне, спектакль уражваў нечаканым, але вельмі дакладным стасаваннем з тэмай, з фактурай выканальніц. Пазбаўленая харэаграфічнага прафесіяналізму і тэхнікі, пастаноўка выклікала, тым не менш, значна больш моцнае ўражанне, чым калі была б выканана віртуознымі і зграбнымі балерынамі. Гэтак блізка падысці да праўды жыцця ва ўмоўным, паводле сваёй прыроды, мастацтве, гэтак адмыслова і экспрэсіўна ў пластычнай форме ўзнавіць атмасферу "свята са слязьмі на вачах", здатны толькі вялікі талент. Тут Я. Панфілаву ўдалося дамагчыся катарсічнага ўздзеяння на гледачоў, стварыць цуд, які далёка не часта падуладны цяперашняй харэаграфіі.

Моцна ўразіў і другі балет Я. Панфілава — "Капітуляцыя", эпіграфам да якога ён узяў словы Ніцшэ: "Я ўзняў заслону і ўбачыў чалавечую псоту". Спектакль стылістычна перагукаўся з нядаўна створанай М. Шэмякіным скульптурнай групай, што выяўляе чалавечыя заганы. (Сапраўды, адны і тыя ж ідэі "лётаюць у паветры" часу!) Пастаноўшчык стварае рэдкі па афарбоўцы, сарданічны вобраз смяротнай пацехі, праводзяць перад гледачамі шэраг монстраў, найвынаходліва задуманых і самааддана ўвасобленых артыстамі трупы. Раскаванае, неўтаймоўнае ўяўленне Панфілава, што нараджае мудрагелістыя метафары, сімвалы і алегорыі, у той жа час трывалымі ніцямі звязана з рэчаіснасцю, і пры ўсёй фантасмагарычнасці пабудаванага харэографам свету, у ім адгадваюцца нейкія канкрэтныя з'явы фашысцка-таталітарнага грамадства: фарысейства, агрэсіўнае мяшчанства, цынічны падман, улада безгаловых пігмеяў. Жахлівым напамінам пра масавае душагубства робіцца эпізод, калі людзі здымаюць сваё адзенне і ў кашулях смяротнікаў пакідаюць сцэну, а дымчатыя сілуэты, што засталіся пасля іх, быццам крэматорскі попел, змятае абыякавы прыбіральшчык.

Гледзячы на пастаноўкі Я. Панфілава, пачынаеш думаць, што побач з імі многія малюнкі кашмараў і катастроф, прыдуманыя заходнімі харэографамі-мадэрністамі, з'яўляюцца нібы "страшылкамі", закліканымі падвастрыць і падагрэць, зрабіць гарачэйшым прэснае застылае жыццё. Заўважана, што шчаслівым людзям пасля добрага абеду падабаецца паразважаць пра канец свету, адчуваючы ўласную бяспеку, паглядзець "жахлівчыкі", з упэўненасцю ў трываласці свайго сямейнага дабрабыту, пакорпацца ў цёмных нізінах чалавечай прыроды. Ствараючы сурагатны свет, мастацтва кампенсуе нам тое, што недадае рэальнасць. І Я. Панфілаву не даводзіцца пужліва шчоўкаць устаўнымі скіўцамі і знарочыста нагнятаць жахі. Жахлівае само жыццё, якое высвечваецца ў промні яго чароўнага "пластычнага ліхтара".

На апошнім, XIV фестывалі адсутнічалі такія прызнаныя майстры мадэрн-харэаграфіі і ўдзельнікі амаль усіх конкурсаў, як Т. Баганава, М. Агрызкаў, А. Пепляеў. Але свята не стала ад гэтага менш маляўнічым і маштабным. Яно ледзь прыняло ўсіх, хто прыбыў, а фінальны тур, дзе, як вядома, дэманструецца самае лепшае, доўжыўся чатыры з лішкам гадзіны.

Акрамя ўжо названых, у Віцебску было паказана шмат цікавых работ. Да таго ж, прыйшоў у Віцебск і вядомы нашай публіцы пакуль больш паводле апісанняў перформанс. Дзве маладыя шведкі ў грыме бабулек з доўгімі прутамі-пальцамі з'явіліся перад пачаткам аднаго з канцэртаў сярод уражаных віцьблян і паказалі незадаволенае жаданне атрымаць нешта з буфета, які працаваў у фае, а потым пачалі блукаць сярод публікі, якая імкліва расступалася. Тэорыі, што сілкуюць перформансы і хэпенінгі, ці то на жаль, ці то на шчасце, пакуль яшчэ мала вядомыя нашым гледачам.

Віцебскі фестываль прадаставіў сваю сцэну самым розным формам сучаснага танца і самым розным мастацкім індывідуальнасцям. Якая кантрастная карціна малявалася! Тут з аднолькавай перакананасцю сцвярджаліся канец свету і яго росквіт, суседнічалі хваравітая сутарга і натхнёны палёт. Тут штурхалі жанчын нагамі і марылі пра вялікае каханне. Музыка магла раўці заводскай сірэнай, скрыгатаць і ляскаць металам, а харэаграфія спяваць, нібыта салодкагалосыя сірэны Старажытнай Грэцыі. Аднак усё гэта было вынікам нястрымнага выяўлення творчай энергіі, свячэнне якой быццам рассейвала змрок зімовых вечароў вакол Палаца ў Фрунзенскім парку, дзе праходзіў фестываль. І здавалася, што ў людзей, якія ішлі на канцэрты, твары зіхацелі гэтым святлом, святлом творчасці...

Віцебск і шматлікія аматары "новага", "іншага", "вольнага" танца, што прыязджаюць у горад з усіх канцоў краіны, з нецярпеннем чакаюць ужо наступнага, XV фестывалю.

**Юлія ЧУРКО**

*На здымках: фестывальныя імгненні розных гадоў.*

*Фота А. МАЦЮША*

КІНО

# Непараўнальная

Прыгажуня з каралеўскай пастаццю, поўная маладога запалу і энергіі — такой яе памятаюць мільёны гледачоў былога Саюза. І менавіта такой Аляксандра Іванаўна Клімава, вялікая актрыса, жывая легенда беларускай сцэны, з'явілася перад гледачамі падчас свайго творчага вечара, які адбыўся ў Рускім нацыянальным тэатры імя М. Горкага 9 сакавіка.

Урачыстае святкаванне юбілею славутай актрысы спазнілася амаль на паўгода — перашкодзіў залішне доўгі, але неабходны рамонт тэатральнага будынка. І чаканае спраўдзілася — у гэты вечар, здавалася, сама сцэна дапамагала, давала сілы Аляксандры Клімавай. З гэтай сцэнай яна неразлучная з 1956 года. У тым, што Рускі тэатр атрымаў ганаровае званне "нацыянальны", ёсць і асабістая заслуга Аляксандры Іванаўны, якая аддала любімаму тэатру амаль паўстагоддзя свайго жыцця. Вобразы, створаныя актрысай у лепшых традыцыях псіхалагічнага тэатра, успрымаюцца зараз як узор, як сапраўдная тэатральная легенда. Немагчыма згадаць іх усе — за шэсцьдзесят гадоў актыўнай творчай дзейнасці Клімава сыграла больш за пяцьдзесят галоўных роляў у тэатры і каля трыццаці — у кіно. Узгадаем толькі самыя "зорныя": Камісар у "Аптымістычнай трагедыі" Вішнеўскага, Ларыса ў "Беспасажніцы" Астроўскага, Ніла Сніжко ў "Барабаншчыцы" Салынскага, Гелена ў "Варшаўскай мелодыі" Зорына, Гітэль у "Двое на арэлях" Гібсена, Клеапатра ў "Антоніі і Клеапатры" Шэкспіра, Гертруда ў яго ж "Гамлеце", Марыя Сцюарт у аднайменным спектаклі паводле Шылера. Аляксандра Клімава здольна сыграць любую ролю, але вяршыняй яе творчасці былі і застаюцца ролі менавіта трагедыйнага плана. Нездарма ж на адной з "Маладзечанскіх сакавіц" калегі ганаравалі актрысу званнем "Каралева Тэатра" — менавіта так, усё з вялікай літары. Пра месца Аляксандры Клімавай, народнай артысткі СССР і РБ у сусветным тэатральным працэсе гаворыць і такі факт — яе імя занесена ў сусветную тэатральную энцыклапедыю.

Быць толькі нагодай для віншавання — не ў характары такой актрысы, як Аляксандра Клімава. Таму свой юбілейны вечар яна зрабіла яшчэ і творчым, паказаўшы монаспектакль "Мой тэатр", які спецыяльна для маці напісаў яе сын Андрэй Душачкін, таксама выдатны акцёр Рускага тэатра. "Ці любіце вы тэатр так, як люблю яго я?.." — здаецца, ніхто не мае большага права на гэтыя знакамітыя словы, чым Клімава. Яна атрымала гэтае



права ўсім сваім жыццём, пра якое і распявала ў монаспектаклі, які глядзеўся на адным дыханні. Але без цёплых слоў, кветак, падарункаў у юбілейны вечар абысціся было немагчыма. Віншавалі актрысу памочнік Прэзідэнта краіны І. Карэнда, міністр культуры РБ Л.Гуляка, старшыня БСТД А. Дудараў, генеральны сакратар Міжнароднага інстытута тэатра (ЮНЕСКА) А. Міхальцова, прадстаўнікі гарадскога Савета дэпутатаў, Беларускай акадэміі мастацтваў, клуба аматараў тэатра "Таленты і прыхільнікі", кіраўнікі і артысты амаль усіх вядучых творчых калектываў сталіцы: Тэатра оперы і балета, Купалаўскага і Музычнага тэатраў, Тэатра юнага гледача і Тэатра-студыі кінаакцёра, Белдзяржфілармоніі, народнага драматычнага тэатра "Жывая планета" і, канешне, самога Рускага тэатра, якому, дарэчы, у гэтым жа месяцы спаўняецца семдзесят год. З усіх прамоў чамусьці лепш запомнілася адна: галоўны рэжысёр ТЮГа Андрэй Андросік падняўся на сцэну не толькі з кветкамі, але і са слоўнікам эпітэтаў. 365 — столькі ж, колькі дзён у годзе — мастацкіх параўнанняў да слова "жанчына" прыводзіцца ў гэтай кніжачцы. Але больш за ўсё да асобы Аляксандры Іванаўны Клімавай пасуе адно — непараўнальная.

**Юлія ПАЛАЧАНІНА**

# У Беларускім саюзе мастакоў

У галерэі "Мастацтва" пры БСМ адкрылася выстава жывапісца К.Качана, а ў Палацы мастацтваў адбылося адкрыццё выставы, прысвечанай святу 8 Сакавіка. Экспазіцыя сфарміравана з твораў жанчын-мастачак, сяброў БСМ. У музеі імя Бембеля працуе выстава скульптуры.

●

Званне заслужанага мастака РБ атрымаў старшыня секцыі жывапісу БСМ М.Апіёк.

●

Адбылося пасяджэнне прэзідыума БСМ, дзе разглядаліся важныя праблемы эканамічнага і творчага жыцця мастакоў. Адна з найбольш набалелых праблем — утрыманне творчых майстэрань, якія гарадскія ўлады і ЖЭСы збіраюцца прыраўноўваць па ўзроўні аплаты да вытворчых.

Старшыня БСМ Уладзімір Басалыга зазначыў: "Горад нам насустрач не пайшоў. У прыклад прыводзяцца архітэктурныя майстэрні, дзе плата за карыстанне памяшканнем вышэйшая. Але ж архітэктурныя майстэрні рэгіструюцца як унітарныя праектныя прадпрыемствы, яны маюць свой рахунак, штат супрацоўнікаў, выконваюць заказы як дзяржаўных, так і прыватных заказчыкаў. І аплачваюцца, натуральна, за кошт атрыманых грошай. Статус творчых майстэрань разглядаецца па нормах, напрыклад, шынамантажных майстэрань, дзе працуюць некалькі чалавек.

Незразумела, чаму не ўлічваецца грамадская праца БСМ. У год БСМ у Мінску і па рэспубліцы праводзіць 80-100 выстаў, у кожнай з якой выстаўляецца 50-100 мастацкіх твораў, створаных мастакамі на грамадскіх пачатках. Акрамя гэтага, БСМ перадаў 1486 мастацкіх твораў са сваіх фондаў на часовае захаванне музеям, навучальным установам і іншым арганізацыям. Гэтыя творы выстаўлены без аплаты за карыстанне. Шмат з іх проста дорыцца. Нам крыўдна, што пры гэтым гарадскія ўлады не імкнуцца зразумець праблемы БСМ і пайсці нам насустрач".

●

Адбылася сустрэча старшыні БСМ Уладзіміра Басалыгі з намеснікам старшыні Савета Міністраў РБ па справах культуры Уладзімірам Дражыным, на якой абмеркаваны шэраг пытанняў творчага і вытворчага жыцця БСМ. Саюз спадзяецца на падтрымку падчас правядзення ў канцы года ў Палацы мастацтваў рэспубліканскай выставы, прысвечанай 120-годдзю Я.Купалы і Я.Коласа, на заключэнне дагавароў, закупку твораў. БСМ спадзяецца таксама на дапамогу Савета Міністраў у рамонце Палаца мастацтваў. Тэмпературны рэжым у ім не спрыяе захаванню твораў і правядзенню выстаў.

## Паэтычная біяграфія пакалення

**У Дзяржаўным музеі гісторыі беларускай літаратуры адбылася імпрэза — адкрыццё выставы "Паэтычная біяграфія пакалення", прымеркаваная да 95-годдзя выдатнага беларускага паэта Алеся Звонака. Вельмі значная падзея, бо ўпершыню шырокаму колу наведвальнікаў прадстаўлены архіў паэта, які літаратурны музей атрымаў у дар ад унучкі Алеся Звонака Наталлі. На выстаўцы можна ўбачыць зборнікі твораў паэта, яго пераклады, рукапісы, дакументы, фотаздымкі, асабістыя рэчы, цудоўную графіку Валянціны Сідаравай да зборніка вершаў Алеся Звонака. Гэта толькі частка архіва — немагчыма паказаць адразу ўсё. Хочацца звярнуць увагу на рукапісныя сшыткі вершаў, якія з'явіліся на Калыме, у гады высылкі: пра каханне, шчырасць, дабрыню, любоў да роднай Бацькаўшчыны. І думаеш — колькі ж цудоўных паэтычных радкоў Алеся Звонака так і не пабачылі свет. Сёння яны даступныя толькі вузкаму колу музейшчыкаў ды навукоўцаў. Хочацца спадзявацца, што ў будучым усе жадаючыя змогуць прачытаць вершы, якія паэт ствараў не ў лепшыя хвіліны свайго жыцця, але якія абуджаюць усё самае светлае, добрае ў чалавеку. А фотаздымкі 30-х гадоў... Маладыя, імпазантныя хлопцы — яны ўпэўнена ўваходзілі ў беларускую літаратуру XX стагоддзя і, безумоўна, пакінулі сваё імя ў гісторыі. На пачатку мінулага стагоддзя гучала ўзнёслая, шчырая, упэўненая ў сваёй праўдзе паэзія. "Усё міне, а праўда застанецца" — гэтыя словы самога Алеся Звонака звяртаюць на сябе ўвагу. Хочацца верыць, што так яно ёсць, так яно і будзе.**

**Імпрэза прайшла як вечар успамінаў, дзе прысутнічалі родныя, сябры, знаёмыя, аматары паэзіі Алеся Звонака. Гучала музыка ў выкананні струннага квартэта, вершы паэта чытаў Вячаслаў Галуза. Добрыя, шчырыя словы пра Алеся Звонака прагучалі ў выступленні старшыні Саюза беларускіх пісьменнікаў Вольгі Іпатавай. Сваімі ўспамінамі падзяліўся адзін са старэйшых беларускіх паэтаў Пятро Прыходзька, які сябраваў з Алесем Звонакам на працягу доўгага часу, яшчэ з 50-ых гадоў. Былі сярод гасцей і прадстаўнікі больш маладога пакалення, якому пашанцавала дакрануцца не толькі да паэзіі слыннага майстра, але і сустрэцца з самім аўтарам. Сярод іх і Леанід Дранько-Майсюк, якому ў свой час давялося рэдагаваць зборнік Алеся Звонака "Мой сад". Цікава было паслухаць і доктара філалагічных навук Дзмітрыя Багушэвіча. Па яго словах, менавіта праз паэзію Алеся Звонака ён "прыйшоў да беларускай мовы". Са шчырымі словамі падзякі музею выступіла Наталля Звонак. Яна распавяла пра лёс дзеда, яго жыццё і творчасць. А далей размова вялася за кубачкам кавы — як і павінна быць у гасцінным доме.**

**Вольга ГУЛЕВА**

## Усе месцы занятыя

**Зусім нядаўна ў Гомельскай абласной цэнтралізаванай бібліятэцы з'явілася прыбудаваная да асноўнага корпуса ўтульная зала на 120 месцаў. Але прыцягвае сюды майстроў прыгожага пісьменства і зацікаўленая аўдыторыя, якую складаюць, як правіла, настаўнікі, бібліятэчныя работнікі і студэнты. У гэтым ужо змаглі пераканацца народныя паэты Беларусі Ніл Гілевіч і Рыгор Барадулін, празаік з Мінска Сяргей Трахімёнак.**

**А нядаўна тут адбылася сустрэча з паэтамі Ізяславам Катляровым і Соф'яй Шах. Жывуць яны ў Светлагорску, з'яўляюцца аўтарамі шматлікіх паэтычных кніжак, якія выходзілі ў Мінску, Маскве і мясцовых друкарнях. Вядомы яны яшчэ і як перакладчыкі: І. Катляроў перакладае з беларускай мовы на рускую, а С. Шах — з рускай на беларускую.**

**Госці чыталі вершы, адказвалі на пытанні, пазнаёмілі чытачоў з новымі кнігамі, што пабачылі свет у "Беларускім кнігазборы". Гэта — зборнікі "Земля простит, но не прощает небо" Ізяслава Катлярова і "Прысвячэнне" Соф'і Шах.**

**— Калі мы запрашалі да сябе на сустрэчу Ніла Гілевіча і Рыгора Барадуліна, то не сумняваліся, што зала будзе поўная, — сказала дырэктар бібліятэкі Валянціна Дубрава. — Але прыемна, што не было вольных месцаў і на сустрэчы з менш слыннымі, але таксама таленавітымі паэтамі, нашымі землякамі Ізяславам Катляровым і Соф'яй Шах. Упэўнены, што гэтак жа пройдуць прэзентацыя новых кніг прозы Васіля Ткачова "Тратнік" і "Крутыя хлопцы", якая запланавана на бліжэйшы час.**

**Ягор ЛЯСНЫ**

*г. Гомель*

ПАМЯЦЬ

# Дубянецкі

З пакуль яшчэ ненадрукаванай кнігі лірычных запісаў і мініяцюр Янкі Брыля "З людзьмі і сам-насам" з прыемнасцю я ўзяў на заметку гэтыя радкі:

"Каторы ўжо нумар чытанне "Полымя" пачынаем з дзённіка Дубянецкага. Мяркую па сабе і па сябрах. І чалавек гэты, значны і пры жыцці, яшчэ прыгажэй раскрываецца сёння. І час, які ён так рупліва апісвае, васьмідзесятыя гады, бачацца па-гістарычнаму праўдзіва, шырэй за справы толькі выдавецкія, і незабыўныя чыноўнікі, што кожны па-свойму тармазілі прагрэс, дзейнічаючы у летапісца Міхася на цэкоўскіх ды камітэцкіх падмостках з жывой тэатральнай пацешнасцю..."

Мая чытацкая ўвага перш за ўсё ўзбагацілася словазлучэннем — летапісец Міхась.

Сапраўды, летапісец — пісьменнік, які грунтоўна, цікава і непаспешліва адлюстраваў добра вядомыя яму падзеі; паказаў само паветра гэтых падзей.

Дык вось, калі ў друку нарэшце з'явіўся Ягоны дзённік, я канчаткова пераканаўся: Ён не толькі выдатны грамадзянін Беларусі і гаспадарлівы стваральнік нацыянальнае выдавецкае прасторы, не толькі працавіты перакладчык і чалавек са шляхетнымі манерамі, а Ён яшчэ і пісьменнік, мастак, майстар па-сапраўднаму жывой мемуарнай прозы.

Пра сябе менавіта як мастака Ён ніколі не казаў.

Самаатэстацыя, а тым больш самахвальства — не ўласцівы Яму занятак.

Але, пэўна ж, адчуваў сябе роўным сярод роўных у пісьменніцкай сябрыне і найбольш хінуўся да тых творцаў, якія жылі не паводле законаў лічбы, а паводле законаў слова.

Па-скарынаўску разумеў: залежнасць ад слова і незалежнасць ад лічбы — неабходная ўмова, пры дапамозе якой душа пакрысе вызваляецца ад халопства і становіцца мужнаю.

Такая душа недатыкальная, як музыка.

Такая душа ўсміхаецца, як Бог.

І тады ў ёй ужо няма рызыкоўнага ці амаль няма — ні кволай разгубленасці, ні страху перад санавітымі хамамі, ні лёкайства.

Ёсць перш за ўсё Боская ўсмешка...

Дарэчы, Ён часта ўсміхаўся; усміхаўся амаль заўсёды, нават у свае апошне-бальнічныя дні — калі размаўляў, калі слухаў, калі Яму балела, калі цытаваў (і, дарэчы, невыпадкова цытаваў!) Янку Купалу:

Хоць дух будзе шыпець у бяссіллі, —
На сваіх вісі жылах і смейся!..

Аднойчы, на якую хвіліну адступіўшыся ад паэзіі ўсмешлівасці, расказаў мне, як адвёў небяспеку ад сваёй дачкі, тады яшчэ школьніцы, малодшай Ірынкі — яна купалася ў Днястры і раптам пачала тануць...

"Ратуючы Ірынку, я згубіў у вадзе залаты заручальны пярсцёнак. Не... не згубіў, а заплаціў ім малдаўскаму Днястру, каб не забіраў маё дзіця..."

Заплаціць малдаўскаму Днястру за жыццё дачкі заручальным пярсцёнкам!

Гэта мова творцы.

І я ўспрыняў пачутае не проста як вуснае сямейнае апавяданне, а як фрагмент ужо занатаванай дзённікавай праўды — той ёмістай прозы, якая народжана не ўяўленнямі і марамі, а самой явай.

Увогуле ж, Ягоная мемуарная проза — праца майстра, усё ўменне і сілы якога пайшлі наператварэнне жыццёвай цярплівасці ў літаратурную заўсёднасць.

Значнасць Ягонага шчырага дзённіка роднасная мастацкай і гістарычнай значнасці драматычнай "Споведзі" Ларысы Генію, разважлівым "Лісткам календара" Максіма Танка і балючай "Аповесці для сябе" Барыса Мікуліча.

Ён стварыў кнігу па духу блізкую тым нашым адметным і запамінальным кнігам, у якіх адвечнае беларускае трыванне паказана як неабходны і вяршынны знак, без якога немагчыма беларуская вечнасць.

**Леанід ДРАНЬКО-МАЙСЮК**

*М. Дубянецкі (злева) з жонкай, бацькам, цешчай і дочкамі Ірай і Галяй*

*На імпрэзе ў Саюзе пісьменнікаў (у цэнтры)*

*М. Раманюк, М. Дубянецкі, В. Жыдліцкі і А. Лойка*

*З Р. Барадуліным*

Галіна ДУБЯНЕЦКАЯ

## Ліст

*Нечакана, без адрэсу, без даты,*
*ліст ад бацькі, бы з вандроўкі, крылаты,*
*ліст ад бацькі, бы агонь сярод злівы,*
*напаткалі:*
*"А Я САМЫ ШЧАСЛІВЫ!"*

*Што ж ты, смертухна, дзе тваё джала?..*
*Як душа на пройме дрыжала —*
*і да вобліку цякла дарагога:*
*чуеш, татачку, ну як там, ля Бога?*

*Там лагоднага святла пераліва,*
*там ЖЫВЕ наш бацька, шчаслівы!*
*Там ёсць горад, апавіты зарою,*
*дзе спаткаемся мы вечнай парою.*

АНКЕТА

***Беларускае таварыства "Кніга" падрыхтавала да выдання кнігу "Шчыра, як на духу. Споведзі вядомых людзей Беларусі". Гэта кніга кароткіх адказаў на пытанні анкеты, якія датычаць жыцця, творчасці, працоўнай дзейнасці, асаблівасцей характару, схільнасцяў і захапленняў выдатных асоб нашай краіны.***

***Пытанняў — трыццаць сем. Вось яны: 1. Ці падабаецца вам ваша імя? Ці не шкадуеце, што вам не дасталося якое-небудзь іншае? 2. Які колер вачэй і валасоў вам падабаецца найбольш? 3. Якія станоўчыя якасці ў чалавеку найбольш цэніце? 4. Якія чалавечыя заганы не церпіце? 5. Ці верыце вы ў сяброўства? 6. Які ваш любімы занятак? 7. Як вы разумееце шчасце, шчаслівы лёс, шчаслівае жыццё? 8. Які лёс, на вашу думку, асабліва варты жалю і наракання? 9. Які момант у вашым жыцці вы лічыце самым радасным? 10. Які ў вашым жыцці момант быў самы горкі, нешчаслівы? 11. Чаго вы яшчэ хацелі б у жыцці дасягнуць ці дачакацца? 12. Якая асоба ў гісторыі чалавецтва вам найбольш сімпатычная? 13. Герой якога рамана ці іншага мастацкага твора? 14. Ваш любімы паэт, празаік, кампазітар, жывапісец? 15. У чым, па-вашаму, найбольш поўна праявіўся геній прыроды? 16. Якая жывёліна (звер, птушка) вам найбольш сімпатычная? 17. Якая ваша любімая страва? 18. Пра якую мясціну на зямлі ў вас застаўся самы прыемны ўспамін? 19. Калі б лёс прымусіў пакінуць Радзіму — якую краіну выбралі б вы для перасялення? 20. Ваша ўяўленне пра сямейнае шчасце? 21. Аб якім упушчэнні (не скарыстанай магчымасці) на сваёй жыццёвай дарозе вельмі шкадуеце? 22. Чым (якімі падзеямі, здарэннямі) засталося ў памяці дзяцінства? 23. Ваша стаўленне да ўдзелу ў палітычным жыцці краіны? 24. Якое значэнне надаяце бытавым умовам жыцця і працы? 25. Ці ёсць у вас фінансавая мара? 26. Што (які матэрыял, якую тэму) шукаеце перш за ўсё ў свежых газетах? 27. Якую кнігу (твор) вы любіце перачытваць? 28. Ці верыце вы ў фатальную непазбежнасць наканаванага лёсам? 29. Якая расліна (дрэва, кустарнік, кветка-зёлка) вам найбольш падабаецца? 30. Ваша любімая пара года? 31. Якая яна (ён) — жанчына (мужчына) вашай мары? 32. Ваша стаўленне да рэлігіі? 33. Ці верыце ў прыкметы? 34. Кім збіраліся стаць у дзяцінстве? 35. Ці прыслухоўваецеся вы да чыёй думкі, прымаючы рашэнне? 36. У чым, на вашу думку, нацыянальная ідэя Беларусі? 37. Якой вы бачыце Беларусь праз 10 гадоў?***

***Кніга выходзіць пад рэдакцыяй народнага паэта Беларусі Ніла Гілевіча. Набыць яе можна будзе ў кнігарнях Мінска. Даведкі па тэл. 227-07-57.***

***Прапануем увазе чытачоў "ЛіМа"некалькі старонак з будучай кнігі.***

# Шчыра, як на духу

**Васіль БЫКАЎ:**

1. Пра тое не думаў.
2. Усе колеры добрых людзей.
3. Добрыя.
4. Эгаізм.
5. Так.
6. Думаць.
7. Калі няма няшчасця.
8. Любоў да дзяржавы, якая яго ненавідзела.
9. Скончылася вайна, а я — жывы.
10. Іх было шмат... Аж занадта.
11. Дажыць да вясны.
12. Ісус Хрыстос.
13. Дон Кіхот.
14. Іх шмат.
15. Толькі не ў чалавеку.
16. Кошка.
17. Бульбяная.
18. Возера Гарадзень.
19. Такой на зямлі няма.
20. Калі няма няшчасця. Сямейнага.
21. Не сказаў усіх добрых слоў таму, каго болей за ўсіх любіў.
22. Як мне ў 6 класе школа купіла чаравікі.
23. Адмоўнае.
24. Сціплае, але абавязковае.
25. Ужо няма.
26. Пра Волю.
27. Біблію.
28. Так.
29. Клён.
30. Вясна.
31. Яна — цудоўная.
32. Мы з ёй існуем паасобку.
33. Так.
34. Ужо забыўся. Стары.
35. Я іх не прымаю.
36. Зразумець сябе Беларуссю.
37. Тою самаю, што і сёння. Калі не горшай...

**Анатоль ВЯРЦІНСКІ:**

1. Так, падабаецца.
2. Вачэй — светлашэры ці светлы з прозеленню. Валасоў — светларусы.
3. Дабрыню, гуманнасць, разумнасць, годнасць, прынцыповасць.
4. Найперш — крывадушнасць і подласць.
5. Веру.
6. Працаваць (пісаць) на машынцы, чытаць, з фізічнай працы — калоць дровы, з хобі — збіраць грыбы.
7. Для мяне неабходныя складнікі шчасця — ранішняя свежасць (наўкола і ў самім сабе), адчуванне сябе свабодным і ўпэўненым (і значыць — гаспадаром становішча), закаханасць, клопат пра дзяцей, зносіны з сябрамі, рабіць добрае для людзей, для людскога жыцця. Мне падабаецца наступнае, магчыма, і залішне прагматычнае, вызначэнне шчасця: "Шчасце — гэта калі ёсць што рабіць, чым заняцца і на што спадзявацца".
8. Лёс прыніжанага няўдачлівага самотніка. І яшчэ — абывацеля ў горшым сэнсе гэтага слова, лёс чалавека, які не ўзняўся да спасціжэння сябе як асобы, да самаўсведамлення сваёй грамадзянскай і нацыянальнай тоеснасці.
9. Ці не сустрэча з маці пасля доўгага расстання. А можа — прызнанне дзяўчыны, што яна таксама кахае цябе, што яна "твая".
10. Пахаванні — маці, бацькі, брата, цёткі...
11. Хацелася б збольшага здзейсніць даўно саспелыя, вынашаныя задумы вершаў і паэм. І хацеў бы дачакацца таго дня, калі беларус стане нарэшце паўнапраўным гаспадаром у сваім доме.
12. Ісус Хрыстос.
13. Дон Кіхот, герой рамана Сервантэса.
14. Максім Багдановіч, Максім Гарэцкі, Аляксандр Блок.
15. У стварэнні Гома сапіенс — Чалавека разумнага.
16. Голуб.
17. Бліны са скваркай.
18. Выган з лугавінай, прылеглай да азерца (родная вёска) .
19. Латвію.
20. Наяўнасць, акрамя кахання, такіх чыннікаў, як узаемаспачуванне і ўзаемаразуменне, нязменнае суперажыванне і ўсведамленне агульнасці лёсу ("шлюбы заключаюцца на нябёсах").
21. Крыху шкадую, што недастаткова часу і энергіі аддаваў паэтычнай (шырэй — пісьменніцкай) творчасці. Мог бы зрабіць значна больш.
22. Першым падарожжам у лес, чытаннем першых кніг, падзеямі часу вайны, вяртаннем з вайны бацькі.
23. Маю асабісты вопыт удзелу ў грамадска-палітычным жыцці краіны і ганаруся гэтым. Згодны з выслоўем, што калі ты не зоймешся палітыкай, яна зоймецца табой.
24. Люблю ўтульнасць, рацыянальна спарадкаваны штодзённы побыт, большменш спрыяльныя ўмовы для працы. Без усяго гэтага не будзе належнага душэўнага стану.
25. Яўна выражанай такой мары няма, а вось быць больш-менш свабодным ад неабходнасці думаць пра хлеб надзённы, змагацца, што называецца, за існаванне — заўсёды хацелася.
26. Раней шукаў матэрыял, сугучны маім маральным і творчым патрэбам, а зараз — публікацыі, звязаныя тэматычна з сённяшняй грамадска-палітычнай сітуацыяй у Беларусі, з пошукамі выхаду яе з крызісу.
27. Зрэдку — Біблію (у перакладзе на беларускую мову).
28. Не веру.
29. Дзятлінка.
30. Жнівень.
31. Прыблізна такая, якая сустракалася наяве, якая была (ёсць на сёння) у сапраўднасці.
32. У асноўным станоўчае.
33. У некаторыя веру, ва ўсякім выпадку — лічуся, памятаю.
34. Настаўнікам.
35. У некаторых выпадках раіўся, прыслухоўваўся, але часцей за ўсё прымаў рашэнні самастойна.
36. У беларускасці, у яе (Беларусі) этнічным, эканамічным і палітычным самавызначэнні.
37. Я з'яўляюся адным з аўтараў Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь, прынятай 15 сакавіка 1994 года, і краіна мне бачыцца праз колькі гадоў такой, якой яна паўстае з першых артыкулаў Асноўнага закона. Гэта — "Дэмакратычная сацыяльна-прававая дзяржава", якая "валодае вяршэнствам і паўнатой улады на сваёй тэрыторыі... абараняе сваю незалежнасць і тэрытарыяльную цэласнасць, канстытуцыйны лад, забяспечвае законнасць і правапарадак", і ў якой "чалавек з'яўляецца найвышэйшай каштоўнасцю грамадства і дзяржавы".

**Радзім ГАРЭЦКІ:**

1. У дзяцінстве — не, цяпер — так.
2. Сіні і светлы, а наогул — розны, абы быў прыгожы.
3. Дабрыня.
4. Зайздрасць.
5. Веру.
6. Чытанне.
7. Калі ёсць любімая праца і каханне.
8. Лёс халуя.
9. Нараджэнне дачкі.
10. Смерць бацькі і маці.
11. Напісаць кнігу пра братоў Максіма і Гаўрылу Гарэцкіх.
12. Усяслаў Чарадзей.
13. П'ер Бязухаў.
14. Максім Багдановіч, Янка Брыль, Бетховен, Пётра Сергіевіч.
15. У эвалюцыі арганічнага свету, кругабегу часу.
16. Верабей.
17. Дранікі.
18. Беларусь.
19. Ніякую.
20. Каханне і ўзаемаразуменне.
21. Слабае валоданне замежнымі мовамі.
22. Зносіны з прыродай Поўначы (Кольская паўвыспа, Карэлія), выгляд зняволеных (пошукі ўцекачоў з сабакамі).
23. Станоўчае.
24. Нязначнае, і ўсё ж: "дробязь, але прыемна".
25. Няма.
26. Якая рэакцыя на чарговы "перл" кіраўніка краіны.
27. Ніякую, бо няма на гэта часу.
28. Не.
29. Васілёк.
30. Канец зімы — пачатак вясны; канец лета — пачатак восені.
31. Самая прыгожая, самая каханая.
32. Цярпіма-станоўча.
33. Жартуючы, веру.
34. Вандроўнікам (ці геолагам).
35. Абавязкова.
36. Пабудова незалежнай, дэмакратычнай, багатай, культурнай краіны з нацыянальна свядомым (патрыятычным) насельніцтвам.
37. Бачу такой, як у пытанні 36-ым, праз 50 гадоў.

**Анатоль КУДРАВЕЦ:**

1. Падабаецца. Асабліва, калі ўспомню мамін голас: "Толя! Толік!.. Толічак!.."
2. Вочы — карыя, валасы — каштанавыя. Хаця і вочы, і валасы жывуць з тварам, і як добра, калі ўсё — адно да аднаго.
3. Шчырасць, натуральнасць, вернасць слову.
4. Фальш... і гульню. Калі сур'ёзна: спачатку чалавек гуляе ў здраду, а пасля здраджвае папраўдзе.
5. Веру. Але сяброўства — як жонка, на яго альбо пашанцуе, альбо не.
6. Думаць і пісаць. Праўда, думаецца лягчэй, чым пішацца.
7. Шчасце — гэта прачынацца і радавацца новаму дню. Радавацца, што ўчора нешта зроблена і нешта можа быць зроблена сёння, — хоць самае маленькае.

Шчаслівы лёс — калі чалавек раскрыўся, разгарнуўся, рэалізаваў сябе.

Шчаслівае жыццё — сям'я, дзеці, унукі; кавалачак с в а ё й зямлі, росная раніца, цвіце яблыня, узыходзіць сонца... шчасце — гэта тое, чаго няма, але чаго вельмі хочацца.

8. Жыць у адзіноце і не ведаць радасці сяброўства.
9. Калі ўбачыў, што паступіў у Слуцкае педвучылішча.
10. Трагічная смерць бацькі — Кудраўца Паўла Фёдаравіча.
11. Хацеў бы дачакацца, калі Беларусь стане Беларуссю — самастойнай, дэмакратычнай, беларускай.
12. Кастусь Каліноўскі, Францыск Скарына.
13. Дон Кіхот.
14. З паэтаў — Купала, з пісьменнікаў — Чэхаў. Кампазітары і мастакі — у залежнасці ад настрою.
15. У тым, што ў яе няма любімчыкаў, у яе ўсе роўныя.
16. Сабака, конь. Сабака — бо ён бліжэй да чалавека па натуры, конь — бо ён бліжэй да чалавека па адданасці.
17. Дранікі, фасолевы, гарохавы супы.
18. Слуцк, педвучылішча. Палессе, Прыпяць: лета, лодка, вада, рыба, сенакос.
19. Не ведаю. Мусіць, ніякую.
20. Спакой, павага, разуменне.
21. Здаецца, такіх не было, або я пра іх не ведаю.
22. Вайной, цікаўнасцю да зброі і смерці.
23. Кожны пісьменнік — палітык, і тым больш, чым больш змрочны час.
24. Люблю парадак у душы і ў быце. Уладкаваны быт — залог настрою ў працы.
25. Мінімальная: не думаць, дзе ўзяць грошай на хлеб і да хлеба.
26. Апошнія гады — супрацоў хлуслівай прадажнай уладзе.
27. Не люблю нічога перачытваць.
28. Лёс — гэта карабель, руль ад якога Бог уручае чалавеку. І чалавек можа ці пасадзіць яго на мель, ці разбіць аб скалы, ці вывесці на шырокія прасторы.
29. З дрэў больш за ўсё люблю ліпу — за яе мяккую сілу, спакойную прыгажосць.
30. Відаць, вясна — бурленне, змыванне, абуджэнне, нараджэнне...
31. Далікатная і прыгожая — і целам, і сваім жаночым розумам.
32. Яна патрэбна чалавеку. Чалавек баіцца адзіноты, і калі няма нікога — застаецца Бог.
33. Веру. І баюся іх. Як і сноў. Яны ў бальшыні ў мяне праўдзяць, асабліва ў дачыненні да хвароб, смерці...
34. Канкрэтна нікім, але інтуітыўна цягнула да граматы, літаратуры, пісаць нешта "складанае".
35. Прыслухоўваюся, калі няма сваёй.
36. У самастойнасці. Самабытнасці. Незалежнасці. Будзе самастойнасць — выжывем.
37. Баюся пра гэта думаць... Хачу, жадаю, спадзяюся...

**Іван ШАМЯКІН:**

1. Іван — лепшае імя. Менш падабаецца прозвішча — Шамякін. Адкуль яно?
2. Вочы — блакітныя. Валасы — светлыя, у жанчын.
3. Сумленнасць. Праўдзівасць.
4. Ману. Ашуканства. Прагнасць. Эгаізм.
5. Веру. Прыклад — маё шматгадовае сяброўства з Андрэем Макаёнкам, Аляксеем Кулакоўскім.
6. Пісаць вострасюжэтныя раманы ці аповесці.
7. Добрая сям'я, добрая жонка, дзеці. Дабрабыт у межах разумных патрэб.
8. Распад сям'і. Адзіноцтва. Старасць.
9. Калі пакахаў сваю будучую жонку — Марыю Філатаўну. Публікацыя "Помсты" ў "Полымі" ў 1945 г.
10. Першы дзень вайны, адчуванне непазбежнай смерці ад выбуху першых варожых бомб.
11. Дасягаць і чакаць мне ўжо позна — 81 год. Хацелася б пабачыць дзяцей, унукаў шчаслівымі.
12. Геніяльныя пісьменнікі — Пушкін, Лермантаў, Талстой, Чэхаў, Купала, Колас, Шолахаў.
13. Героі "Вайны і міру", "Ціхага Дона".
14. Чэхаў, Чайкоўскі, Рэпін, Савіцкі.
15. У стварэнні чалавека разумнага.
16. Алень, ластаўка.
17. Бульба з салам смажаным.
18. Пра вёску Церуха, дзе нарадзілася і вырасла мая Марыя Філатаўна.
19. Ніякая краіна, акрамя роднай, мяне не вабіць.
20. Каханне на ўсё жыццё і дзеці.
21. Ні аб чым не шкадую.
22. Лесам. Маленства ў лесе — цуд!
23. Да старасці я актыўна ўдзельнічаў у палітычным жыцці. Творамі і грамадскай працай.
24. Яны павінны быць чалавечнымі — умовы.
25. Яна ў жаданні перавыдання твораў.
26. Любую цікавую.
27. Перачытваю Чэхава.
28. У чалавека павінна быць сіла змяніць цяжкі лёс. І ў народа.
29. Каліна, бяроза, сасна. Люблю лес.
30. Вясна.
31. Мая мара здзейснілася. У маім узросце яе няма.
32. Быў невяўнічым атэістам, стаў веруючым.
33. Грэшны — веру.
34. Ляснічым, як начальнік бацькі майго.
35. Уважліва прыслухоўваюся.
36. У адраджэнні мовы. Ва ўмацаванні незалежнасці. У павышэнні дабрабыту.
37. Багатай праз 10-15 гадоў. Дай Бог, раней.

ЧАСАПІС

## "Як пра жывую існасць..."

Апошнім часам на творчым рахунку Алега Лойкі (як нехта трапна заўважыў) "паэта ў літаратуразнаўстве і літаратуразнаўцы ў паэзіі" з`явіліся дзве новыя кнігі. Гэта падручнік "Старабеларуская літаратура" і зборнік артыкулаў і эсэ "Галгофа". Першая выйшла ў выдавецтве "Вышэйшая школа" і атрымала ўжо належную ацэнку ў друку. Што да другой, "Галгофы" (падназоў "Кніга лёсаў"), то яна, на жаль, застаецца пакуль што па-за ўвагай крытыкі. Магчыма, па той простай прычыне, што ўбачыла свет не ў сталічным, а ў правінцыйным выдавецтве — выдадзена абласным унітарным паліграфічным прадпрыемствам "Слонімская друкарня". І выдадзена невялікім накладам. Між тым гэтая кніга вартая ў шмат якіх дачыненнях нашай чытацкай увагі.

Выданне ўяўляе сабой зборнік розных у жанравых і тэматычных адносінах матэрыялаў, напісаных цягам апошніх дзесяці-дванаццаці гадоў. Гэта — гісторыка-літаратурныя і літаратуразнаўчыя артыкулы, артыкулы-агляды, артыкулы-экскурсы, артыкулы-даследаванні ("На трагічных перавалах. Шляхамі беларускай паэзіі XX стагоддзя", "Для чаго існуе Адраджэнне", "Перыядызацыя — гэта сур`ёзна", "Сквозь дебри мифов продираясь", "На высокім алтары", "З настальгіяй па тэорыі", "Ці абавязаны паэт быць грамадзянінам?"), навукова-публіцыстычныя і палемічныя выступленні на "патрэбу дня" ("Філалагічнай адукацыі — прыярытэт", "Білінгвізм — антынародная тэорыя", "Адраджэнне без кансалідацыі?", "Навука навук — філалогія", "Аб адным прытаптаным слове", "Давер і адказнасць"), літаратуразнаўчыя эцюды і накіды партрэтаў класікаў і сучасных аўтараў ("*Не на камень падала зерне*", "Янка Купала — наша будучыня", "Любімы, народны, векавечны", "У Максіма Танка ёсць усё", "Быў ён чалавекам Адраджэння", "Пра Барадуліна без цытатаў", "Паэт-сустрэча", "Мудрэц і красамоўца" і інш). З ліку апошніх асабліва ўражвае аповед-згадка, прысвечаная Яўгеніі Янішчыц — "Кладачка *тоненька*".

Характэрна яшчэ і вось што. Нягледзячы на вонкавую разнароднасць матэрыялаў, якія склалі кнігу "Галгофа", яна тым не менш вызначаецца адметнай цэласнасцю, унутраным адзінствам. Магія характэрнага лойкаўскага стылю — імпэтна-эмацыянальнага, экспрэсіўнага, падобнага часам на натхнёную імправізацыю? У *пэўнай ступені, можа, і так*. "*Чалавек* — гэта стыль". І аўтар — гэта таксама стыль. Але справа, вядома ж, не толькі ў гэтым. А ў асобе аўтара як творцы і навукоўца, як грамадзяніна і патрыёта.

У сваім эсэ "Быў ён чалавекам Адраджэння", прысвечаным памяці Уладзіміра Калесніка, А.Лойка прызнаецца: "Мяне, мае творчыя спробы ён *падтрымліваў менавіта як адраджэнец*, —падтрымліваў, колькі разоў знаходзячы ў маіх пальцах здольнасць адчуваць літаратуру як прыгажосць, як жывую існасць". І далей: "Яго адносіны да роднай літаратуры, да працы ў ёй — узор усім нам". Сімптаматычнае прызнанне, бо кніга "Галгофа" якраз і з`яўляецца яскравым сведчаннем таго, што Алег Лойка годна ўспрыняў урокі свайго настаўніка, плённа прадаўжае і развівае, на новым гістарычным вітку, традыцыю яго, Чалавека-Адраджэнца.

Чытаем: "Можна сказаць, што дзе чалавек, там і паэзія. І тое будзе слушным, бо сапраўды чалавек, яго сэрца, унутраны свет душы — змясцілішча, з якога паэзія выпраменьваецца". Такі своеасаблівы *запеў-зачын кнігі*. Чытаем далей: "Прыгажосць, краса ідэалу — вось на пару з чым ва ўсім XX стагоддзі і прадаўжае ісці найперш у сваіх высокамастацкіх узорах беларуская літаратура"; "У цэлым ва ўмовах нацыянальнага Адраджэння беларуская сучасная літаратура прадаўжае з поспехам нарошчваць свой патэнцыял. Асабліва бурны прыток у яе сёння моладзі"; "Пачалося Янкам Купалам, працягваецца яго іменем, і будучыня нас да сябе кліча — яго ж іменем. Жыць Купалаваму слову — жыць Беларусі"; "Я люблю Якуба Коласа, бо не магу не *любіць самога сябе*... Бо гэта цераз яго я свет успрымаю, адчуваю, цераз яго — з яго чулівымі словамі — край свой люблю"; "Не любіць паэзіі Максіма Танка нельга. Не быць удзячным яму за веліч яго духу і натхнення нельга"; "Ды якімі трагічнымі і драматычнымі ні былі лёсы беларускіх пісьменнікаў XX стагоддзя, лёсу самой літаратуры, усе яны, *як маглі, спрыялі*, і таму гэта сёння, пры канцы стагоддзя, яны на перавале, можна сказаць, зайздросным. І перш за ўсё зайздросным той вышынёй, якую наша літаратура набыла і з якое так шырока і далёка бачыцца час і прастора. Ёсць у нас Мінулае, ёсць у нас Будучыня: XX стагоддзе, такім чынам, сапраўды на перавале паміж імі як гарант новага плёну ў развіцці беларускага прыгожага пісьменства".

Словам, галоўнай і, можна нават сказаць, галоўнай лірычнай гераіняй кнігі "Галгофа" выступае родная беларуская літаратура. Так, сапраўды, Алег Лойка адчувае яе "як жывую існасць", як жывую духоўную субстанцыю.

Галіна ТЫЧКА

# Жыве ў Амерыцы жанчына

***Я хачу пазнаёміць вас з беларускай, якая жыве ў Амерыцы... і штогод атрымлівае сотні лістоў ад дзяцей з Беларусі. Я хачу пазнаёміць вас з мастачкай, спявачкай, "зоркай" і чараўніцай...***

***Яе імя — Ірэна. "Зоркай, прыгожай душою і сэрцам" назвала яе 14-гадовая Таня Чарнышэй. Добрай чараўніцай лічаць гэтую незвычайную жанчыну так званыя "чарнобыльскія" дзеці, якім яна падаравала НАДЗЕЮ.***

***Тыя дзеці з вачыма старых даўно не просяць літасці. З анкалагічных палатаў або брудных завулкаў узіраюцца яны ў нас незалежна і абвінаваўча. Яны перасталі верыць у цуды. Яны ведаюць пра жыццё больш за дарослых. Часта гэтыя дзеці не патрэбныя нават уласным бацькам. Але яны патрэбныя спадарыні Ірэне, беларусцы з Кліўленда, якая прысвяціла ім сваё жыццё. Дзякуючы ёй больш за 5000 беларускіх дзяцей з забруджаных радыяцыяй раёнаў аздараваліся ў санаторыях Славеніі, Балгарыі, Чэхіі, Нямеччыны, Турцыі. Гэтыя дзеці спрабуюць пісаць вершы, яны называюць Ірэну Каляду-Смірнову мамай.***

Каб пазнаёміцца з Ірэнай Калядой-Смірновай, нам не давядзецца ехаць у Злучаныя Штаты. Пра спадарыню Ірэну распавядае яе сяброўка, рэжысёрка Наталля Вярбоўская.

**Н.В.:** Ірэна працягнула спіс выбітных асобаў свайго радаводу. Толькі ўявіце, яе генеалогія налічвае больш за тысячу гадоў. Першыя звесткі пра род Каляды адносяцца да часоў Яраслава Мудрага. Буйнейшыя прадстаўнікі роду ахвяравалі свае жыцці для Беларусі. Харугвы з гербам Каляды прымалі ўдзел у змаганні пад Грунвальдам. Былі ў родзе паслы і дваране, мяшчане і нават Мітрапаліт уніяцкай царквы, быў і гараднічы Віленскі.

Ірэна Каляда нарадзілася ў вёсцы Падкасоўе, што пад Наваградкам. Бацька памёр ад сухотаў. Гадаваць дзяцей дапамагала бабуля (ад яе навучылася Ірэна жывой, мілагучнай беларускай мове). Маці трымала малачарню, дзе выраблялі сыр. Калі прыйшлі бальшавікі, "кулацкую" маёмасць канфіскавалі. Ад Сібіры ўратавалі суседзі.

Ірэне было каля чатырох гадоў, як пачалася вайна. Яна часта ўзгадвае пра два выпадкі з дзяцінства, якія паўплывалі на яе жыццё.

Чарговая бамбёжка. Не памятаючы сябе, ляцелі людзі ў сховішчы. Але Ірэна ўбачыла кветкі дзівоснай прыгажосці, што вабілі, гарнулі да сябе. Яна кінулася збіраць іх. Калі апамяталася, засталася адна. "Мама, мамачка!" — *пачала крычаць яна*. Вакол нікога. Бог уратаваў. Хтосьці падабраў Ірэну, пазнаў, прывёў да маці. Ірэна памятае матчыны рукі, вочы, поўныя слёз. І радасць...

Потым былі працоўныя лагеры ў Нямеччыне. Беларускія жанчыны ставілі там тэлефонныя слупы (што толькі не здолеюць яны!). Потым сям'я Ірэны некуды ад'язджала. На пероне было вельмі шмат людзей. Раптам натоўп падняў маму Ірэны і занёс у цягнік. Дзяўчынка з брацікамі і бабуляй засталіся на вакзале. Цягнік рушыў. Што было рабіць? Усю ноч яны праседзелі на клунках. Ажно зранку проста па рэйках прыйшла мама. Гэта было вельмі небяспечна: у дарозе маглі абрабаваць, забіць. Але жанчына ведала, што яе чакаюць маці і дачка. Ірэна памятае гэтую сустрэчу як найвялікшую радасць.



*Такую вялікую, што яе хапіла, каб праз* дзесяткі гадоў падзяліцца з многімі і многімі.

Калі вызвалялі Германію, сям'я Ірэны апынулася на тэрыторыі, занятай амерыканцамі. Вярнуцца ў Беларусь, да камуністаў? Не, гэта пагражала высылкай, смерцю. Значыць — эміграцыя. Злучаныя Штаты, Кліўленд. Эмігрантаў было шмат (сёння ў Амерцы жыве каля 1 млн. беларусаў, многія з той, ваеннай хвалі). Моцная суполка склалася ў Нью-Йорку. У Кліўлендзе адной з актывістак стала Клаўдзія Каляда, маці Ірэны. Большасць эмігрантаў асімілявалася. Яны зараблялі грошы, прыстасоўваліся да новага свету і часта называлі сябе "рускімі" або "палякамі", бо гэтак было прасцей. Але гучаў тэлефонны званок: "Ах гультаі! Мы ж

# ПІСЬМО Ў РАЙ

*(Заканчэнне. Пачатак на стар. 9)*

Нібыта адцягвала сустрэчу з намі, і чорная сумка на шырокім сінім рэмені матлялася за плячыма, і яна падтрымлівала яе заўсёды правай рукой. Цяпер жа яна пыліла подбегам, правая рука была ў сумцы — вісела на грудзях, і паштарка прытрымлівала яе левай рукой.

– Сынок, вестка добрая да нас ляціць — мне сон на тое быў, ды я табе казаць не адважвалася, — мама ўзнялася з лавачкі і паклала руку мне на плячо, нібыта загадвала сядзець на месцы. — І паштарка — бачыш? — радасна крочыць, не гэтак, як заўжды...

Мама, выяўляецца, не горш за мяне вывучыла хаду паштаркі. Звычайна і пастаіць ля нашага ганка, і пагамоніць, і нешта папытае, а тут толькі два словы сказала — "пісьмо вам" — і, аддаўшы канверт, скоранька пашыбавала далей.

Адрас на канверце быў напісаны тваёй, татка мілы, рукой!

Мы чыталі пісьмо ў садзе, каля бела-ружовай ігрушы — цвіла дружна і густа, як ніколі раней. Яблыні толькі-толькі браліся на цвет, а ігруша накінула на сябе дзівосны вэлюм — клёны захінулі яе ад паўночнага ветру. Спачатку чытаў я. Мама ж чытала моўчкі, і я не прасіў яе, каб чытала ўголас — глядзеў на старыя шпакоўні на клёнах. Гуд пчол — несціханы і густы — час ад часу прапынялі рэзкія і патрабавальныя крыкі маладых шпакоў. Ладныя ўжо птушаняты літаральна выхоплівалі ў старых ежу, глыналі яе прагна, давячыся і каўкаючы, і зноў шырока разяўлялі раты з жоўта-белай аблямоўкай каля дзюбак. Я глядзеў і на іх, і на старых шпакоў, якія ўвішна бегалі па градах, па зямлі ў малінніку, і адчуваў, як у душы маёй усё імкліва іначыцца. Сплываў страх, ясніўся далягляд заўтрашняга дня, куды апошнім часам мне боязна было зазірнуць. Я зноў быў тым адчайным і рызыкоўным партызанскім падрыўніком, да якога ўдвая старэйшы камандзір атрада ставіўся з павагай. Што трэба рабіць без вагання, не адкладаючы ні на адзін дзень? Змагацца разам з табой, адстойваць праўду і выбавіць цябе з бяды!

"Сталіну напішу. Правадыру нашаму напішу пісьмо!"

Я вырашыў гэта цвёрда, і там, пад клёнамі, пад басавіты гуд пчол і патрабавальны лямант маладых шпакоў, ведаў не толькі тое, што неадкладна зраблю гэта, але і тое, з якіх слоў складзецца мой ліст. Праўда, у той міг я шчэ не ведаў, што да пісьма Сталіну прыкладу і горкую тваю споведзь — неабвержны доказ таго, што ты і на шэлег не вінаваты.

Мама, аднак, засумнявалася: можа, сынок, пароць гарачку не варта, пачакаць, мабыць, лепей, пісьма ад таткі дачакацца наступнага, каб жа горай не было з нашае скаргі?

Чакаць? Рабіць яшчэ адну непапраўную памылку? Не, толькі не гэта! І не пра скаргу тут гаворка! Праўду хачу абараніць!..

Адаслаўшы ліст Сталіну, я на згоне другога дня адчуў раптам неўсвядомленую і незразумелую трывогу. Міналі дні, а яна не знікала. Нават уночы, здаралася, я прахопліваўся і доўга ляжаў без сну, убіўшы вочы ў столь, мучыў сябе развагаю і пытаннямі. Ці доказны ліст паслаў? Дык жа там, на паперы, і слёзы, і боль, і пакуты, і надзеі ўсіх нас! Дык жа там, у канверце, твой ліст, дзе кожнае слова — доказ, сведчанне таго, што не вінаваты ты, што не здрадзіў Бацькаўшчыне: сам кроў за волю яе праліваў і тое ж і дзеці твае рабілі, і ўсе мы табе, дарагі Правадыр, адданы бясконца...

Аднойчы я прачнуўся на досвітку — за вокнамі шугала залева. Ліло,як з вядра, мокрая лістота бэзу то мякка, то *рыпліва шлэпала па* шыбах, і я згадаў, што мяне абудзіла. Памятаеш, як мы пасварыліся з Генкам у лазні напярэдадні Новага года?.. Ты перадаў яму венічак, папрасіў *папарыць мяне, а сам пайшоў набраць з крана* вады халаднейшай. Генка пашараваў мне ёмка плечы, а потым, калі я павярнуўся і ляжаў на спіне, ён па грудзях маіх венічкам лагодна гэтак *паляпаў, а потым — плёх-плясь, плясь-плёх па* твары. Ды з вышыні, і венік з таго гарачы, што з агню! Бляшаны тазік — я ім тады Генку ўлупіў, месца не выбіраючы! — пакаціўся, заскакаў з *палка па прыступках*. І табе — *па назе*!.. Ты не сварыўся ў парыльні — на палку, акрамя нас, пяцёра мужчын было, — не сварыўся і дома, толькі расказваў маці пра вэрхал у лазні з гэткай *горыччу, што мне хацелася плакаць*. Не лепей адчуваў сябе, помніцца, і Генка...

Дык вось той вэрхал у лазні мне і сасніўся. Я ляжаў на ложку, слухаў, як мокрае голле бэзу шлэпае па адчыненай фортцы, і шчокі мае гарэлі, нібыта іх толькі што адхвасталі гарачым венікам. Жахлівая думка цюкнула мне ў галаў: нешта важнае я ўпусціў, напісаў не вельмі пераканаўча Сталіну, таму і няма гэтак доўга адказу. А следам новая трывога падкацілася да сэрца. Бельскі, мой непасрэдны начальнік у рэдакцыі, якому я шмат чым у жыцці абавязаны і які па-сяброўску неаднойчы ратаваў мяне і ўбярог ад бяды вялікай — я табе пра гэта шчэ напішу! — па дзіўнай выпадковасці прачытаў мой ліст да правадыра. Гэтаму чалавеку я давяраў, як самому сабе. А што як памыліўся я? А што калі ён нейкія захады зрабіў? Ён жа не ўхваліў мой намер, не раіў пасылаць пісьмо Сталіну. Добра, што я не паслухаў яго.

Я ўзняўся, прачытаў чарнавік свайго пісьма, паклаў яго на ранейшае месца — хаваў гэтыя дзве няпоўныя старонкі ў лоўка падрэзанай і падклеенай вокладцы атласа — і зноў зашыўся пад коўдру. Дождж аціх, я слухаў мяккае шапаценне мокрага бэзу і быў перакананы, што пісьмо складзена добра, доказна. А вось Бельскі... Каб у часе таго начнога майго дзяжурства адчайна не закрычала на вуліцы дзяўчына, каб не выскачыў я з рэдакцыйнага пакоя на дапамогу, каб не пакінуў ліст на стале, каб не ўвайшоў у кабінет Бельскі... Выпадковасць, што ён зайшоў у пакой, калі мяне там не было?.. А што як не выпадковасць? Я табе абавязкова напішу пра загадкавую, але вызначальную ролю выпадковасцяў у маім жыцці, выпадковасцяў, што крута іначылі мае жыццёвыя дарогі. А што, як зайшоў тады Бельскі ў кабінет з нейкім пэўным разлікам?..

Ранкам — пасля камандзіроўкі ў мяне быў вольны дзень — было сорамна за начныя думкі і падазронасць.

*Ранкам паштарка прынесла ліст на маё імя з* Масквы.

Да Сталіна маё пісьмо не дайшло — я гэта зразумеў адразу ж, як толькі распакаваў вельмі *лёгенькі і тонкі канверт. Нейкі следчы з* Упраўлення па справах рэабілітацыі паведамляў, што "...для пересмотра дела вашего отца Смолича А. Л. нужных оснований не найдено". У маёй галаве пульсавалі дзіўныя бомы, калола ў грудзях, я доўга і тупа глядзеў на гэтыя радкі, а ўся існасць як бы скамянела. Потым крыху праяснілася ў галаве. Як жа гэта сталася? Я ж самому Сталіну *пісаў*! Мабыць, *па нейкіх* прычынах пісьмо маё да яго не трапіла!

На другі дзень я сказаў маме, што буду зноў пісаць пісьмо Правадыру. Яна ўстрывожылася, *прасіла не рабіць* гэтага, што добрага не будзе нічога, што, можа, татку сваім ліставаннем шкоды наробім. Маміна трывога надала мне рашучасці. Сядзець склаўшы рукі? Толькі не гэта! Нейкі чыноўнік не знайшоў "нужных оснований"? Дык няхай шукае, няхай папрацуе больш старанна — яму за гэта грошы плацяць! Хай, зрэшты, уважліва прачытае бацькаву споведзь!

Я перапісаў той, першы, ліст, і да новага дадаў скаргу на чэрствасць чыноўніка, чыё прозвішча стаяла пад сухой канцылярскай адпіскай, на ягоную нядбайнасць і бяздушнасць.

Справіўся позна ўвечары, калі ацямнела ўжо, і тут жа пабег на пошту. Вякнула вечка паштовай скрынкі, і ў сярэдзіне яе нешта зашорхала, нібыта мыш прабегла пад старымі шпалерамі, і я, пагладзіўшы халодную сінюю бакавіну скрынкі, ціха прамовіў запавет свайго партызанскага камісара, адрасаваўшы яго табе: "Нічога, бацька, прарвём аблогу. Як не перапаўзём, дык пераскочым".

А на душы было пагана і тужліва. Але ранкам настрой палепшыўся — атрымалі ад цябе пісьмо. Ты пісаў, што прыслаў табе пасылку і грошы дзядзька Павал і цётка Фаіна з Ленінграда, што ў цябе ўсё ёсць, нават залішне, і каб мы не турбаваліся, нічога не пасылалі, пакуль не дасі нам знак. Пахваліўся добрай навіною — за стараннасць і кемлівасць прызначылі цябе брыгадзірам грузчыкаў, і ў брыгадзе народ працавіты, і штодня кожны выконвае па дзве нормы амаль, і за гэта атрымаў дазвол пасылаць



беларусы! Хто зробіць за нас нашу справу?" Гэта спадарыня Клаўдзія Каляда згуртоўвала людзей, не дазваляла ім забыцца. Яна была адной са стваральніц Беларускага жаночага згуртавання ў Кліўлендзе (1952 г.), рыхтавала выставы, вечарыны, канцэрты, беларускія школкі.

Ірэне было з каго браць прыклад. Скончыўшы амерыканскую вышэйшую школу, бізнес-каледж, Ірэна стала актывісткай беларускай суполкі. Муж Ірэны, Юры Смірноў, сын святара (паходжаннем з Кобрына), цалкам падзяляе ідэі і захапленні жонкі.

Ірэна Каляда-Смірнова прыехала ў Беларусь у 1992 годзе, у часы адлігі. Яна радавалася, што адчыняюцца беларускія школкі, што беларуская мова гучыць ва ўрадавых структурах. Але эканамічнае становішча краіны стала для Ірэны шокам. Яна чула, што жыць цяжка, але не думала, што людзі даведзеныя да жабрацтва. Тое, што дзяржава рабіла для "чарнобыльскіх" дзяцей, было недастатковa.

Ірэна вярнулася ў Амерыку і менавіта для дапамогі хворым дзецям стварыла дабрачынную арганізацыю "Этнічны голас Амерыкі", а пры ёй — гульню "Бінга" (кшталту "Рускага лато").

**К. П.:** Што такое "Бінга"?

**Н. В.:** Падобных дабрачынных гульняў багата ў Амерыцы. Але ніводная з іх не стала такой выніковай, дзейснай. На сабраныя грошы каля 500 дзетак штогод выязджаюць на аздараўленне за мяжу. Сёлета Мазырскі раён атрымаў 18 тон гуманітарнай дапамогі (вопратку, коўдры). Усяго ж аздаравіліся каля 5 тысяч дзяцей.

**К. П.:** Хто і якім чынам адбірае дзетак для аздараўлення?

**Н. В.:** Ірэна мае сваіх прадстаўнікоў у Мазыры. Яны ходзяць па школах, дзіцячых дамах, шукаюць самых недагледжаных, забытых дзетак, з самай глыбінкі. Вось прыклад: у мінулым годзе на аздараўленні была дзяўчынка, якая не ведала, што такое... зубная шчотка. А вось што адбылося сёлета. 50 дзяцей прыехала адпачыць у санаторый. У першы дзень — надзвычайнае здарэнне: ва ўсіх баляць жываты. Медыкі спалохаліся, кінуліся правяраць ежу, рабіць аналізы. Вынік — пераяданне! А дзяцей жа проста накармілі. Значыць, дома, у Беларусі, яны недаядалі.

**К. П.:** На жаль, ніводная хваля эміграцыі з Беларусі не выклікала хвалю дабрачыннасці для Беларусі. Спадарыня Ірэна застаецца адной з нямногіх. Што ж такое павінна быць у чалавеку, каб вылучала яго спагадлівасцю?

**Н. В.:** Мусіць, трэба такім нарадзіцца. Чалавек, які перажыў трагедыю ў жыцці, разумее чужы боль. Мая маці, рэжысёрка Вацлава Вярбоўская, спытала неяк у Наталлі Арсенневай: "Што такое Чалавек з вялікай літары?" "Той, хто адчувае, як баліць іншаму", — адказала паэтка. Ірэна — адчувае. Калі галінку зломяць, у Ірэны мяняецца твар. Каб прыносіць менш болю, яна нават стала вегетарыянкай. Ірэна — вельмі прыгожая, вельмі жаноцкая. Яна хоча, каб усе й усё вакол былі прыгожымі. У яе дома ў зале стаіць велізарная жывая елка. Адчуванне несупыннага свята. Гэтае свята яна хоча падараваць і іншым. Яна дапамагла і майму сыну — аплаціла вельмі дарагое лячэнне. А яшчэ Ірэна вельмі сентыментальная. Са сваёй паездкі на Радзіму яна хацела прывезці ў Кліўленд звычайнага беларускага катка. Вельмі перажывала, што не атрымалася: карантын для жывёлаў у Штатах на паўгода.

**К. П.:** У спадарыні Ірэны оперны голас. Чаму яна не выбрала кар'еру спявачкі?

**Н. В.:** Настаўнікам Ірэны быў кампазітар Мікола Равенскі. Голас у яе сапраўды цудоўны. Ніводны канцэрт у суполцы не абыходзіцца без Ірэны. Некаторы час яна ўзначальвала беларускі хор у Кліўлендзе. Але вучоба каштуе дорага, таму Ірэна была вымушаная сысці ў бізнес. Яна столькі магла б дасягнуць у творчасці! І ўсё-ткі я веру, што Гасподзь выбраў для яе найлепшы шлях. Толькі яна, такая моцная і чуллівая да чужога гора, магла стварыць гэтае "Бінга".

**К. П.:** Ці спадарыня Ірэна цікавіцца палітыкай Беларусі?

**Н. В.:** Вядома. Яна вельмі перажывае за ўсё, што адбываецца тут сёння. Якія б ні былі эканамічныя цяжкасці, чалавек павінен хаця б мець магчымасць вольна выказаць сваю думку.

**К. П.:** На вашу думку, што магла б сказаць спадарыня Каляда-Смірнова тым беларусам, якія сёння мараць стаць эмігрантамі ці разважаюць пра яе?

**Н. В.:** Мы размаўлялі пра гэта з Ірэнай. Яна не мела выбару: застацца або не ў Беларусі. Але яна перкананая: жыць трэба на Радзіме. Большасць эмігрантаў "растварaецца", яны непатрэбныя ТАМ. Але яны шмат могуць зрабіць, калі застануцца на сваёй зямлі.

**К. П.:** Ці былі заслугі спадарыні Ірэны нейкім чынам адзначаныя нашай дзяржавай?

**Н. В.:** Штогод Ірэна атрымлівае сотні лістоў і вершаў ад удзячных дзяцей. Калі скласці іх разам, магла б атрымацца невялікая кніжка. Пра Ірэну Каляду-Смірнову пішуць амерыканскія, славенскія і балгарскія газеты. Эмігранты прысвячаюць ёй свае вершы, апавяданні. Славенскі ўрад узнагародзіў Ірэну Ганаровым Дыпломам "За дапамогу чарнобыльскім дзецям". Добры прыклад і для нашага ўрада.

Жыве ў Амерыцы жанчына, але яна бліжэй да Беларусі, чымсьці многія з нас. У той час як беларусы робяцца духоўнымі эмігрантамі ў сябе на Радзіме, яна застаецца патрыёткай за акіянам. Выпрабаванні лёсу змушаюць іншых чарсцвець сэрцамі, яе ж сэрца поўніцца чуллівасцю. Поспех у бізнесе вучыць яе не ашчаджаць, а дзяліцца. Сапраўды, Ірэна Каляда-Смірнова "адна такая".

Можа, беларусы зблыталі талерантнасць з абыякавасцю, а спакой з халоднасцю? Мы адчуваем голад на дабрыню, але спатаііць гэты голад можна не карыстаючыся чужой спагадай, а ствараючы, памнажаючы дабрыню. Няхай прыкладам нам будзе спадарыня Ірэна з Кліўленда.

**Крысціна ПУЧЫНСКАЯ**

---

сваякам не адно, а два лісты ў месяц. "Так што чакайце: неўзабаве прыляціць новае пісьмо. Таму не спяшайцеся, адказ пашлеце, калі яго атрымаеце. І не прысылайце газет!!"

І гэта мяне дужа ўстрывожыла. Раней ты прасіў пісаць часцей, а тут раптам папярэджанне: не спяшайцеся. Чаму? Навошта? І чаму пасля слова "газет" ты паставіў два клічнікі? Нейкі ж, мыбыць, знак у гэтым ёсць. Але ж які? Які?!.

Адказаў на гэтае пытанне ў мяне не было. Карцела пагутарыць шчыра з Бельскім, параіцца. Але ў адносінах з ім адчуў я халаднаватасць і вырашыў рабіць тое, што ты нам параіў, — чакаць твайго адказу на нашы апошнія лісты. Мой ліст і мамін.

І мы дачакаліся. Але пісьмо было не з вострава Пуцяцін, не ад цябе. З Масквы! На здзіўленне хутка атрымаў я адказ на свой другі ліст Сталіну. Канверт быў цяпер зусім іншы, незвычайнага фармату, карычневага колеру, з доўгім сінім штэмпелем-пячаткаю на левым куточку. Быў той штэмпель цьмяны, як падмыты вадой, і я здолеў прачытаць толькі адзін верхні радок на ім: "Управление делами..."

У нядобрым прадчуванні ёкнула сэрца. Няўжо не дайшло пісьмо да Сталіна? Няўжо зноў той гад-чыноўнік затрымаў, не паказаў Сталіну мой ліст? Няўжо зноў бяздушны, мёртвы адказ?..

Я памыліўся толькі ў адным: другі чыноўнік падпісаў адказ. Але выснова была мне ўжо вядомая — слова ў слова. Не, адно слова было новае: "к сожалению". Гэтае слова надавала радку здзеклівае адценне, сэнс бяздумнай паспешлівасці, пагардлівасці і абыякавасці.

Добра, што мамы не было дома — засядала ў судзе, куды збіралася ў гэты раз з вялікай неахвотаю, — і пісьмо ад яе схаваў. Вырашыў не паказваць адказ з Масквы, нічога ёй не гаварыць, а новы ліст паслаць Сталіну.

Пісьмо я напісаў у той жа дзень, напісаў на рэдакцыйным бланку, запакаваў яго ў новы рэдакцыйны канверт — вялікую партыю прыгожых канвертаў толькі-толькі зрабілі ў друкарні. І адрас, і сам ліст я выдрукаваў на машынцы. У дачыненні да цябе, дарагі татка, я нічога не мяняў — ані слоўка, усё было так, як і ў ранейшых лістах. Затое бяздушным чыноўнікам дасталося. Я цяпер не прасіў, а патрабаваў сурова пакараць тых, хто хавае ад нашага дарагога Правадыра праўду, хто безадказна ставіцца да людскога гора, да людское бяды.

Друкаваць на машынцы ніхто не замінаў — была ноч, усе кабінеты пустыя. Дачытаў ліст, зноў перачытаў і застаўся задаволены і тэкстам і тым, што машынапісная старонка, складзеная ўдвая, добра месціцца ў канверт.

І зноў — выпадковасць. Пазваніў мой партызанскі сябар Сяргей і сказаў, што едзе ў Маскву атрымліваць нейкае новае тэлеграфнае абсталяванне. І я дзякаваў небу за гэты званок: Сяргей завязе мой ліст у сталіцу і там апусціць яго ў скрыню на галоўным паштамце.

Сяргей зрабіў тое, пра што я папрасіў. Ён вярнуўся з Масквы ў наступны чацвер, якраз праз тыдзень. А ў пятніцу мы атрымалі ад цябе ліст. Вельмі кароткі, мне падалося, што ты пісаў яго, некуды спяшаючыся. Паведамляў, што працуеш на новым месцы — брыгада разгружае вялізныя лайбы, на якіх прывозяць у порт дошкі, доўгія брусы з лістоўніцы і іншыя будаўнічыя матэрыялы. Брусы з лістоўніцы ты апісваў падрабязна: які іх колер, як паблісквае смала на тарцах, які водар струменяць, толькі хрушчы на іх не садзяцца. А на той лістоўніцы, што за нашым садам, ля дарогі да моста на Палаце, хрушчоў было шмат, на іх вы з Генкам лавілі галаўнёў. Ці ацалела ў вайну лістоўніца?..

Я напісаў табе пра тую лістоўніцу. Хадзіў каля яе, спрабуючы даўмецца, чаго яна гэтак завабіла цябе? Разумеў, што ёсць тут нейкі знак мне. Але які? Варажыў над гэтай загадкаю штовечар, углядаючыся ў фотакартку, якую ты прыслаў. Яна была зроблена за нейкія паўгода да вайны, на адваротным баку яе ў сорак трэцім, ужо ў палоне, ты зрабіў надпіс — прасіў тых, хто застанецца жывы, даслаць на наш адрас. Цяпер яна ляжала на маім стале, у роднай тваёй хаце, і я разумеў, што гэта таксама нейкі знак, сутнасць якога спасцігнуць мне аніяк не ўдавалася. Я яшчэ не разумеў, што пісьмо, у якім дайшла да нас твая фотакартка, гэта апошні ліст ад цябе.

З кожным тыднем расла ўва мне трывога і прадчуванне бяды. Мама ўчарнела — яе палохалі пачварныя сны. Але што трызнілася ёй у снах — казала вельмі скупа, альбо не казала зусім. Ад цябе — аніякіх вестак. З Масквы таксама не было адказу.

У снежні мама атрымала ліст з вострава Пуцяцін. У аўторак. А я вярнуўся з камандзіроўкі ў пятніцу — вярнуўся сярод ночы цягніком з Шайтарава, прыгожай вёскі на правым беразе Дзвіны каля Дрысы, — і калі мама дала той ліст, калі я ўбачыў не твой почырк на канверце... Не, спачатку я ўбачыў маміны вочы — атухлыя, як попелам пасыпаныя зрэнкі ў чорных і глыбокіх правалах вачніц, — і зразумеў, што ў канверце стаілася бяда. Пісьмо было адрасавана мне. Я пракляў той дзень, калі паехаў у камандзіроўку, бо мне трэба было прачытаць той жахлівы ліст першым. Мама аніколі не чытала лісты, што былі адрасаваны мне. Але на канверце адрас адпраўшчыка быў пазначаны чотка: "Прыморскі край, востраў Пуцяцін..."

У хаце было ціха, Валя і Віктар спалі, не было святла і ў вялікім — ад вуліцы — пакоі, дзе яшчэ жылі кватаранты. Мне і зараз цяжка браць у рукі той ліст і чытаць радкі, што і дагэтуль апякаюць сэрца. Але я зараз яго табе прачытаю, прачытаю, прачытаю...

А ў тую ноч мама прыпала да маіх грудзей, сціснула маю руку з канвертам, як бы збіраючыся скрышыць, раструшчыць яго, сказала пошапкам, голасам сіпатым і тужлівым:

– Яны забілі яго, сынок... Тваё ліставанне іх напалохала... Сябе ратуючы, яны татку пад абух і кінулі... Я ж казала табе, прасіла. Навошта тыя лісты былі? Навошта?!.

Лёс маіх лістоў да Сталіна мне адкрыўся праз шэсць гадоў пасля тае ночы. Выпадкова.

Праўда маміных слоў адкрылася таксама выпадкова. Але праз трыццаць пяць гадоў.

Цяпер — той жахлівы ліст. Нейкі Філяеў яго пісаў. Памятаеш гэтае прозвішча?..

---

# "Кантакты і дыялогі", № 12

Апошні ў мінулым годзе нумар адкрываецца раздзелам "Плён першага года новага тысячагоддзя". Гэтыя словы вынесены і на першую старонку вокладкі. Паведамляецца пра завяршэнне выдання матэрыялаў III Міжнароднага кангрэса беларусістаў "Беларуская культура ў дыялогу цывілізацый", праведзенага летась пад эгідай ЮНЕСКА, — выйшаў шосты зборнік, адначасова ён стаў 22-й кнігай "Беларусікі". В. Рагойша ("Малы з'езд славістаў") расказвае пра V Міжнародную навуковую канферэнцыю "Славянскія літаратуры ў кантэксце сусветнай", якая прайшла 16—18 кастрычніка мінулага года пад патранатам кафедры рускай літаратуры філфака БДУ (загадчык кафедры — прафесар С. Ганчарова-Грыбоўская). Змешчаны і такія паведамленні, як "Беларускі музей у Гайнаўцы", "Усталёўваюцца кантакты з чэхамі і палякамі", "Беларуска-літоўска-польская сустрэча", "Наша самая значная падзея", "Юбілей аб'яднання мастакоў Балтыі", "Чым быў 2001 год для венгерскіх беларусістаў?". У раздзеле "Артыкулы, даследаванні" Т. Занеўская выступае з артыкулам "Катэгорыя прыгожага (красы) у лірыцы Алеся Барскага". Тут жа прапануюцца "Успаміны пра Мікалая Улашчыка", напісаныя доктарам гістарычных навук, прафесарам Кіева-Магілянскай акадэміі (Кіеў) Ю. Мыцыкам. Аўтар сведчыць пра М. Улашчыка: "Сваю бацькаўшчыну — Беларусь ён любіў надзвычай моцна, без пышных дэкларацый. Гэта была сапраўдная, а не паказная любоў да радзімы. Усёй сваёй творчай працай Мікалай Мікалаевіч даказваў любоў да роднага краю. Ён любіў падкрэсліваць веліч дзеянняў беларусаў у мінулым, багацце беларускай мовы, шчодрасць беларускай душы. Для мяне асабіста ўпершыню па-сапраўднаму раскрылася Беларусь (да Мікалая Мікалаевіча я быў знаёмы ў Днепрапятроўску з некалькімі беларусамі, людзьмі сумленнымі, але ніхто з іх не быў вядомым беларусам). З душэўным болем Мікалай Мікалаевіч гаварыў пра недаследаванасць беларускай гісторыі, пра цяжкія моманты з недалёкага мінулага і сучаснага Беларусі. Так, ён параўноўваў стан вывучанасці фальклору (акрамя народных песень) у Эстоніі і Беларусі. Такое параўнанне было яўна не на карысць апошняй. І гэта пры тым, што беларускі фальклор з'яўляецца больш багатым!" Развагі прафесара Тэль-Авіўскага універсітэта Л. Смалявіцкага называюцца "Беларусь і Кітай — што агульнага?" Несумненна, не пройдзе незапатрабаваным і артыкул Н. Гарустовіч "Тэатральная антрэпрыза Беларусі на скрыжаванні традыцый і славянскіх уплываў". В. Качановіч ("У гонар Льва Шакуна") знаёміць з работай II Міжнароднай канферэнцыі "Пісьменнік — мова — стыль", прысвечанай 75-годдзю светлай памяці прафесара Л. Шакуна, аднаго з сузаснавальнікаў Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў. Л. Кулажанка ("Дачка двух народаў") гутарыць з паэтэсай Г. Сарацікян. "Упершыню на радзіме, у Карэлічах" — згадкі старшага навуковага супрацоўніка Карэліцкага краязнаўчага музея С. Кошур пра мастака В. Рамановіча, які пражыў усяго 34 гады і загінуў зімой 1945-га ў зняволенні. Супрацоўніца Цэнтра імя Ф. Скарыны К. Любецкая расказвае пра экземпляр беларускага моўнага падручніка П. Бакача на нямецкай мове ("Знаходка ў Берлінскай бібліятэцы"). У раздзеле "У Беларускім ПЭН-цэнтры" змешчаны вітанне і віншаванне В. Быкава, "Хроніка падзей", "Нататкі з Нарвегіі" Л. Баршчэўскага і яго пераклад вершаў Я.-Э. Вола. Прадстаўлены таксама раздзелы "Беларускае таварыства дружбы ў дзеянні", "Беларусы і ўраджэнцы Беларусі ў свеце", "Рэцэнзуем кнігі". Завяршае нумар раздзел "Надрукавана пра кантакты ў Беларусі і ў свеце", што ў першую чаргу выкліча вялікую зацікаўленасць усіх тых, хто надае вялікую ўвагу згаданай праблематыцы ў сваёй паўсядзённай дзейнасці.

**А. АН-ЕВІЧ**

---

**Калектыў рэдакцыі газеты "Літаратура і мастацтва" выказвае глыбокае спачуванне галоўнаму рэдактару часопіса "Полымя" Сяргею ЗАКОННІКАВУ ў сувязі з вялікім горам — смерцю бацькі Івана Васільевіча.**

**Саюз беларускіх пісьменнікаў выказвае шчырае спачуванне сябру сакратарыята СБП, галоўнаму рэдактару часопіса "Полымя" Сяргею ЗАКОННІКАВУ з прычыны напаткаўшага яго гора — смерці бацькі Івана Васільевіча.**

**Калектыў рэдакцыі і рэдкалегія часопіса "Полымя" выказваюць глыбокае спачуванне галоўнаму рэдактару часопіса ЗАКОННІКАВУ Сяргею Іванавічу ў сувязі са смерцю бацькі Івана Васільевіча.**

**Калектыў рэдакцыі часопіса "Нёман" выказвае глыбокае спачуванне паэту, галоўнаму рэдактару часопіса "Полымя" Сяргею ЗАКОННІКАВУ ў сувязі з вялікім і непапраўным горам, што напаткала яго, — смерцю бацькі Івана Васільевіча. Разам смуткуем і нізка схіляем галовы перад светлай памяццю існага беларускага інтэлігента і настаўніка.**

**Калектыў Беларускага дзяржаўнага архіва-музея літаратуры і мастацтва выказвае шчырае спачуванне дырэктару архіва ЗАПАРТЫЦЫ Ганне Вячаславаўне з прычыны напаткаўшага яе гора — смерці бацькі.**

